
MAGNUS DUCAT:
LITHUANIÆ &
RUSSIA ALBA
P. 65.
Wielisz
Wielisz flu:
Ducat et Palatinat
Nieper flu:
Smolensko
Smolenſk ensis
Mscyslaw
Mohilow
Radoml
Branska
Dezna flu:
Berneski
Poczop
MAGNUS
Starodub
Koreczew
DUCATUS
Nowogrod
SEVERIENSIS

## УВОДЗІНЫ ДА ДРУГОГА ТОМА

Другі том Вялікага гістарычнага атласа Беларусі ахоплівае перыяд ад Люблінскай уніі 1569 г. да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. На працягу ўсяго гэтага перыяду лёс Беларусі быў шчыльна звязаны з лёсамі іншых народаў, што ўтваралі Рэч Паспалітую: літоўцаў, палякаў, украінцаў, а таксама яўрэяў, татар і шэрагу іншых этнічных меншасцяў.

Дамінуючай у гэты час была польская культура, і гэта значна паўплывала на этнічныя адметнасці беларусаў. Старабеларуская канцылярская мова, якая ў папярэдні час была мовай справаводства не толькі на Беларусі, а і на іншых землях ВКЛ, паступова выходзіла з ужытку. З канца XVII стагоддзя яе амаль зусім перасталі выкарыстоўваць.

Рэлігійнае жыццё ў гэты час вызначалася сталым дамінаваннем каталіцкай царквы. Першапачатковыя поспехі рэфармацыі не атрымалі развіцця, і да канца XVI стагоддзя большасць магнатаў схілілася да каталіцызму. Берасцейская царкоўная унія 1596 г. уяўляла сабой спробу падпарадкаваць аўтарытэту Папы Рымскага шырокія колы праваслаўнага насельніцтва. Але гэтая спроба мела толькі частковы поспех. Яна прывяла да расколу на ўніятаў і тых, хто захаваў адданасць праваслаўю. Ідэйны канфлікт паміж імі ў значнай ступені вызначаў духоўнае жыццё Беларусі да канца перыяду, надаючы адпаведнае адценне і сацыяльным канфліктам.

Большасць помнікаў матэрыяльнай культуры, створаных у гэты час, нясе выразныя прыкметы гэтага панавання каталіцызму і польскасці, але разам з тым і шчыльных кантактаў з Заходняй Еўропай, якія здзяйсняліся пераважна намаганнямі спаланізаваных магнатаў. Даволі рана на беларускія землі пашырылася архітэктура ў стылі барока. Гэты стыль набыў у Беларусі і Літве характэрныя асаблівасці, што вызначаюць так званае „віленскае барока". Цэнтральныя часткі найбольш значных гарадоў набылі цалкам еўрапейскі выгляд, захоўваючы пры гэтым і непаўторны мясцовы каларыт. З захаду ж пашырылася пазней і сядзібна-паркавая архітэктура, якая надала новае аблічча беларускім краявідам.

Рэч Паспалітая ўяўляла сабой канфедэратыўную дзяржаву, у складзе якой ВКЛ захоўвала пэўную самастойнасць. На момант заключэння уніі грамадства новаўтворанай дзяржавы мела неблагія перспектывы развіцця ў тым кірунку, у якім на працягу наступных двух стагоддзяў развіваліся вядучыя еўрапейскія дзяржавы. Трэці статут ВКЛ, прыняты ў 1588 г., быў выдатным помнікам палітычнай і юрыдычнай думкі свайго часу. Была створана выбарная сістэма шляхецкага самакіравання, што ўяўляла эфектыўную процівагу манархічнаму самаўладдзю. Але гэтая сістэма не прадугледжвала ўдзелу ў грамадскім жыцці працоўнага насельніцтва, якое заставалася цалкам бяспраўным. У далейшым гэтая хіба не толькі не выпраўлялася, а ўсё больш паглыблялася, і нарэшце дзяржава трапіла ў пастку шляхецкай анархіі. У XVIII стагоддзі яна ўжо не магла процістаяць моцы вядучых еўрапейскіх дзяржаў, якія вырашалі на яе тэрыторыі свае ваенныя канфлікты, дыктавалі сваю волю, а ў рэшце рэшт проста сцёрлі Рэч Паспалітую з палітычнай карты.

У такой атмасферы, на фоне пастаянных ваенных канфліктаў, паланізацыі шляхты, працягваўся працэс фарміравання беларускага этнасу. Да канца перыяду беларуская мова жыла толькі ў форме мясцовых гаворак, якія паступова насычаліся паланізмамі, пры гэтым захоўваючы і канчаткова фарміруючы сваю фанетычную непаўторнасць. Вынікі гэтага працэсу былі асэнсаваны ўжо ў наступную эпоху, і працэс пашырэння ў грамадстве беларускай нацыянальнай свядомасці будзе адлюстраваны ў трэцім томе.

Першапачаткова планавалася выдаць „Вялікі гістарычны атлас" у трох тамах, пры гэтым другі том павінен быў ахопліваць і час існавання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі да таго моманту, як працэс нацыянальнага развіцця перайшоў са скрытай формы ў яўную. Але ў ходзе работы над томам стала відавочна, што ўсебаковае адлюстраванне гістарычных падзей і працэсаў патрабуе значна большай колькасці тэматычных карт, чым планавалася спачатку. Такая колькасць матэрыялу ў адным томе не змяшчалася. Таму рэдакцыйная калегія прыняла рашэнне пераўтварыць атлас у чатырохтомны, вярнуўшыся да больш традыцыйнага падзелу на перыяды: другі том цалкам прысвечаны часу існавання Рэчы Паспалітай, а трэці — перыяду Расійскай імперыі, уключна з пачаткам беларускага нацыянальнага руху. Адміністрацыйныя пераўтварэнні і іншыя падзеі на землях, уключаных у склад Расіі паміж 1772 і 1795 гг., таксама будуць адлюстраваны ў трэцім томе.

Другі том атласа стаў вынікам працы аўтарскага калектыву, асноўную частку якога склалі прадстаўнікі Інстытута гісторыі НАН Беларусі і шэрагу дзяржаўных архіўных устаноў. Аўтары імкнуліся як мага паўней данесці да шырокай грамадскасці свае веды, даць максімальна поўнае і навукова абгрунтаванае ўяўленне пра гэты важны перыяд нашай гісторыі, па магчымасці ўпісаць яе ў агульнаеўрапейскі кантэкст.

Аснову тома складаюць тры тэматычныя раздзелы. Першы з іх прысвечаны ваенна-палітычным падзеям, другі — сацыяльна-эканамічнаму развіццю, трэці — духоўна-культурнаму жыццю, уключна з пашырэннем розных канфесій.

Пры адлюстраванні адміністрацыйнай структуры ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай улічвалася, што фактычныя цэнтры некаторых адміністрацыйных адзінак адрозніваліся ад намінальных. Так, цэнтрам Упіцкага павета на поўначы Літвы ўвесь час было не мястэчка Упіта, а горад Панявеж. Гэтаксама Рэчыца выступала адміністрацыйным цэнтрам Рэчыцкага павета толькі да сярэдзіны XVII стагоддзя. У далейшым паветовыя соймікі праводзіліся ў Рагачове, там жа захоўваліся і паветовыя актавыя кнігі. Таму на картах адпаведнага перыяду цэнтрам павета пазначаны Рагачоў, хаця павет па-ранейшаму называўся Рэчыцкім.

Пры пазначэнні назваў населеных пунктаў перавага аддавалася гістарычным формам, замацаваным у крыніцах на старабеларускай мове, хаця ў польскамоўных крыніцах, абсалютна дамінуючых у XVIII стагоддзі, такія формы не ўжываліся. Таму на картах можна ўбачыць назвы „Горадна", „Менск", „Навагародак" і да т. п., а не „Гродна", „Мінск", „Навагрудак", як часам сустракаецца ў гістарычнай літаратуры. Увогуле рашэнне аб тым, які з варыянтаў напісання геаграфічных назваў замацаваць у атласе, прымалася калегіяльна навуковым рэдакцыйным саветам.

Як і ў першым томе, значную частку зместу складае падборка рэпрадукцый старых карт. Для гэтага тома яна цалкам падрыхтавана Л. Р. Казловым. Старыя карты даюць магчымасць уявіць, якая інфармацыя пра беларускія землі была агульнадаступнай адукаванаму чытачу ў той час. Так, выразна бачна, што ўяўленні пра межы ваяводстваў і паветаў, асабліва на ўсходзе Беларусі, даволі моцна адрозніваліся ад рэчаіснасці. На некаторых картах адлюстравана і замацаванне на нашых землях назвы „Белая Русь" (па латыні "Russia Alba"), якая спярша ахоплівала толькі Падзвінне і Верхняе Падняпроўе. Пазней, прыкладна з сярэдзіны XIX стагоддзя, яна замацавалася ў якасці этнічнай назвы, але гэта таксама з'яўляецца тэмай наступнага тома. Пакуль што, у залежнасці ад сітуацыі, беларусы звычайна называліся альбо ліцвінамі, альбо русінамі (руссю).

Вялікую частку тома займаюць Генеральная карта „Беларускія землі ў канцы XVIII стагоддзя" і геаграфічны паказальнік да яе. Ён атрымаўся вельмі вялікім у параўнанні з першым томам, што тлумачыцца значным павелічэннем колькасці паселішчаў, прыгаданых у крыніцах. Большасць з іх адлюстроўваецца на гістарычных картах упершыню, даючы магчымасць карыстацца гэтай інфармацыяй краязнаўцам і ўсім зацікаўленым. Апрача паселішчаў, на Генеральнай карце пазначаны і межы большасці маёнткаў, а ў паказальніку — іх прыналежнасць пэўным уласнікам напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай.

Аўтарскі калектыў спадзяецца, што вынікі яго працы будуць карыснымі ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

Рэдакцыйны савет

# СПІС АРГАНІЗАЦЫЙ, УСТАНОЎ І АСОБ, ЯКІЯ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛ У СТВАРЭННІ ВЯЛІКАГА ГІСТАРЫЧНАГА АТЛАСА БЕЛАРУСІ

**Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, Беларускі навукова-даследчы цэнтр электроннай дакументацыі**

## СПЕЦЫЯЛЬНЫ ЗМЕСТ АТЛАСА РАСПРАЦАВАЛІ

Дацэнт кафедры права Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва, кандыдат гістарычных навук Я. К. АНІШЧАНКА (с. 34–38, 72–122)

Вучоны сакратар Беларускага навукова-даследчага цэнтра электроннай дакументацыі, кандыдат гістарычных навук Д. В. ВІЦЬКО (с. 26–30)

Вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук В. Ф. ГОЛУБЕЎ (с. 10–12, 44, 46, 49)

Вядучы палеограф Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Л. С. ІВАНОВА (с. 64)

Кандыдат гістарычных навук А. Р. КАЗЛОЎ (с. 126–168)

Намеснік дырэктара Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, кандыдат гістарычных навук Д. В. ЛІСЕЙЧЫКАЎ (с. 61)

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. У. МАЦУК (с. 32, 33)

Дырэктар Беларускага навукова-даследчага цэнтра электроннай дакументацыі, кандыдат гістарычных навук В. Л. НАСЕВІЧ (с. 45, 50, 72–122)

Загадчык аддзела археаграфіі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, кандыдат гістарычных навук В. С. ПАЗДНЯКОЎ (с. 57–59)

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. А. СКЕП'ЯН (с. 57–59)

Кандыдат гістарычных навук М. Ф. СПІРЫДОНАЎ (с. 16)

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. М. ФІЛАТАВА (с. 60, 62, 63, 65)

Кандыдат гістарычных навук В. М. ЦЕМУШАЎ (с. 16–25, 31, 39, 43, 44, 46–49)

Загадчык сектара ЦНБ імя Якуба Коласа, кандыдат гістарычных навук А. І. ЦІТАВЕЦ (с. 65)

Загадчык аддзела гісторыі беларускай дзяржаўнасці Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук В. В. ЯНОЎСКАЯ (с. 60, 62, 63)

## У РЭЦЭНЗАВАННІ ПРЫНЯЛІ ЎДЗЕЛ

**Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова**

**Рэцэнзенты:**

Вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук В. Ф. ГОЛУБЕЎ

Загадчык аддзела гісторыі Беларусі Сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. І. ГРУША

Прафесар кафедры гісторыі і культуры Беларусі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова, кандыдат гістарычных навук П. Ф. ДЗМІТРАЧКОЎ

Дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Старажытнага часу і Сярэдніх вякоў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук А. Г. ДЗЯНІСАВА

Намеснік дырэктара Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, кандыдат гістарычных навук Д. В. ЛІСЕЙЧЫКАЎ

Дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Старажытнага часу і Сярэдніх вякоў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук А. У. ЛЮБЫ

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. А. СКЕП'ЯН

Дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Старажытнага часу і Сярэдніх вякоў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук У. А. СОСНА

Дызайн: В. А. ЛЯХОР

**Рэдагаванне, складванне і падрыхтоўка карт атласа да друку выкананы Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам „Белкартаграфія“ Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь**

Дырэктар М. А. ВЕРЗУН, намеснік дырэктара І. М. ШЛЫК, галоўны рэдактар Л. У. КАМПАНЕЦ, загадчык аддзела Т. І. ВАРАЧКІНА

Рэдактары атласа: Г. П. ЛЯХАВА, Ю. М. НЕСЦЯРОЎСКАЯ, Т. М. ПРАКАПОВІЧ

Тэхнічны рэдактар Н. М. ШЭВЕЛЬ

Карэктары: І. Г. ПЛЕСКАЧЭЎСКАЯ, Н. В. СПІРЫДОНАВА

# ЗМЕСТ

# ХРАНАЛОГІЯ
# АД 1569 ДА КАНЦА XVIII СТ.



**1558–1583** Лівонская (Інфлянцкая) вайна

**1562** Сымон Будны выдаў у Нясвіжы першую ў межах сучаснай Беларусі друкаваную кнігу на старабеларускай мове „Катэхізіс"

**1566** Прынящце ІІ Статута ВКЛ

**1569** Падпісанне Люблінскай уніі і ўтварэнне Рэчы Паспалітай

**1569** Пачатак дзейнасці езуітаў у ВКЛ (па запрашэнні віленскага біскупа Валяр'яна Пратасевіча ў ВКЛ прыбылі 13 прадстаўнікоў ордэна)

**1570** Падпісанне перамір'я ў Інфлянцкай вайне паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй

**1570** Заснаванне ў Вільні езуіцкага калегіума (у 1579 рэарганізаваны ў акадэмію)

**1570** Атрыманне мястэчкам Сураж права на самакіраванне (няпоўнае)

**1572–1592** Дзейнасць друкарні ў Лоску

**1572–1630** Жыццё і дзейнасць Мялеція Смятрыцкага – беларускага і ўкраінскага грамадска-палітычнага і царкоўнага дзеяча, пісьменніка-палеміста

**1573** Варшаўская канфедэрацыя прыняла акт аб свабодзе веравызнання ў Рэчы Паспалітай

**1573** Выданне закона, паводле якога феадалам Рэчы Паспалітай дазвалялася судзіць і караць сялян у сваіх маёнтках

**1573–1574** Праўленне Генрыха Валуа (Валезы), сына французскага караля Генрыха II. Першы выбарны кароль Рэчы Паспалітай. Падпісаў „Пакта канвента" і „Генрыкавы артыкулы"

**1576–1586** Праўленне ў Рэчы Паспалітай Стафана Баторыя з венгерскага роду Баторыяў Шомлія. Вярнуў Вялікаму Княству Літоўскаму Полацк падчас Інфлянцкай вайны, заснаваў Віленскую акадэмію

**1577** Пётр Скарга выдае кнігу „Аб адзінстве царквы Божай...", дзе прапагандуе ідэю аднаўлення Фларэнційскай уніі 1439

**1577** Атрыманне гарадамі Магілёў, Мазыр магдэбургскага права і мястэчкам Ула права на самакіраванне (няпоўнае)

**1579, жнівень** Войскі Рэчы Паспалітай пад камандаваннем Стафана Баторыя ўвайшлі ў Полацк

**1579** Заснаванне Віленскай езуіцкай акадэміі

**1579** Атрыманне мястэчкам Гарадная магдэбургскага права і мястэчкам Мір права на самакіраванне (няпоўнае)

**Каля 1580** Дзейнасць друкарні ў маёнтку Цяпіна пад Чашнікамі

**З 1580-х** Стварэнне школ пры праваслаўных брацтвах у Вільні, Магілёве, Берасці і іншых гарадах

**1580** Заснаванне ў Полацку езуіцкага калегіума – першай сярэдняй навучальнай установы ордэна езуітаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

**1581, 1 сакавіка** Утварэнне Трыбунала Вялікага Княства Літоўскага – вышэйшага судовага органа ВКЛ

**1581** Атрыманне горадам Пінск магдэбургскага права

**1582** Заключэнне Ям-Запольскага перамір'я паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй на 10 гадоў, завяршэнне Інфлянцкай вайны. Іван IV адмаўляецца ад заваяваных інфлянцкіх зямель на карысць Рэчы Паспалітай, а Стафан Баторый пагаджаецца вывесці армію з тэрыторыі Расійскага царства. Падпісанне міру зафіксавала паражэнне Расіі ў Інфлянцкай вайне

**1582** Выданне ў Кёнігсбергу першага сістэматызаванага апісання гісторыі Вялікага Княства Літоўскага „Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі" Мацея Стрыйкоўскага

**1582** Увядзенне ў Рэчы Паспалітай грыгарыянскага календара

**1583** Пачатак будаўніцтва замка ў Нясвіжы

**1584** Выступленне гараджан Полацка супраць езуітаў

**1584** Заснаванне ў Нясвіжы езуіцкага калегіума

**1586** Атрыманне горадам Нясвіж магдэбургскага права

**1587–1593** Пабудова ў Нясвіжы касцёла Божага Цела – першага касцёла ў стылі барока на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Пабудаваны італьянскім архітэктарам Дж. М. Бернардоні

**1587–1632** Праўленне ў Рэчы Паспалітай Жыгімонта III Вазы. Сын караля Швецыі Юхана III Вазы. Зацвердзіў Статут ВКЛ 1588, падтрымаў Берасцейскую царкоўную унію 1596, падтрымліваў паходы Ілжэдзмітрыя І і Ілжэдзмітрыя ІІ, ініцыятар войнаў Рэчы Паспалітай са Швецыяй за шведскі трон

**1588, 28 студзеня** Прынящце Трэцяга статута Вялікага Княства Літоўскага

**1589** Утварэнне маскоўскай патрыярхіі

**1589** Атрыманне горадам Кобрын і мястэчкамі Пружаны і Гарадзец магдэбургскага права

**1590** Атрыманне горадам Ліда і мястэчкам Любча магдэбургскага права

**1595–1596** Казацкія выступленні пад кіраўніцтвам Севярына Налівайкі

**1595, 25 снежня** Паражэнне казацкіх атрадаў пад кіраўніцтвам Севярына Налівайкі на Буйніцкім полі пад Магілёвам

**1596, кастрычнік** Падпісанне Берасцейскай царкоўнай уніі. Утварэнне ўніяцкай (грэка-каталіцкай) царквы

**1597** Атрыманне горадам Віцебск магдэбургскага права

**Каля 1597–1648** Жыццё і дзейнасць Афанасія Філіповіча – пісьменніка-палеміста, змагара супраць каталіцызму і Берасцейскай царкоўнай уніі

**1599** Шведскі рыксдаг пазбаўляе трона Жыгімонта Вазу

**1599** З'езд праваслаўных і пратэстантаў у Вільні прымае акт канфедэрацыі, які прадугледжвае сумесную барацьбу за рэлігійную роўнасць

**1600–1629** Вайна паміж Рэччу Паспалітай і Швецыяй

**1604–1605** Паход Ілжэдзмітрыя І на Маскву

**1605, 20 чэрвеня** Уступленне Ілжэдзмітрыя І у Маскву

**1605, 27 ліпеня** Каранаванне Ілжэдзмітрыя І у Маскве як цара Дзмітрыя І Іванавіча

**1605, 27 верасня** Кірхгольмская бітва. Войска Рэчы Паспалітай на чале з гетманам Янам Каралем Хадкевічам разбіла шведскую армію, якая страціла дзве трэці свайго складу

**1606** Выступленне жыхароў Магілёва на чале са Стахорам Мітковічам супраць гарадскога магістрата

**1607–1610** Паход Ілжэдзмітрыя ІІ на Маскву

**1609–1618** Вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй пасля заключэння Васілём Шуйскім ваеннага саюза са Швецыяй

**1610** Выступленне жыхароў Магілёва на чале з Іванам Харкавічам, Міхаілам Чабатаром, Лаўрам Міхайлавічам, Мікітам Мількавічам і Гаўрылам Іванавічам супраць гарадскога магістрата

**1610, 24 чэрвеня** Войска Рэчы Паспалітай пад камандаваннем гетмана Станіслава Жалкеўскага наносіць паражэнне расійска-шведскаму войску каля вёскі Клушына

**1610, верасень** Войскі Рэчы Паспалітай занялі Маскву, рускія баяры абралі царом сына Жыгімонта III Вазы Уладзіслава IV

**1611, сакавік** Стварэнне ў Расіі першага народнага апалчэння

**1612** Фарміраванне ў Расіі другога народнага апалчэння на чале з грамадзянінам Кузьмой Мініным і князем Дзмітрыем Пажарскім

**1612, 6 лістапада** Вызваленне Масквы народным апалчэннем на чале з К. Мініным і Дз. Пажарскім ад войск Рэчы Паспалітай

**1612** Пачатак дзейнасці аршанскага езуіцкага калегіума

**1612–1655** Дзейнасць кальвініцкай друкарні ў Любчы

**1613–1645** Праўленне ў Расіі Міхаіла Фёдаравіча Раманава, заснавальніка дынастыі Раманавых

**1615** Выступленне жыхароў Мазыра, незадаволеных дзейнасцю мясцовага старасты

**1615** Дзейнасць друкарні ў мястэчку Бялынічы

**1616** Выступленне гараджан Мінска, Мазыра і іншых гарадоў Беларусі супраць Берасцейскай царкоўнай уніі

**1616–1773** Дзейнасць друкарні ў Магілёве

**1617** Заснаванне князем Янушам Радзівілам кальвініскай гімназіі ў Слуцку

**1618** Заключэнне Дэулінскага перамір'я паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй на 14,5 гадоў. Да Рэчы Паспалітай адышлі Смаленск і чарнігава-северскія землі

**1618** Атрыманне мястэчкам Друя магдэбургскага права

**1619** Мялецій Смятрыцкі ў мястэчку Еўе каля Вільні выдае кнігу „Граматыкі славенскія..."

**1620** Атрыманне горадам Орша магдэбургскага права

**1622** Падпісанне перамір'я магнатаў ВКЛ са Швецыяй

**1623** Атрыманне гарадамі Невель і Себеж магдэбургскага права

**1623, 12 лістапада** Выступленне жыхароў Віцебска супраць Берасцейскай царкоўнай уніі, забойства ўніяцкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча. Пазбаўленне Віцебска права на самакіраванне

**1629** Заключэнне перамір'я паміж Рэччу Паспалітай і Швецыяй у Альтмарку (цяпер Новы Тарг у Польшчы) на 6 гадоў

**1629–1680** Жыццё і дзейнасць Сімяона Полацкага – беларускага і рускага грамадскага і царкоўнага дзеяча, педагога, пісьменніка і публіцыста

**1630–1650-я** Дзейнасць друкарні пры Куцеінскім манастыры

**1632** Прызначэнне Пятра Магілы кіеўскім мітрапалітам

**1632–1648** Праўленне ў Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV Вазы. Сын Жыгімонта III Вазы. Вярнуў у склад Вялікага Княства Літоўскага Смаленск, працягваў барацьбу за шведскі трон

**1632–1634** Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай (Смаленская вайна). Завяршылася ў 1634 Палянаўскім мірам, падпісаным у вёсцы Сямлёва (на рацэ Палянаўка) тэрмінам на 20 гадоў. Уладзіслаў IV адмаўляўся ад сваіх правоў на маскоўскі прастол і тытул

**1633** Выступленне гараджан Магілёва супраць мясцовых улад

**1633** Атрыманне горадам Крычаў і мястэчкам Лагішын магдэбургскага права

**Каля 1634–1689** Жыццё і дзейнасць Казіміра Лышчынскага – беларускага мысліцеля-атэіста

**1634** Атрыманне горадам Мсціслаў і мястэчкамі Бешанковічы, Бялынічы, Талачын, Чавусы магдэбургскага права

**1635** Афіцыйны падзел рускай царкоўнай іерархіі ў Рэчы Паспалітай на ўніяцкую (грэка-каталіцкую) і праваслаўную (грэка-рускую). Утварэнне Мсціслаўскай (Магілёўскай, пазней – Беларускай) праваслаўнай епархіі

**1635** Дзейнасць друкарні ў мястэчку Буйнічы

**1637** Атрыманне мястэчкам Ражана (Ружаны) магдэбургскага права

**1641** Атрыманне мястэчкамі Чэрыкаў і Астрын права на самакіраванне. Аднаўленне магдэбургскага права ў Віцебску

**1642** Атрыманне мястэчкам Дзівін магдэбургскага права

**1643** Атрыманне мястэчкам Казімірава Слабада (Казімір) магдэбургскага права

**1645** Атрыманне мястэчкам Малеч магдэбургскага права

**1648–1668** Праўленне ў Рэчы Паспалітай Яна II Казіміра. Сын Жыгімонта III Вазы

**1648–1651** Казацка-сялянская вайна на ўкраінскіх і беларускіх землях

**1649, студзень** Паўстанне гараджан Мазыра і сялян навакольных вёсак

**1649, 31 ліпеня** Першая Лоеўская бітва. Войска пад камандаваннем Януша Радзівіла разбіла казацкія атрады пад камандаваннем Міхайлы Крычэўскага

**1649** Паўстанні ў Тураве і Рэчыцы

**1649** Атрыманне мястэчкам Радунь магдэбургскага права

**1650** Выйшла кніга Казіміра Семяновіча „Вялікае мастацтва артылерыі"

**1651** Белацаркоўскі дагавор паміж казакамі і Рэччу Паспалітай

**Каля 1651–1714** Жыццё і дзейнасць асветніка і кнігавыдаўца Ілы Капіевіча

**1652** Атрыманне мястэчкамі Капыль і Жыровічы магдэбургскага права

**1653** Земскі сабор у Маскве прыняў рашэнне ўключыць Левабярэжную Украіну ў склад Расіі

**1654, 8 студзеня** Зацвярджэнне Пераяслаўскай радай пераходу Левабярэжнай Украіны ў падданства да расійскага цара Аляксея Міхайлавіча

**1654–1667** Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай

**1655, 31 ліпеня** Уступленне расійскіх войскаў у Вільню

**1655** Варшаўскі сойм забараніў польскім воінскім часцям пераходзіць межы ВКЛ без спецыяльнага дазволу

**1655–1660** Першая Паўночная вайна паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай, завяршылася Аліўскім мірам 1660. Ян II Казімір адмовіўся ад прэтэнзій на шведскі трон, а Швецыя захавала за сабой частку Інфлянтаў з Рыгай

**1655, кастрычнік** Кейданская унія. Януш і Багуслаў Радзівілы ініцыююць заключэнне уніі Вялікага Княства Літоўскага са Швецыяй, якая прадугледжвала аўтаномію ВКЛ. Акт уніі падпісалі 1142 шляхціцы

**1656, 24 кастрычніка** Віленскае перамір'е паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай

**1656–1664** Праца Сімяона Полацкага ў полацкай брацкай школе

**1658** Сойм Рэчы Паспалітай пастанавіў выгнаць арыян за межы дзяржавы

**1660** Паражэнне расійскага войска на чале з ваяводам І. Хаванскім у бітве пад Палонкай і арміі на чале з ваяводам Ю. Далгарукім у бітве на рацэ Бася пад Чавусамі

**1661, 4 лістапада** Паражэнне расійскага войска на чале з ваяводам І. Хаванскім у бітве пад Кушлікамі каля Полацка

**1661, лістапад** Здача расійскага гарнізона ў Вільні войскам Рэчы Паспалітай

**1664–1666** Дзейнасць у Берасці манетнага двара

**1667, 30 студзеня** Заключэнне Андрусаўскага перамір'я тэрмінам на 13,5 гадоў і завяршэнне вайны 1654–1667. Адыход да Расіі Смаленшчыны, Старадубшчыны, Левабярэжнай Украіны і Кіева

**1667** Адкрыццё першага на Беларусі паштовага маршруту Масква–Смаленск–Магілёў–Менск–Вільня

**1668** Сойм Рэчы Паспалітай прыраўняў адыход ад каталіцтва да дзяржаўнага злачынства

**1669–1673** Праўленне ў Рэчы Паспалітай Міхала Вішнявецкага

**1670** Узброенае выступленне жыхароў Горадна

**1672** Указ расійскага ўрада, згодна з якім купцам Рэчы Паспалітай дазвалялася гандляваць у гарадах Расійскай дзяржавы

**1673** Прыняцце рашэння, па якім кожны трэці сойм Рэчы Паспалітай павінен быў збірацца ў Вялікім Княстве Літоўскім у Горадне

**1674–1696** Праўленне ў Рэчы Паспалітай Яна III Сабескага

**1681** Выступленне праваслаўных жыхароў Полацка супраць уніяцкага мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскага

**1686** Падпісанне ў Маскве „вечнага міру", які зацвярджаў умовы Андрусаўскага перамір'я

**1689, 30 сакавіка** Пакаранне смерцю Казіміра Лышчынскага за напісанне трактата „Аб неіснаванні Бога"

**1696, 28 жніўня** Пастанова канфедэрацыі Польшчы і ВКЛ аб выкарыстанні ў афіцыйным справаводстве толькі польскай мовы

**1696–1702** Грамадзянская вайна ў ВКЛ

**1697–1706, 1709–1733** Праўленне ў Рэчы Паспалітай Аўгуста II Моцнага з саксонскай дынастыі Вецінаў

**1699** Падпісанне Аўгустам II тайнага расійска-саксонскага дагавора, накіраванага супраць Швецыі

**1700, 18 лістапада** Бітва пад Алькенікамі, паражэнне Сапегаў ад рэспубліканцаў на чале з Вішнявецкімі і Агінскімі

**1700–1721** Паўночная вайна паміж Паўночным саюзам (Расія, Данія, Саксонія, Рэч Паспалітая) і Швецыяй

**1701** Саксонскае войска Аўгуста II разбіта шведамі пад Рыгай

**1702, красавік** Шведскія войскі занялі Вільню і Горадна

**1702, май** Шведскія войскі занялі Варшаву

**1702** Заключэнне пагаднення паміж Расіяй і Вялікім Княствам Літоўскім аб ваеннай і грашовай дапамозе

**1703, вясна** Стварэнне ў Вільні Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ, якая падтрымала Аўгуста II і абвясціла саюз з Расіяй

**1704, 19 красавіка** Дэтранізацыя Аўгуста II прыхільнікамі саюза са Швецыяй

**1704, 12 ліпеня** Абранне каралём Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага (з 1709 у эміграцыі)

**1704, жнівень** Прыхільнікі Аўгуста II, аб'яднаныя ў Сандамірскую канфедэрацыю, падпісалі Нарвенскі саюз з Расіяй, па якім яна атрымала права весці ваенныя дзеянні на тэрыторыі Рэчы Паспалітай

**1704, восень** Заняцце Полацка расійскай арміяй А. Рапніна

**1705** Атрыманне мястэчкам Баруны магдэбургскага права

**1706, люты–май** Аблога і заняцце шведскімі войскамі Ляхавічаў і Нясвіжа, спаленне і разрабаванне радзівілаўскіх уладанняў у Навагародскім павеце

**1706** Заключаны Альтранштацкі мір паміж Карлам XII і Аўгустам II. Аўгуст II адмовіўся ад кароны Рэчы Паспалітай на карысць Станіслава Ляшчынскага і ад саюзу з Расіяй, абавязаўся выплаціць вялікую кантрыбуцыю шведам

**1706–1707** Дзейнасць у Горадне манетнага двара

**1707** Сустрэча з Пятром I у Львове прыхільнікаў Сандамірскай і Віленскай канфедэрацый, якія пацвердзілі саюз Рэчы Паспалітай з Расіяй

**1708, 14 ліпеня** Перамога шведскай арміі Карла XII над расійскімі войскамі пад мястэчкам Галоўчын

**1708, ліпень** Заняцце і разрабаванне Магілёва шведскай арміяй Карла XII

**1708, верасень** Заняцце Магілёва расійскімі войскамі

**1708, 9 кастрычніка** Разгром расійскімі войскамі шведскага корпуса пад камандаваннем А. Левенгаўпта каля вёскі Лясная на Магілёўшчыне

**1709, 8 ліпеня** Паражэнне шведскай арміі Карла XII пад Палтавай

**1710** Варшаўская вольная Рада аднавіла Аўгуста II на прастоле і пацвердзіла ўмовы „вечнага міру" 1686

**1716** Стварэнне Віленскай канфедэрацыі. Атрады канфедэратаў змагаліся з каралеўскімі і саксонскімі войскамі Аўгуста II на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай

**1717, 1 лютага** Першы „нямы" сойм (Варшаўскі). Фактычнае пагадненне з пратэктаратам Расіі над Рэччу Паспалітай. Кароль павінен быў вывесці з тэрыторыі Рэчы Паспалітай саксонскае войска, а шляхта – распусціць канфедэрацыі

**1717** Прыняцце „нямым" соймам пастановы аб абароне правоў праваслаўнай меншасці

**1717** Пачатак дзейнасці Налібоцкай шкляной мануфактуры Ганны Радзівіл

**1717–1795** Жыццё і дзейнасць Георгія Каніскага, праваслаўнага царкоўнага і грамадскага дзеяча, пісьменніка

**1720-я** Пашырэнне на тэрыторыі Беларусі піярскіх школ (калегіумаў)

**1721** Завяршэнне Паўночнай вайны, Ніштацкі мір паміж Расіяй і Швецыяй. Расія атрымала выхад да Балтыйскага мора. Рэч Паспалітую на перагаворы не запрасілі

**1726** Пачатак будаўніцтва гарадзенскага Новага замка – каралеўскай рэзідэнцыі і месца пасяджэнняў соймаў Рэчы Паспалітай

**1733** Падпісанне міру паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай

**1733–1735** Вайна за трон Рэчы Паспалітай на беларускіх землях

**1733–1763** Праўленне караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III

**1730-я** Афармленне архітэктурнага стылю „віленскае барока", асноўныя ідэі якога распрацаваў архітэктар Ян Глаўбіц

**1736–1844** Дзейнасць Слуцкай мануфактуры шаўковых паясоў, заснаванай Міхалам Казімірам Радзівілам

**1737–1846** Дзейнасць Урэцкай люстэркавай мануфактуры, заснаванай Ганнай Радзівіл

**1738** Венскі мір паміж Аўстрыяй і Францыяй, да якога ў 1739 далучыліся Расія і Рэч Паспалітая

**1740–1744** Паўстанне ў Крычаўскім старастве пад кіраўніцтвам Васіля Вашчылы

**1746–1753** Дзейнасць у Нясвіжы аматарскага тэатра Францішкі Уршулі Радзівіл, у якім былі пастаўлены 16 напісаных ёй п'ес

**1746–1817** Жыццё і дзейнасць Тадэвуша Касцюшкі, кіраўніка паўстання 1794

**1752 – 1867** Дзейнасць Нясвіжскай суконнай мануфактуры, заснаванай Міхалам Казімірам Радзівілам

**1754–1756** Паўстанне сялян Камянецкай і Стрэшынскай валасцей на Мазыршчыне

**1758** Атрыманне мястэчкам Ушачы магдэбургскага права

**1761** Атрыманне мястэчкам Шчучын магдэбургскага права

**1762** Атрыманне мястэчкамі Стары Мядзел, Бобр і Шклоў магдэбургскага права

**1762–1785** Дзейнасць у Горадне балетнага вучылішча

**1762–1796** Праўленне ў Расійскай Імперыі Кацярыны II

**1763** Утварэнне расійскіх гандлёвых консульстваў у Віцебску і Шклове

**1764** Утварэнне ў Вялікім Княстве Літоўскім Генеральнай канфедэрацыі, якая выступіла супраць магнатаў Радзівілаў

**1764** Сойм Рэчы Паспалітай устанавіў смяротнае пакаранне за змену каталіцкага веравызнання на іншае

**1764, 1768** Пастановы соймаў Рэчы Паспалітай аб забароне самавольнага збірання мыта з расійскіх купцоў

**1764–1795** Праўленне Станіслава Аўгуста Панятоўскага, апошняга вялікага князя літоўскага і караля Польшчы

**1765** Увядзенне ў Расіі новага мытнага статута, паводле якога жыхарам Рэчы Паспалітай дазвалялася правозіць бязмытна тавары ў Рыгу

**1765** Пачатак дзейнасці Віленскай астранамічнай абсерваторыі, дырэктарам якой да 1807 г. заставаўся ўраджэнец Гарадзеншчыны, прафесар Віленскай акадэміі Марцін Пачобут-Адляніцкі

**1765** Прызначэнне адміністратарам каралеўскіх маёнткаў ВКЛ Антонія Тызенгаўза, які пачынае ў іх гаспадарчую рэформу (працягвалася да 1777)

**1765–1783** Будаўніцтва Агінскага канала, які злучыў басейны рэк Нёмана і Дняпра

**1766** Увядзенне ў Рэчы Паспалітай адзіных мер даўжыні, вагі, аб'ёму

**1766** Сойм Рэчы Паспалітай адмовіўся ўраўняць у правах праваслаўных і пратэстантаў з каталікамі

**1767** Утварэнне дысідэнцкіх канфедэрацый: праваслаўнай у Слуцку, пратэстанцкай у Торуні

**1767** У Радаме ўтварылася прарасійская канфедэрацыя на чале з Каралем Станіславам Радзівілам (Пане Каханку)

**1768** Варшаўскі сойм выканаў патрабаванні Расіі і ўраўняў у правах праваслаўную і пратэстанцкую шляхту Рэчы Паспалітай з каталіцкай

**1768, люты** Утварэнне антыдысідэнцкай Барскай канфедэрацыі

**1769** Заснаванне ў вёсцы Бабоўня (Капыльскі раён) суконнай мануфактуры

**1769–1780** Дзейнасць у Горадне тэатра Тызенгаўза

**1771, верасень** Паражэнне канфедэрацкага войска на чале з Міхалам Казімірам Агінскім ад расійскага войска на чале з А. Суворавым каля мястэчка Стаповічы

**1771** Заснаванне Слонімскага тэатра Міхала Казіміра Агінскага

**1772, 5 жніўня** У Санкт-Пецярбургу падпісана канвенцыя аб першым падзеле Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй. Да Расійскай Імперыі далучана ўсходняя частка Беларусі

**1773** Скасаванне Папам Рымскім ордэна езуітаў (працягваў дзейнасць на землях, далучаных да Расіі)

**1773–1794** Заснаванне і дзейнасць у Рэчы Паспалітай Адукацыйнай камісіі – першага ў Еўропе міністэрства народнай адукацыі

**1775** У Горадне закладзены батанічны сад – першы на тэрыторыі Беларусі

**1775–1781** Заснаванне і дзейнасць у Горадне Медыцынскай акадэміі – першай вышэйшай медыцынскай навучальнай установы на тэрыторыі Беларусі

**1775–1784** Будаўніцтва Каралеўскага (Дняпроўска-Бугскага) канала, які злучыў рэкі Прыпяць і Буг

**1776, май** Пачатак выдання „Газэты Гродзеньскай" – першага перыядычнага выдання на тэрыторыі Беларусі

**1776** Пазбаўленне большасці гарадоў і мястэчак Беларусі магдэбургскага права (акрамя Берасця, Ваўкавыска, Горадна, Ліды, Мазыра, Менска, Навагародка і Пінска)

**1780 –1870** Дзейнасць у мястэчку Вішнева (Валожынскі раён) металургічнага завода

**1780** Пачатак дзейнасці суконнай мануфактуры ва ўладанні Сапегаў Ражана

**1781** Віленская акадэмія стала насіць назву „Галоўная школа ВКЛ"

**1783** Пачатак гаспадарчага выкарыстання Агінскага канала

**1784** Пачатак гаспадарчага выкарыстання Дняпроўска-Бугскага канала

**1788–1792** Чатырохгадовы („Вялікі") сойм

**1790** Беззямельная шляхта страціла права выбіраць на павятовых сойміках паслоў на сойм

**1791, 18 сакавіка** Рашэнне Чатырохгадовага сойма аб аднаўленні магдэбургскага права ў малых гарадах і мястэчках Рэчы Паспалітай

**1791, 3 мая** Прыняцце соймам Канстытуцыі Рэчы Паспалітай (Урадавай Уставы), якая ліквідавала канфедэратыўны характар Рэчы Паспалітай і адносную самастойнасць ВКЛ

**1791, кастрычнік** Прыняцце соймам пастановы „Узаемнае заручэнне абодвух народаў", якім гарантавалася аднолькавая колькасць прадстаўнікоў Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага ва ўрадзе

**1792, май–верасень** Стварэнне і дзейнасць Таргавіцкай канфедэрацыі, накіраванай супраць Канстытуцыі 3 мая

**1792, 11 мая** Увод на тэрыторыю ВКЛ 32-тысячнага расійскага войска на чале з генерал-аншэфам М. М. Крачэтнікавым

**1792, 14 чэрвеня** Уваход расійскіх войскаў у Вільню

**1792, 25 чэрвеня** Абвяшчэнне ў Вільні Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ. Фактычнае спыненне дзейнасці Канстытуцыі 3 мая

**1792, 24 ліпеня** Станіслаў Аўгуст Панятоўскі па патрабаванні Кацярыны II перайшоў на бок канфедэратаў

**1793, 23 студзеня** Падпісанне ў Санкт-Пецярбургу тайнай канвенцыі паміж Расіяй і Прусіяй, якая прадугледжвала другі падзел Рэчы Паспалітай

**1793, 17 чэрвеня – 23 лістапада** Другі „нямы" сойм (Гарадзенскі) – надзвычайны, апошні сойм Рэчы Паспалітай, скліканы для зацвярджэння руска-прускай канвенцыі ад 23 студзеня 1793 аб другім падзеле Рэчы Паспалітай. Да Расійскай імперыі далучана цэнтральная частка Беларусі

**1794, 24 сакавіка – 16 лістапада** Паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі

**1794, 23 красавіка** Паўстанцы ўзялі ўладу ў Вільні

**1794, 23 красавіка** Утварэнне Найвышэйшай літоўскай рады – урада ВКЛ у час паўстання 1794

**1794, 30 красавіка** Прыняцце літоўскай радай звароту „Да земляробаў і вясковага люду"

**1794, 7 мая** Абвяшчэнне паўстанцамі Паланецкага ўніверсала, які дазваляў сялянам атрымаць асабістую свабоду, пры ўмове, што яны разлічацца з землеўласнікамі і заплацяць дзяржаўныя падаткі

**1794, 12–16 чэрвеня** Рэйд коннага аддзела на чале з Міхалам Клеафасам Агінскім на Валожын, Івянец і Вішнева

**1794, 4 верасня** Бой паміж атрадам паўстанцаў і расійскімі войскамі каля мястэчка Любань

**1794, 17 верасня** Бітва каля вёскі Крупчыцы пад Кобрынам паўстанцкіх атрадаў пад кіраўніцтвам генерал-маёра К. Серакоўскага з расійскімі войскамі пад кіраўніцтвам А. Суворава

**1794, 10 кастрычніка** Бітва пад Мацяёвіцамі. Т. Касцюшка трапіў у палон і быў зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці Санкт–Пецярбурга

**1794, 4 лістапада** Авалоданне расійскім войскам пад камандаваннем А. Суворава прадмесцем Варшавы Прагай. 6 лістапада 1794 Варшава капітулявала

**1794 ці 1795** Стварэнне Міхалам Клеафасам Агінскім славутага паланэза „Развітанне з Радзімай"

**1795** Трэці падзел Рэчы Паспалітай паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй. Тэрыторыя Беларусі поўнасцю ўключана ў склад Расійскай Імперыі

**1795, 5 лістапада** Адрачэнне апошняга караля польскага і вялікага князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага ад кароны на карысць расійскай імператрыцы Кацярыны II



# ВАЕННА-ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ І АДМІНІСТРАЦЫЙНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ

## ВАЕННА-ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ І АДМІНІСТРАЦЫЙНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ

Першы тэматычны раздзел гэтага тома прысвечаны ваенным канфліктам, што ў той ці іншай ступені адбіваліся на жыцці Беларусі. Само ўтварэнне Рэчы Паспалітай было звязана з цяжкім становішчам, у якое трапіла ВКЛ падчас Інфлянцкай (Лівонскай) вайны. Ваенная дапамога з боку Польшчы была тым вырашальным аргументам, які прымусіў палітычную эліту пагадзіцца з абмежаваннем дзяржаўнага суверэнітэту і нават стратай значных тэрыторый, якія ў працэсе Люблінскай уніі былі непасрэдна ўключаны ў Каралеўства Польскае (Карону). Была створана федэратыўная дзяржава з агульнымі каралём і сеймам, але ў яе складзе паменшанае ў памерах ВКЛ захавалася як састаўная адзінка з асобным войскам і скарбам, на яе тэрыторыі дзейнічалі свае законы. Прыняты напярэдадні уніі Статут ВКЛ 1566 г. замацаваў падзел яго тэрыторыі на ваяводствы і паветы паводле польскага ўзору.

Першая карта раздзела мае аглядны характар. Яна паказвае тэрыторыю ВКЛ пасля Люблінскай уніі з улікам зямель, якія ў ходзе Інфлянцкай вайны, што яшчэ працягвалася, заставаліся пад кантролем Расіі. Адміністрацыйныя адзінкі паказаны, як на Генеральнай карце да першага тома, з улікам незавершанасці іх фарміравання. Той канчатковы выгляд, які набылі межы паветаў у працэсе больш позніх удакладненняў, знаходзіць адлюстраванне на далейшых картах.

Наступныя дзве карты адлюстроўваюць ход ваенных дзеянняў на заключным этапе Інфлянцкай вайны, вынікам якіх стала не толькі аднаўленне даваенай мяжы на поўначы, але і далучэнне да ВКЛ Веліжскай воласці. Такім чынам, унія забяспечыла бліжэйшую мэту: з дапамогай польскіх войскаў і палкаводчага таленту абранага ў 1575 г. караля Стафана Баторыя вайну ўдалося закончыць на спрыяльных для Рэчы Паспалітай умовах. Тэрыторыя былога Лівонскага ордэна, з-за якой гэтая вайна і пачалася, засталася пад пратэктаратам Рэчы Паспалітай. Яна была падзелена на дзве часткі: Задзвінскае княства, абвешчанае сумесным уладаннем (кандамініумам) Каралеўства Польскага і ВКЛ, і Курляндскае і Земгальскае герцагства, якое непасрэдна ў склад Рэчы Паспалітай не ўвайшло, але лічылася яе васалам. Ход ваенных дзеянняў (на асноўнай карце — абагульнены, на ўрэзцы — больш дэталёвы) адлюстраваны на падставе вялікай колькасці крыніц і літаратуры, прысвечаных падзеям Інфлянцкай вайны. Навуковы змест распрацаваны А. Янушкевічам, графічнае афармленне — В. Цемушавым.

Апрача непасрэдных, Люблінская унія мела і больш глыбокія наступствы. Актывізаваўся працэс паланізацыі літоўскай і рускай (беларускай і ўкраінскай у сучасным разуменні) шляхты, асабліва магнатэрыі. Разам з тым шляхта ВКЛ у яго новых межах, якія амаль супадаюць з тэрыторыяй сучасных Беларусі і Літвы (у тагачасным ужытку ўся гэтая тэрыторыя звычайна называлася Літвой, а яе жыхары — ліцвінамі), захавала падставы да апазіцыі палякам — калі не ў культурным, то ў эканамічным і палітычным сэнсах. Прынятая ў 1588 г. трэцяя рэдакцыя Статута ВКЛ, у распрацоўку якой значны ўклад унеслі магнаты рускага паходжання Л. Сапега і А. Валовіч, замацавала выключнае права ўраджэнцаў ВКЛ мець зямельную ўласнасць на яго тэрыторыі, а таксама ўжыванне рускай мовы (на той момант агульнай для абедзвюх частак ліцвінскай шляхты) у дзяржаўным справаводстве. На ўкраінскіх землях паланізацыя таксама выклікала процідзеянне, роля галоўнага барацьбіта супраціўлення неўзабаве перайшла там да казацтва. У канцы XVI ст. этнічнае і сацыяльнае процістаянне ўпершыню перарасло ў адкрыты канфлікт. Дзеянні казацкіх атрадаў Севярына Налівайкі ў 1595–1596 гг. ахапілі і паўднёвы ўсход Беларусі. З другога боку, кантакты паміж уласна польскай, украінскай і ліцвінскай (літоўска-беларускай) палітычнымі элітамі пасля уніі сталі больш шчыльнымі, дзякуючы неабходнасці засядаць у агульным сейме і вырашаць агульнадзяржаўныя справы. Ва ўсіх далейшых войнах Карона і Літва дзейнічалі, як правіла, разам. Гэта выразна праявілася ў новым канфлікце за Інфлянты, на гэты раз са Швецыяй, які распачаўся ў 1600 г., і ў спробах Рэчы Паспалітай умяшацца ва ўнутраныя праблемы Расіі падчас крызісу пачатку XVII ст. (так званай Смуты). Вынікі былі неадназначныя. Вайна за Інфлянты прывяла ў 1620 г. да страты большай часткі Задзвінскага княства на карысць Швецыі. Ваенная інтэрвенцыя ў Расію таксама скончылася няўдачай, але частку захопленых у яе працэсе тэрыторый Рэч Паспалітая, паводле Дэулінскага перамір'я 1618 г., здолела захаваць за сабой.

Агульны ход гэтых падзей адлюстроўвае карта „Вялікае Княства Літоўскае ў канцы XVI – першай трэці XVII ст." На ёй паказаны як раён дзеянняў казацкіх атрадаў, так і асноўныя падзеі Смуты, у якіх прымала ўдзел ліцвінская магнатэрыя (асабліва актыўна — Сапегі). На ўрэзцы паказаны ход бітвы са шведамі пад Кірхгольмам (суч. Саласпілс у Латвіі), у якой галоўны ўклад у бліскучую перамогу зрабіла цяжкая конніца ліцвінаў („крылатыя" гусары), сфарміраваная пераважна на беларускіх землях.

Расія, пераадолеўшы Смуту, не магла пагадзіцца са стратай Смаленска, Старадуба і Чарнігава. Барацьба за гэтыя тэрыторыі, што адбылася ў 1632–1634 гг., традыцыйна называецца Смаленскай вайной (яе ход адлюстраваны на карце „Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай. 1632–1634 гг."). Тады гэта не прывяло да выніку, але ў далейшым ваенная моц Расійскага царства няўхільна нарастала, у той час як Рэч Паспалітую ўсё больш раздзіралі сацыяльныя, этнічныя і канфесійныя супярэчнасці.

Асабліва вострае становішча склалася на Украіне, дзе ўсе тры формы супрацьстаяння ўзаемна ўзмацнялі адна адну: шляхта адчувала сябе палякамі і вызнавала пераважна каталіцтва, у той час як казакі і прыгоннае сялянства, асабліва на ўсходзе, захоўвалі рускую свядомасць і праваслаўную веру. У 1648 г. выбухнуў канфлікт, які ў сучаснай гістарыяграфіі вызначаецца як казацка-сялянская альбо вызваленчая вайна. Казацкая вярхушка на чале з гетманам запарожскага войска Б. Хмяльніцкім, абапіраючыся на незадаволенасць шырокіх мас, павяла справу фактычна да ўтварэння асобнай дзяржавы. Гэтыя падзеі адлюстраваны на дзвюх картах. Адна з іх асвятляе агульны ход падзей на Украіне, другая — ваенныя дзеянні, якія захапілі поўдзень Беларусі.

У 1651 г. польскай і ліцвінскай шляхце ўдалося адбіць казацкі націск, але не знішчыць ачаг супраціўлення. Неўзабаве Хмяльніцкі пайшоў на саюз з Масквой, штоператварыла ўнутраны канфлікт у міжнародны. Расія скарыстала яго для таго, каб не толькі вярнуць усё страчанае ў перыяд Смуты, але і прасунуць межы далёка на захад. Карта „Беларускія землі ў вайне Расіі з Рэччу Паспалітай. Пачатковы этап вайны. Лета 1654 — восень 1655 г." асвятляе агульны ход ваенных кампаній 1654 і 1655 гг., у выніку якіх Беларусь была занята расійскімі і казацкімі войскамі. Пры агульнай катастрафічнасці гэтых кампаній для ВКЛ, яго войска часам суправаджалі лакальныя поспехі. Адзін з іх — перамога ля вёскі Даманы — паказаны на ўрэзцы. Карта створана В. Цемушавым на падставе напрацовак Г. Сагановіча.

Летам 1655 г. у вайну ўключылася Швецыя, якая ўвяла свае войскі на тэрыторыі Польшчы і этнічна літоўскіх паветаў ВКЛ. Гэта нечакана аказалася выратавальным для гінучай дзяржавы: Расія неўзабаве ўцягнулася ў вайну са Швецыяй, што прымусіла яе заключыць перамір'е з Рэччу Паспалітай. Для рэштак Кароны і ВКЛ з'явілася магчымасць утрымліваць некаторы час баланс сіл паміж галоўнымі ворагамі. Але тэрыторыя Беларусі амаль на тры гады аказалася падзеленай гэтымі ворагамі. Большасць яе кантралявала Расія, поўдзень — украінскія казакі, а ўладанні слуцкай галіны Радзівілаў трапілі пад пратэктарат Швецыі пасля таго, як частка шляхты ВКЛ на чале з вялікім гетманам Я. Радзівілам восенню 1655 г. абвясціла аб выхадзе са складу Рэчы Паспалітай і заключыла ў Кейданах унію са Швецыяй. Агульнае ўяўленне аб гэтым складаным перыядзе дае карта „Беларускія землі пад расійскім, казацкім і шведскім кантролем. Канец 1655–1658 г.", створаная на падставе напрацовак А. Катлярчука.

Трохгадовая раўнавага процідзеючых бакоў пачала рушыцца з лета 1658 г., калі саюз паміж Расіяй і казакамі ператварыўся спачатку ў скрытую, а потым і адкрытую варожасць. На Украіне верх часова ўзялі прыхільнікі вяртання ў склад Рэчы Паспалітай. Паводле ўмоў Гадзяцкай дамовы паміж новым гетманам запарожскага войска І. Выгоўскім і камісарамі Рэчы Паспалітай, заключанай у верасні 1658 г., на паладных казакам землях абвяшчалася ўтварэнне „Вялікага Княства Рускага", якое аб'ядноўвалася з Каронай на прыкладна такіх умовах, як некалі ВКЛ. Пасля гэтага казацкія палкі пачалі ваенныя дзеянні супраць расійскіх войскаў. Тым часам і ў Літве прыхільнікі арыентацыі на шведаў пацярпелі паражэнне, што прывяло да аднаўлення дзяржаўнай уніі паміж ВКЛ і Каронай. З гэтага часу ваенная перавага пачала хіліцца на бок Рэчы Паспалітай. У пачатку 1667 г. было падпісана Андрусаўскае перамір'е, паводле якога паміж ВКЛ і Расіяй аднаўлялася мяжа, якая існавала да Смуты, а Украінскі гетманат (так і не ажыццёўленае „Вялікае Княства Рускае") аказаўся падзеленым паміж Каронай і Расіяй. Гэтыя падзеі адлюстраваны на карце „Другі этап вайны Расіі з Рэччу Паспалітай. 1659–1667 гг.", створанай паводле напрацовак Г. Сагановіча.

Некалькі наступных дзесяцігоддзяў ВКЛ залечвала нанесеныя вайной раны, у той час як на поўдні адбываліся складаныя падзеі. Правабярэжная частка Украінскага гетманата, якая фармальна заставалася ў складзе Кароны, працягвала бурліць. Перыядычна бралі верх прыхільнікі Польшчы, Расіі і поўнай незалежнасці, у гульню ўключылася і Асманская імперыя. Змены дзяржаўнай прыналежнасці ў гэты час адлюстраваны на аглядай карце „Цэнтральная і Усходняя Еўропа ў другой палове XVII ст.", створанай на падставе публікацый украінскіх, расійскіх і польскіх гісторыкаў.

Канчатковае афармленне ўсіх вышэйзгаданых карт з'яўляецца вынікам аўтарскай працы В. Цемушава. На вялікі жаль, у самым канцы гэтай працы ён памёр. Пры жыцці аўтара гэтыя карты не паспелі стаць аб'ектам рэцэнзавання і абмеркавання. Заўчасная смерць не дазволіла яму ўнесці напраўкі, якія, магчыма, сталі б вынікам такога абмеркавання, а таксама зрабіць уласныя каментарыі. У такіх абставінах галоўны рэдактар палічыў апраўданым пакінуць карты па магчымасці ў тым выглядзе, як яны былі прадстаўлены В. Цемушавым, не выпраўляючы тыя моманты, якія могуць падацца спрэчнымі. Мінімальныя ўдакладненні тычыліся толькі ўзаемнай узгодненасці карт паміж сабой, з іншымі картамі тома атласа, а таксама відавочных памылак друку.

Наступная серыя карт тычыцца ваенна-палітычных падзей, якія адбываліся ў ВКЛ у канцы XVII — пачатку XVIII ст. Карта „Грамадзянская вайна ў ВКЛ 1696–1702 гг." прысвечана ўзброенаму канфлікту, у які вылілася супрацьстаянне паміж магнацкай групоўкай Сапегаў і рэспубліканцамі. Апошнія ўяўлялі сабой кааліцыю апазіцыйных Сапегам магнацкіх кланаў (Агінскія, Пацеі, Коцелы, Вішнявецкія, Радзівілы), падтрыманых сярэдняй і дробнай шляхтай. Барацьба на пачатковым этапе вялася за ўладу над войскам, што двойчы прыводзіла да расколу ў яго шэрагах: у 1696 г. была створана канфедэрацыя войска ВКЛ, а ў 1698 г. узнікла канфедэрацыя войска і шляхты ВКЛ (абедзве — на чале з Г.А. Агінскім). Пацярпеўшы няўдачу на гэтым полі, рэспубліканцы (М.К. Коцел) перайшлі да склікання паспалітага рушання шляхты ВКЛ. Пры дапамозе шляхецкіх харугваў яны дамагліся частковага роспуску войска ВКЛ, а рэшту яго, якая захоўвала вернасць Сапегам, разграмілі 18 лістапада 1700 г. у бітве пад Алькенікамі. Пасля гэтага Сапегі вымушаны былі эміграваць, але ўзброеная барацьба вялася яшчэ некаторы час на Беларусі, дзе супраць улады рэспубліканцаў пачалося паўстанне ў сапежынскіх маёнтках (Дуброўна, Стары і Новы Быхаў, Лоеў і інш.). Указаныя падзеі ў беларускай і замежнай гістарыяграфіі даследаваны недастаткова. Карта створана Д. Віцько на падставе пераважна архіўных крыніц.

Некалькі карт прысвечаны падзеям Паўночнай вайны 1700–1721 гг. на тэрыторыі ВКЛ і Беларусі. Ваенныя дзеянні ў ходзе вайны вяліся тут у 1701–1709 гг. Яны разбіты на тры перыяды: 1701–1704, 1705–1706 і 1707–1708 гг., кожнаму з якіх прысвечана асобная карта, таксама асобна прадстаўлены баявыя дзеянні на поўдні Рэчы Паспалітай (на тэрыторыі сучаснай Украіны) у 1709 г., удзел у якіх бралі абодва войскі ВКЛ (сапежынскае і рэспубліканскае). На тэрыторыі Беларусі ў 1709 г. дзеянні насілі пераважна лакальны характар і на картах не адлюстраваны. Падрабязна паказана на адпаведнай карце бітва пад Лясной 9 кастрычніка 1708 г. — адна з самых значных бітваў у гісторыі Паўночнай вайны, якая адбылася на тэрыторыі Беларусі.

Карта „Вялікае Княства Літоўскае ў Паўночнай вайне 1700–1721 гг. Баявыя дзеянні ў 1701–1704 гг." адлюстроўвае ход некалькіх ваенных кампаній на тэрыторыі ВКЛ ва ўказаны перыяд. Дадзены этап пачынаецца ў канцы 1701 г. з інтэрвенцыі шведскіх войскаў на тэрыторыю Жамойці і Ковенскага павета, якая суправаджалася ўмяшальніцтвам у грамадзянскую вайну ў ВКЛ. Гэта прывяло да афармлення залежнасці варагуючых груповак ад замежных дзяржаў і ўступлення іх у 1702 г. у міжнародны канфлікт: Сапегаў — на баку Швецыі, рэспубліканцаў — на баку Расіі. Выкарыстаўшы плацдарм на поўначы ВКЛ, шведскія войскі на чале з Карлам XII у першай палове 1702 г. павялі наступленне на Варшаву з мэтай пазбаўлення трона Аўгуста II. У ВКЛ пэўны час заставаўся шведскі корпус К.Г. Мёрнера, які заняў Вільню. Але ў далейшым дзеянні на тэрыторыі Княства ва ўказаны перыяд насілі лакальны характар і вяліся пераважна сіламі рэспубліканцаў на курляндска-літоўскім памежжы пры ўдзеле абмежаванага расійскага кантынгента. Гэты перыяд заканчваецца ў 1704 г. з афіцыйным уступленнем у вайну ўсёй Рэчы Паспалітай. Даследаванне

дадзенага этапа Паўночнай вайны ў айчыннай гістарыяграфіі пачалося зусім нядаўна. Карта падрыхтавана Д. Віцько на падставе архіўных крыніц, таксама напрацовак шведскай, часткова расійскай ваеннай гістарыяграфіі, апублікаваных расійскіх і шведскіх крыніц.

Карта „Вялікае Княства Літоўскае ў Паўночнай вайне 1700–1721 гг. Баявыя дзеянні ў 1705–1706 гг." прысвечана адной з найбуйнейшых кампаній указанага перыяду на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Уступленне ў Паўночную вайну Рэчы Паспалітай і падпісанне адпаведнай дамовы з Расіяй у 1704 г. суправаджалася ў наступным годзе ўвядзеннем у ВКЛ асноўных сіл расійскага войска. Яшчэ праз год гэта прывяло да ператварэння Княства ў арэну баявых дзеянняў паміж войскамі Расіі і Швецыі з удзелам таксама войскаў Польшчы і ВКЛ (прыхільнікаў як Швецыі, так і Расіі). Ініцыятыва ў дадзенай кампаніі належала шведскім войскам Карла XII, на паўночным флангу якіх наступалі польскія і літоўскія прыхільнікі новаабранага караля Станіслава Ляшчынскага. Асноўнымі шведскімі аперацыямі на тэрыторыі сучаснай Беларусі былі блакада расійскага войска ў Гарадне і разгром украінскіх казацкіх палкоў, якія ваявалі на баку Расіі, у раёне Ляхавічаў, Нясвіжа і Клецка. Карта складзена Д. Віцько на аснове прац расійскіх, шведскіх і польскіх гісторыкаў, а таксама архіўных крыніц.

Карта „Вялікае Княства Літоўскае ў Паўночнай вайне 1700–1721 гг. Баявыя дзеянні ў 1707–1708 гг." асвятляе „беларускі" этап вялікага паходу з Саксоніі на Расію шведскага войска Карла XII, які здолеў выйсці толькі да ўсходняй мяжы ВКЛ, пасля чаго вымушаны быў павярнуць на Украіну. На Беларусі яму супрацьстаялі асноўныя сілы расійскага войска, якія занялі тут абарону, прарваную аднак шведамі 14 ліпеня 1708 г. у ходзе бітвы пад Галоўчынам. Асноўныя баявыя дзеянні гэтага перыяду вяліся на тэрыторыі Аршанскага павета і Мсціслаўскага ваяводства, якія ў гэты час вельмі моцна пацярпелі. Далейшае адступленне расійскага войска адбывалася з баямі і контрударамі, якія істотна стрымлівалі шведскае войска. Рашэнне Карла XII павярнуць на Украіну паставіла пад удар шведскі корпус А.Л. Левенгаўпта, які рухаўся з Курляндыі на злучэнне з галоўнымі сіламі. Бітва пад Лясной 9 кастрычніка 1708 г., дзе расійскае войска пад камандаваннем Пятра I разграміла корпус Левенгаўпта, і якая лічыцца адной з найважнейшых падзей Паўночнай вайны, дадзена асобнай картай (у два этапы). Карты складзены Д. Віцько на падставе пераважна вядомых крыніц і даследаванняў. Падзеі дадзенага перыяду дастаткова добра асветлены ў замежнай гістарыяграфіі, у тым ліку расійскай, прадстаўлены ў шведскіх хроніках Адлерфельда і Нордберга.

Карта „Баявыя дзеянні на поўдні Рэчы Паспалітай у 1709 г." прысвечана маласвядомай кампаніі на тэрыторыі сучаснай Украіны, удзел у якой бралі войскі Швецыі, Расіі, Польшчы і ВКЛ. З боку польскіх і літоўскіх саюзнікаў Швецыі гэта была спроба выйсці на злучэнне з войскамі Карла XII і І. Мазепы на Левабярэжнай Украіне, з боку сандамірскіх канфедэратаў і расійскіх войскаў — перашкодзіць ім у гэтым намеры. Кульмінацыяй гэтага супрацьстаяння стала бітва пад Наквашай 24 мая 1709 г., у якой літоўскае войска Я.К. Сапегі саступіла расійскаму корпусу Г. Гольца, што прадвырашыла ход усёй кампаніі. Карта складзена Д. Віцько на падставе апублікаваных і архіўных крыніц.

Наступны ваенны канфлікт адбыўся пасля смерці караля Аўгуста II Моцнага ў 1733 г. Прэтэндэнтамі на карону выступілі яго сын Аўгуст, які заняў пасля бацькі пасаду курфюрста Саксоніі, і С. Ляшчынскі, які ўжо быў раней абраны як стаўленік шведаў, але з 1709 г. знаходзіўся ў эміграцыі. Абодва абапіраліся на знешнія сілы: Аўгуста падтрымлівалі, апрача Саксоніі, Аўстрыя і Расія, С. Ляшчынскага — Францыя. Распачалася так званая „вайна за польскую спадчыну", падчас якой беларускія землі ў чарговы раз сталі арэнай дзеяння іншаземных войскаў. Яна завяршылася перамогай Аўгуста Саксонскага, які стаў каралём Рэчы Паспалітай пад імем Аўгуста III. Карта „Ваенныя дзеянні на тэрыторыі ВКЛ у перыяд бескаралеўя. 1733–1735 гг." выканана А. Мацуком на падставе апублікаваных і архіўных крыніц.

Дынастычная унія з Саксоніяй, адноўленая ў выніку „вайны за польскую спадчыну", абумовіла ўдзел Рэчы Паспалітай у так званай Сямігадовай вайне 1756–1763 гг., выкліканай супярэчнасцю Англіі і Францыі ў барацьбе за сусветную гегемонію. Саксонія разам з Аўстрыяй, Іспаніяй, Расіяй і Швецыяй падтрымала інтарэсы Францыі, а на баку Англіі выступілі Партугалія і Прусія. Мэты асноўных удзельнікаў вайны былі вельмі далёкія ад штодзённых патрэб насельніцтва Рэчы Паспалітай. Тым не менш польская і літоўска-беларуская шляхта была вымушана выступіць на падтрымку Саксоніі, якая стала аб'ектам агрэсіі з боку Прусіі. Прыйшлося пагадзіцца і на неаднаразовыя праходы праз Беларусь расійскай арміі, якая пры гэтым рабіла нямала шкоды мясцоваму насельніцтву. Карту „Сямігадовая вайна. 1756–1763 гг." выканаў А. Мацук на аснове прац нямецкіх, польскіх, расійскіх гісторыкаў, а таксама апублікаваных крыніц.

З сярэдзіны XVIII ст. усё больш відавочным станавіўся заняпад Рэчы Паспалітай. Процістаянне магнацкіх груповак амаль паралізавала работу сойма, чаму значна спрыяў прынцып аднагалосся пры прыняцці рашэнняў („ліберум вета"). Пастаянным фактарам стала абвяшчэнне палітычных саюзаў шляхты аднаго ці некалькіх паветаў — канфедэрацый. Вельмі часта яны абвяшчаліся пад дыктоўку моцных суседзяў — Прусіі і Расійскай імперыі. Для абгрунтавання свайго ўмяшання ў яе ўнутраныя справы абедзве дзяржавы абвясцілі сябе абаронцамі правоў канфесійных меншасцяў — пратэстантаў і праваслаўных. Новы кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, абраны ў верасні 1764 г., многімі ўспрымаўся як марыянетка імператрыцы Екацярыны II. Незадаволеная такім становішчам частка шляхты ў лютым 1768 г. абвясціла ў мястэчку Бар канфедэрацыю, накіраваную супраць караля і Расіі. У адказ Расія ўвяла свае войскі. Да лета 1772 г. па ўсёй дзяржаве адбываліся баі паміж канфедэратамі і інтэрвентамі, а таксама сялянскія хваляванні, адным з якіх быў масавы рух гайдамакаў на паўднёвым усходзе Беларусі. Ваеннае паражэнне канфедэратаў прадвызначыла адыманне ад Рэчы Паспалітай вялікіх тэрыторый і паглыбленне яе заняпаду.

Адлюстраванню гэтых падзей прысвечана карта „Вялікае Княства Літоўскае напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай. 1740-я–1760-я гг." Яна створана Я. Анішчанкам на аснове яго карт „Беларусь у другой палове XVIII ст.", змешчанай у Нацыянальным атласе Беларусі, і „Вялікае княства Літоўскае (сярэдзіна XVIII ст.). Барская канфедэрацыя", надрукаванай у першым томе „Гістарычнага атласа Беларусі" ў 2008 г. Ход ваенных дзеянняў часткова ўдакладнены аўтарам на падставе неапублікаваных крыніц з расійскіх архіваў. Межы дзяржаў, паветаў і тыпалогія населеных пунктаў прыведзены ў адпаведнасць з Генеральнай картай „Беларускія землі ў канцы XVIII стагоддзя".

Непасрэдным вынікам паражэння Барскай канфедэрацыі стаў першы падзел Рэчы Паспалітай, здзейснены ў жніўні 1772 г. праз траістае пагадненне Аўстрыі, Прусіі і Расіі і прымусова ўхвалены Трохгадовым соймам у верасні 1773 г. пад пагрозай далейшай інтэрвенцыі. Ад ВКЛ была адарвана і ўключана непасрэдна ў склад Расійскай імперыі тэрыторыя на ўсход ад Дзвіны, Друці і Дняпра, на якой пражывала каля мільёна чалавек. На працягу наступнага дваццацігоддзя патрыятычныя сілы Рэчы Паспалітай спрабавалі правесці рэформы, якія б дазволілі ўзмацніць войска і стварыць жыццяздольную палітычную сістэму. Найбольш рашучай спробай стала ўхваленне Чатырохгадовым соймам 3 мая 1791 г. Канстытуцыі Рэчы Паспалітай, якая скасоўвала прынцып „ліберум вета" і фактычна ператварала яе ва ўнітарную дзяржаву, знішчаючы разам з умовамі для шляхецкай анархіі і рэшткі самастойнасці ВКЛ. Яшчэ больш рашучы праект вызвалення сялян не быў падтрыманы, што ў далейшых падзеях пакінула шляхту сам-насам са значна больш моцнымі суседзямі. Праз год Расія інспіравала абвяшчэнне Таргавіцкай канфедэрацыі, якая аб'яднала праціўнікаў рэформ. Канфедэраты абвясцілі ўсе рашэнні Чатырохгадовага сойма несапраўднымі. У падтрымку канфедэрацыі былі зноў уведзены расійскія і прускія войскі, якія хутка падавілі супраціўленне прыхільнікаў Канстытуцыі. Такім чынам, зноў праз інтэрвенцыю быў прадвырашаны другі падзел Рэчы Паспалітай.

Карта „Беларускія землі ў 1772–1793 гг." паказвае лініі абодвух падзелаў, а таксама ход ваенных дзеянняў падчас расійскай інтэрвенцыі 1792 г. Змест яе распрацаваны Я. Анішчанкам на аснове яго ж карты „Беларускія землі ў часы падзелаў Рэчы Паспалітай (1772–1796 гг.)", надрукаванай у першым томе „Гістарычнага атласа Беларусі" ў 2008 г. Пры яе стварэнні выкарыстоўваліся працы польскіх даследчыкаў, дапоўненыя на падставе дакументаў з расійскіх архіваў.

Апошняй спробай захаваць дзяржаўны суверэнітэт стала паўстанне 1794 г., якое на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай узначаліў знакаміты генерал Т. Касцюшка — ураджэнец Беларусі, які сам сябе лічыў ліцвінам па паходжанні і палякам па нацыянальнасці. На не кранутай другім падзелам тэрыторыі ВКЛ быў створаны свой цэнтр паўстання, на чале якога стаў Я. Ясінскі. Паўстанцы абвясцілі сваёй мэтай аднаўленне дзяржавы ў межах 1772 г. і зварот да рэформаў, ухваленых Чатырохгадовым соймам. Аднак літоўскі цэнтр выступаў за захаванне самастойнасці ВКЛ, што выклікала напружанне паміж Касцюшкам і Ясінскім. Урэшце апошні за залішні радыкалізм быў адхілены ад кіраўніцтва паўстаннем. Вельмі хутка паўстанцы вымушаны былі перайсці да абарончых баёў і неўзабаве аказаліся выціснутымі з тэрыторыі Беларусі ў Польшчу, дзе паўстанне і было канчаткова падаўлена. Больш нішто не перашкаджала Расіі разам з Аўстрыяй і Прусіяй скасаваць дзяржаўнасць Рэчы Паспалітай, падзяліўшы рэшткі яе тэрыторыі. З гэтага моманту ўся Беларусь апынулася ў складзе Расійскай імперыі.

Ход паўстання на беларускіх землях адлюстраваны на карце „Паўстанне 1794 г. у Вялікім Княстве Літоўскім", распрацаванай Я. Анішчанкам на падставе тых жа крыніц, што і папярэдняя карта, а таксама карты „Паўстанне 1794 г. у Беларусі" з Нацыянальнага атласа Беларусі.

Завяршае раздзел аглядная карта „Падзелы Рэчы Паспалітай", на якой чытач можа пабачыць агульныя межы і храналогію падзелаў, а таксама раёны пашырэння Барскай канфедэрацыі і паўстання 1794 г.

В. Насевіч, Д. Віцько

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ Ў 1569 г. ПАСЛЯ ЎТВАРЭННЯ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ






- **ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў
- **ПОЛАЦК** Цэнтры ваяводстваў ВКЛ і Каралеўства Польскага
- РЭЧЫЦА Цэнтры паветаў ВКЛ
- НЯСВІЖ Іншыя гарады
- Абольцы Мястэчкі

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у 1569 г.
- Рэчы Паспалітай з 1569 г. (з яе васаламі)
- залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ВКЛ у 1569 г.
- ваяводстваў ВКЛ і Каралеўства Польскага
- паветаў ВКЛ
- тэрыторыі, якая засталася ў складзе ВКЛ паводле перамірнай граматы 1570 г., прапанаванай расійскім бокам
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ**

- Мазырскага павета, утворанага ў 1566 г. у складзе Кіеўскага ваяводства. Пасля 1569 г. застаўся ў складзе ВКЛ (далучаны да Менскага ваяводства)
- занятыя расійскімі войскамі да 1570 г.
- спрэчныя паміж ВКЛ і Расійскім царствам на працягу XVI ст.

Лічбамі на карце абазначаны:

1 Курляндскае біскупства (у 1560–1583 гг. – да Даніі)
2 Уладанні г. Рыга

1:3 000 000



Акт Люблінскай уніі

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ Ў ЧАС ІНФЛЯНЦКАЙ ВАЙНЫ 1570–1582 гг.




БІТВА ПАД КІРХГОЛЬМАМ. 27 верасня 1605 г.
ПЕРШЫ ЭТАП
ДРУГІ ЭТАП
Армія ВКЛ
пяхота
артылерыя
конніца
кірункі ўдараў
Шведская армія
пяхота
артылерыя
конніца
кірункі ўдараў і адступленне
ВІЛЬНЯ Сталіцы дзяржаў
ПОЛАЦК Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай
ОРША Цэнтры паветаў Рэчы Паспалітай і ўездаў Расіі
РОСЛАЎ Іншыя гарады
Крычаў Мястэчкі
Дэўліна Сёлы, іншыя населеныя пункты
ГРАНІЦЫ
дзяржаў у канцы XVI ст.
залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
ваяводстваў Рэчы Паспалітай
далучаных тэрыторый паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай у 1618—1632 гг.
Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
ТЭРЫТОРЫІ
ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
Каралеўства Польскага ў складзе Рэчы Паспалітай
страчаныя Рэччу Паспалітай па ўмовах Альтмаркскага перамір'я 1629 г.
частка Лівоніі (Інфлянтаў), якая пасля вайны са Швецыяй 1600—1629 гг. засталася ў складзе Рэчы Паспалітай
ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ
Паходы казацкіх атрадаў падчас паўстання пад кіраўніцтвам С. Наліваікі
Месцы і даты бітваў
Аблогі замкаў
паспяховыя
безвыніковыя
Польска-шведская вайна 1600—1629 гг.
Паход войскаў на чале з Я. К. Хадкевічам, К. М. Радзівілам і Я. Замойскім на Дэрпт (1601—1602 гг.)
Аблога Рыгі войскамі шведскага караля Густава II Адольфа (11 жніўня—15 верасня 1621 г.)
Паходы самазванцаў і інтэрвенцыя ў Расію
Паходы самазванцаў Ілжэдзмітрыя I і II (1604—1605, 1607—1608 гг.)
Паходы войскаў Рэчы Паспалітай (1609—1611, 1612, 1617—1618 гг.)
Паходы расійскіх войскаў
Прыкладная мяжа тэрыторыі, захопленай польска-літоўскімі войскамі да канца 1612 г.
Тэрыторыі, далучаныя да Рэчы Паспалітай па ўмовах Дэўлінскага перамір'я 1618 г.
Месца і дата заключэння Дэўлінскага перамір'я
1:3 700 000
Заўвага. Колер знакаў бітваў і аблог адпавядае колеру войска, якое перамагло, або ажыццявіла аблогу




| | |
|---|---|
| ВІЛЬНЯ | Сталіцы дзяржаў |
| ПОЛАЦК | Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай |
| ОРША | Цэнтры паветаў Рэчы Паспалітай і ўездаў Расіі |
| РОСЛАЎ | Іншыя гарады |
| Крычаў | Мястэчкі |
| Сёмлева | Сёлы, іншыя населеныя пункты |
| 1611 | Гарады і мястэчкі Смаленскага і Чарнігаўскага ваяводстваў, якія ў першай палове XVII ст. атрымалі магдэбургскае права |

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў, паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай у 1618–1632 гг.
- Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVII ст.
- ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- далучаных тэрыторый
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ**

- ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
- Каралеўства Польскага ў складзе Рэчы Паспалітай
- частка Лівоніі (Інфлянтаў), якая пасля вайны са Швецыяй 1600–1629 гг. засталася ў складзе Рэчы Паспалітай
- далучаныя да Расіі па ўмовах Палянаўскага міру і размежаванню 1634–1648 гг.

| | |
|---|---|
| 14.VI 1634 | Месца і дата заключэння Палянаўскага міру |
| 1645 | Гады перадачы тэрыторый Расіі |
| 1637 | Гады правядзення размежавання на ўчастках граніцы Рэчы Паспалітай з Расіяй |

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Паходы войскаў: Рэчы Паспалітай; Расіі

Месцы канцэнтрацыі войскаў: Рэчы Паспалітай; Расіі

Гарады і мястэчкі, занятыя расійскімі войскамі ў перыяд кастрычніка–снежня 1632 г.

Безвыніковыя аблогі гарадоў войскамі: Рэчы Паспалітай; Расіі

Месцы і даты бітваў, у якіх перамаглі войскі: 11–13.IX.33 Рэчы Паспалітай; 29.III.34 Расіі

Блакада расійскага лагера войскамі Уладзіслава IV у жніўні 1633 г.

15.II 1634 Заключэнне дагавора аб капітуляцыі арміі М. Б. Шэіна



Медаль у гонар атрыманай перамогі пад Смаленскам. 1634 г.

1:3 700 000

# КАЗАЦКА-СЯЛЯНСКАЯ ВАЙНА ПАД КІРАЎНІЦТВАМ БАГДАНА ХМЯЛЬНІЦКАГА. 1648–1651 гг.



# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў КАЗАЦКА-СЯЛЯНСКАЙ ВАЙНЕ 1648–1651 гг.







**Умоўныя знакі**

- ◉ **ВІЛЬНЯ** — Сталіцы дзяржаў
- ◎ **ПОЛАЦК** — Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- ⊙ ОРША — Цэнтры паветаў Рэчы Паспалітай і ўездаў Расіі
- ○ РОСЛАЎ — Іншыя гарады
- ○ Крычаў — Мястэчкі
- ○ *Беразай* — Сёлы, іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у сярэдзіне XVII ст.
- Рэчы Паспалітай і яе васалаў у сярэдзіне XVII ст.
- залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- Мяжа тэрыторыі, ахопленай казацка-сялянскай вайной

**ТЭРЫТОРЫІ**

- ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
- Каралеўства Польскае ў складзе Рэчы Паспалітай
- сумеснага літоўска-польскага ўладання
- Украінскай казацкай дзяржавы ў 1649 г.

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Паходы войскаў

**1648 г.**

- Паходы казацкіх загонаў
- Паходы войскаў ВКЛ

**1649 г.**

- Паходы казацкіх загонаў
- Зімовы паход Я. Радзівіла
- Іншыя паходы войскаў ВКЛ

**1651 г.**

- Паходы казацкіх загонаў
- Паходы войскаў ВКЛ

Месцы і даты бітваў, у якіх перамаглі: войскі ВКЛ; казакі

Вайсковыя лагеры ВКЛ

Месцы канцэнтрацыі казацкіх войскаў

Аблогі гарадоў: войскамі ВКЛ; войскамі Расіі і сіламі казакоў

Гарады і мястэчкі ВКЛ:

- занятыя казакамі
- якія не здолелі захапіць казакі

Раёны масавых сялянскіх выступленняў у 1648–1649 гг.

Актыўная падтрымка казакоў і паўстанні ў гарадах ВКЛ

1:3 700 000

Месцы размяшчэння войскаў: пяхоты; кавалерыі; артылерыі

Баявыя дзеянні: пяхоты; кавалерыі

Адступленні войскаў

Месцы размяшчэння лагераў

Абарончыя збудаванні (шанцы і інш.)

Фартыфікацыйныя збудаванні (люнет)

Казацкі абоз

Знішчэнні войскаў

Дарогі

Лясы (стан на сяр. XIX ст.)

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў ЧАС ВАЙНЫ РАСІІ З РЭЧЧУ ПАСПАЛІТАЙ (1654–1667 гг.)
## ПАЧАТКОВЫ ЭТАП ВАЙНЫ. Лета 1654 – восень 1655 г.




## БІТВА ПРЫ ВЁСЦЫ ДАМАНЫ. 12 лютага 1655 г.







| | |
|---|---|
| ВІЛЬНЯ | Сталіцы дзяржаў |
| ПОЛАЦК | Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай |
| ОРША | Цэнтры паветаў Рэчы Паспалітай, уездаў Расіі, палкоў Украінскага Гетманату |
| РОСЛАЎ | Іншыя гарады |
| Крычаў | Мястэчкі |
| *Даманы* | Сёлы, іншыя населеныя пункты |

### ГРАНІЦЫ

- дзяржаў з вясны 1654 г.
- Рэчы Паспалітай і яе васалаў з вясны 1654 г.
- залежных дзяржаў і тэрыторый
- ваяводстваў Рэчы Паспалітай

### ТЭРЫТОРЫІ

- ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
- Каралеўства Польскае ў складзе Рэчы Паспалітай
- сумесных літоўска-польскіх уладанняў
- Украінскага Гетманату на 1654 г.
- 8.VIII 1655 — Пагадненне ў Кейданах аб усталяванні пратэктарату Швецыі над ВКЛ

### ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ

Планы расійскага боку па авалоданні тэрыторыямі ВКЛ

- у кампаніі 1654 г.
- у кампаніі 1655 г.

Паходы войскаў па трох кампаніях: 1. Лета 1654 г., 2. Восень 1654 — зіма 1654—1655 гг., 3. Вясна – восень 1655 г.

Рэчы Паспалітай: 1, 2, 3

Расіі: 1, 2, 3 (асобна галоўнай арміі)

- Паходы казакоў (у 1654 і 1655 гг.)
- Дзеянні шведскіх войскаў (з лета 1655 г.)
- Адыходы і адступленні войскаў
- Раёны канцэнтрацыі войскаў ВКЛ восенню–зімой 1654 г.
- Гарады, вызваленыя ў кампанію восень 1654 – зіма 1654–1655 гг.
- Месцы канцэнтрацыі войскаў

Месцы бітваў, у якіх перамаглі войскі

- Рэчы Паспалітай
- Расіі

Аблогі гарадоў

- паспяховыя
- безвыніковыя
- Спаленне населеных пунктаў
- 12.II — Даты бітваў, аблог, захопаў і спаленняў населеных пунктаў (у залежнасці ад колеру паходаў)

1:3 700 000

Заўвагі. 1. Усе даты дадзены па старому стылю. Каб ведаць даты па новаму стылю трэба дадаць 10 дзён. 2. Колер знакаў бітваў, месцаў канцэнтрацыі войскаў, аблог, захопаў і спалення населеных пунктаў і іх даты, адпавядае колеру і датам паходаў.

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ ПАД РАСІЙСКІМ, КАЗАЦКІМ І ШВЕДСКІМ КАНТРОЛЕМ. Канец 1655–1658 г.




| | |
|---|---|
| **ВІЛЬНЯ** | Сталіцы дзяржаў |
| **ПОЛАЦК** | Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай |
| ОРША | Цэнтры паветаў Рэчы Паспалітай і ўездаў Расіі |
| РОСЛАЎ | Іншыя гарады |
| Крычаў | Мястэчкі |
| *Беразай* | Сёлы, іншыя населеныя пункты |
| ЧАВУСЫ | Палкавыя цэнтры |
| Крычаў | Сотенныя цэнтры |

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у сярэдзіне XVII ст.
- Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVII ст.
- залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- *ваяводстваў Рэчы Паспалітай*
- сучасная Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ**

- ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
- Каралеўства Польскага ў складзе Рэчы Паспалітай
- сумесных літоўска-польскіх уладанняў

Зоны кантролю над тэрыторыяй ВКЛ у 1655–1667 гг.

- Швецыі
- Рэчы Паспалітай
- Расіі
- Украінскага Гетманату
- Тэрыторыі, якія кантралявала Швецыя па-за межамі ВКЛ

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Шведскія гарнізоны ў ВКЛ (да сакавіка 1656 г.)

Працяг вайны Швецыі з Рэччу Паспалітай (Паўночнай вайны) 1655–1660 гг.
*(даты дадзены па новаму стылю)*

1. Рэйд Б. Радзівіла да Тыкоціна (люты 1656 г.)
2. Паход шведска-пруска-брандэнбургска-радзівілаўскага альянсу (верасень 1656 г.)
3. Паход шведска-прускага войска (кастрычнік 1656 г.)
4. Паход шведска-трансільванска-украінска-радзівілаўскага альянсу (красавік–май 1657 г.)

- Дзеянні войскаў Рэчы Паспалітай

Расійска-шведская вайна 1656–1658 гг.

- Паход расійскіх войскаў на Рыгу
- Тэрыторыі, занятыя расійскімі войскамі падчас вайны і замацаваныя за Расіяй па Валіесарскаму дагавору 1658 г.

Працяг вайны Расіі з Рэччу Паспалітай з 1658 г.

- Дзеянні войскаў Рэчы Паспалітай
- Дзеянні расійскіх войскаў

Пачатак расійска-ўкраінскага канфлікту

- Прыкладная тэрыторыя Чавускага (Беларускага) казацкага палка
- Спроба ліквідацыі Чавускага (Беларускага) казацкага палка расійскімі ваяводамі ў жніўні 1657 г.
- Выступленне палкоўніка І. Нечая супраць расійскай адміністрацыі (верасень 1658 г.)
- Паход расійскіх войскаў супраць І. Нечая (з кастрычніка 1658 г.)

Месцы і даты падпісання

- 20(30).X 1655 — уніі паміж ВКЛ і Каралеўствам Швецыя
- 24.X (3.XI) 1656 — пагаднення паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй (Віленскі трактат)
- 6(16).IX 1658 — Гадзяцкай дамовы. Вяртанне Украіны ў склад Рэчы Паспалітай

Месцы канцэнтрацыі войскаў

- Рэчы Паспалітай
- Расіі

- 8.X 1656 — Месцы і даты бітваў

Аблогі гарадоў

- паспяховыя
- безвыніковыя

Заўвага. Колер знакаў бітваў і аблог адпавядае колеру войска, якое перамагло або здзейсніла аблогу

1:3 700 000

# ДРУГІ ЭТАП ВАЙНЫ РАСІІ З РЭЧЧУ ПАСПАЛІТАЙ. 1659–1667 гг.










**ВІЛЬНЯ** — Сталіцы дзяржаў

**ПОЛАЦК** — Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай

ОРША — Цэнтры паветаў Рэчы Паспалітай і ўездаў Расіі

РОСЛАЎ — Іншыя гарады

Крычаў — Мястэчкі

*Андрусава* — Сёлы, іншыя населеныя пункты

ЧАРНІГАЎ — Палкавыя цэнтры ўкраінскай казацкай дзяржавы

30.I 1667 — Месца і дата заключэння Андрусаўскага перамір'я

### ГРАНІЦЫ

- дзяржаў на 1659 г.
- Рэчы Паспалітай з 1667 г.
- залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- далучаных тэрыторый
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

### ТЭРЫТОРЫІ

- ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
- Каралеўства Польскае ў складзе Рэчы Паспалітай
- сумесных літоўска-польскіх уладанняў
- Тэрыторыі, далучаныя да Расіі па ўмовах Андрусаўскага перамір'я 1667 г.
- Тэрыторыі, вернутыя ў склад ВКЛ у 1678 г.

### ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ

Паходы войскаў па перыядах (гады)

| | 1659–1660 | 1661–1662 | 1663–1666 |
|---|---|---|---|
| Рэчы Паспалітай | | | |
| Расіі | | | |

Паходы казакоў

Месцы канцэнтрацыі войскаў: Рэчы Паспалітай; Расіі

27.X 60 — Месцы і даты бітваў

Аблогі гарадоў: паспяховыя; безвыніковыя

Паўстанні або перавароты ў гарадах супраць царскіх уладаў

Заўвага. Колер знакаў бітваў і аблог адпавядае колеру войска, якое перамагло, або здзейсніла аблогу

1:3 700 000

# ЦЭНТРАЛЬНАЯ І УСХОДНЯЯ ЕЎРОПА ў другой палове XVII ст.




| | |
|---|---|
| ◉ ВАРШАВА | Сталіцы дзяржаў |
| ◎ МІТАВА | Сталіцы залежных дзяржаў |
| ⊙ Люблін | Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай |
| ● Вінніца | Палкавыя гарады Украінскай казацкай дзяржавы (у 1654 г.) |
| ○ Пінск | Іншыя гарады |
| ○ *Андрусава* | Іншыя населеныя пункты |

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у сярэдзіне XVII ст.
- залежных дзяржаў, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- далучаных тэрыторый
- Рэчы Паспалітай у канцы XVII ст.
- Свяшчэннай Рымскай імперыі
- Асманскай імперыі з яе васаламі ў 1683 г.
- „Рускага княства" паводле Гадзяцкай дамовы 1658 г.

**ТЭРЫТОРЫІ**

- сумесных уладанняў Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага
- Украінскай казацкай дзяржавы ў 1654 г.
- якія кантраляваліся ўладамі Б. Хмяльніцкага ў 1654—1657 гг.
- па ўмовах Андрусаўскага перамір'я 1667 г.
  - пакінутыя за Расіяй на 13,5 гадоў
  - перададзеныя Расіі на 2 гады
  - сумеснага расійска-польскага кіравання (з 1686 г. — пад расійскім пратэктаратам)
- вернутыя ў склад ВКЛ па дагавору ў Маскве 17 (7).VIII 1678 г.
- сцверджаныя за Расіяй па ўмовах „вечнага міру" (трактата Гжымултоўскага) 6.V (26.IV) 1686 г.
- Засожжа (Пасожскіх сёл), якія былі заняты пасля заключэння Андрусаўскага перамір'я казакамі гетмана Івана Самайловіча (перададзены Рэчы Паспалітай па ўмовах дагавора 1686 г.)
- прызнаныя спрэчнымі („нічыйнымі") паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай па ўмовах „Вечнага міру" 1686 г.
- захопленыя Асманскай імперыяй да 1683 г.
- Падольскага ваяводства, якія пераходзілі пад уладу Асманскай імперыі па ўмовах Бучацкага дагавора 1672 г.
- Украіны, якія адыходзілі да Асманскай імперыі паводле Жураўпенскага міру 1676 г.
- якія павінны былі заставацца незаселенымі аднаведна з Бахчысарайскім дагаворам 1681 г.
- якія пераходзілі да Рэчы Паспалітай і ўладанняў аўстрыйскіх Габсбургаў паводле Карлавіцкага міру 1699 г.
- уладанняў аўстрыйскіх Габсбургаў у сярэдзіне XVII ст.
- княстваў у Сілезіі (з гадамі далучэння да ўладанняў аўстрыйскіх Габсбургаў)
- далучаныя да курфюрства Брандэнбург (з датамі)

1:7 000 000

# ГРАМАДЗЯНСКАЯ ВАЙНА Ў ВКЛ 1696–1702 гг.



## БАЯВЫЯ ДЗЕЯННІ ў 1701–1704 гг.



## БАЯВЫЯ ДЗЕЯННІ ў 1705–1706 гг.



# БАЯВЫЯ ДЗЕЯННІ ў 1707–1708 гг.




ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ Ў ПАЎНОЧНАЙ ВАЙНЕ 1700–1721 гг.

## БІТВА ПАД ЛЯСНОЙ. 9 кастрычніка 1708 г.




**ПАЗІЦЫІ І БАЯВЫЯ ДЗЕЯННІ ВОЙСКАЎ**

расійскіх: пяхота; конніца; артылерыя; кірункі ўдараў і адступленне

шведскіх: пяхота; конніца; артылерыя; кірункі ўдараў і адступленне; шведскі абоз

вагенбург (часовае палявое ўмацаванне са счэпленых павозак)

1:45 000

## БАЯВЫЯ ДЗЕЯННІ НА ПОЎДНІ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ у 1709 г.




- ◎ ЛУЦК — Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- ⊙ ГАЛІЧ — Цэнтры паветаў ВКЛ і зямель Каралеўства Польскага
- ○ СТРЫЙ — Цэнтры паветаў Каралеўства Польскага
- ○ Заслаў — Іншыя гарады і мястэчкі
- ○ Накваша — Сёлы, іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у канцы XVII ст.
- Рэчы Паспалітай
- паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ваяводстваў Рэчы Паспалітай

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Паходы войскаў Расіі і саюзнікаў

- Гольца, Інфлянта — Расіі
- ВКЛ (Агінскага)
- Польшчы (Сяняўскага)

Швецыі і саюзнікаў

- Швецыі (Красава і Станіслава Лешчынскага)
- Сапегі, Коцаці і Русецкага — ВКЛ
- Польшчы (Патоцкага)

Месцы канцэнтрацыі войскаў

- Расіі і саюзнікаў: ВКЛ; Польшчы
- Швецыі і саюзнікаў: ВКЛ; Польшчы

24.V 1709 — Месцы і даты бітваў

Аблога Беражанаў

1:4 000 000

# ЦЭНТРАЛЬНАЯ І УСХОДНЯЯ ЕЎРОПА ў першай чвэрці XVIII ст.




| | |
|---|---|
| ● ВАРШАВА | Сталіцы дзяржаў |
| ◎ ПРАГА | Сталіцы залежных дзяржаў |
| ○ Полацк | Іншыя населеныя пункты |
| ◘ Батурын | Гетманскія рэзідэнцыі (з гадамі дзеяння) |

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у пачатку XVIII ст.
- залежных дзяржаў, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- аўтаномных тэрыторый
- далучаных тэрыторый
- уладанняў дынастыі Веціпаў (Аўгуста II Моцнага)
- Свяшчэннай Рымскай імперыі

**ТЭРЫТОРЫІ**

- далучаныя да Расіі па выніках Паўночнай вайны 1700–1721 гг. і ўмовах Ніштацкага міру (30.VIII 1721)
- уладанняў аўстрыйскіх Габсбургаў
- далучаныя да уладанняў аўстрыйскіх Габсбургаў па ўмовах Пажаравацкага дагавора
- уладанняў Асманскай імперыі (з васаламі)
- далучаныя да Асманскай імперыі па ўмовах дагавораў 1711 і 1712 гг.: трывала / часова
- Украінскага Гетманату ў гады праўлення І. Мазепы (1687–1704 гг.)
- Правабярэжнай Украіны, якія кантраляваліся І. Мазепам у 1704–1708 гг.
- далучаных да Прусіі па ўмовах Стакгольмскага дагавора 1720 г.
- дробных германскіх дзяржаў
- буйных царкоўных уладанняў
- харвацкай і славонскай ваеннай граніцы

**Гады далучэння тэрыторый**

| | |
|---|---|
| 1721 | да Расійскай імперыі |
| 1718 | да ўладанняў аўстрыйскіх Габсбургаў |
| 1720 | да Каралеўства Прусія |
| 1715 / 1711–1739 | да Асманскай імперыі (трывалыя і часовыя) |

**Месцы і даты заключэння**

- 13.IX 1706 — Альтранштацкага дагавора паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай
- 21.VII 1718 — Пажаравацкага дагавора паміж Аўстрыяй, Венецыяй і Асманскай імперыяй

Лічбай **1** на карце абазначана Курляндскае і Земгальскае герцагства (васал Рэчы Паспалітай)

1:8 400 000

# ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ НА ТЭРЫТОРЫІ ВКЛ У ПЕРЫЯД БЕСКАРАЛЕЎЯ. 1733–1735 гг.



## СЯМІГАДОВАЯ ВАЙНА. 1756–1763 гг.



ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕЛАЎ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ. 1740-я–1760-я гг.



# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ ў 1772–1793 гг.



## ПАЎСТАННЕ 1794 г.




**ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў

**БЕРАСЦЕ** Цэнтры ваяводстваў, княстваў, губерняў

ГОРАДНА Цэнтры паветаў

СЛУЦК Іншыя гарады

Тураў Мястэчкі

*Залессе* Сёлы

**МЕЖЫ**

дзяржаў у 1793 г.

паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім

Рэчы Паспалітай паводле другога падзелу ў 1793 г.

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Дзеянні паўстанцаў

паход на захоп Вільні

кірункі далейшых паходаў

адступленне войскаў

Раёны дыслакацыі рэгулярных войскаў ВКЛ у 1793–1794 гг.

Месца пачатку паўстання

Месцы абвяшчэння актаў паўстання

Дзеянні расійскіх войскаў

напрамкі асобных атрадаў рэгулярных войскаў

Штаб-кватэры расійскіх войскаў

Дзеянні прускіх войскаў

маршруты атрадаў войскаў

кардон войскаў

Дзеянні аўстрыйскіх войскаў

кардон войскаў

*10.10* Месцы і даты баёў

1:2 800 000




**ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў

○ Полацк Іншыя гарады і населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

дзяржаў у сярэдзіне XVIII ст.

*залежных дзяржаў; паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім*

далучаных тэрыторый

Рэчы Паспалітай напярэдадні падзелаў

**ТЭРЫТОРЫІ**

якія адышлі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай

| | да Расіі | да Прусіі | да Аўстрыі |
|---|---|---|---|
| 1-ы (1772 г.) | | | |
| 2-і (1793 г.) | | | |
| 3-і (1795 г.) | | | |

Асманскай імперыі і яе васалаў, якія далучаны

да Расіі · да Аўстрыі

ахопленыя выступленнямі барскіх канфедэратаў

ахопленыя паўстаннем пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі

Гады далучэння тэрыторый

1772 да Расіі

1772 да Прусіі

1772 да Аўстрыі

1767 Месцы і даты стварэння канфедэрацый

Лічбай 1 на карце абазначана Пільтэнская акруга

1:6 000 000

## САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

У гэтым раздзеле змешчаны карты і планы, якія даюць уяўленне аб кірунках эканамічных зносін, формах эксплуатацыі сялянства, дэмаграфіі, развіцці гарадоў.

Перыяд ад заканчэння Лівонскай вайны да сярэдзіны XVII ст. быў адносна спрыяльным для эканомікі ВКЛ. Колькасць насельніцтва ў гэты час няўхільна расла, паўсюдна ўзнікалі новыя вёскі і мястэчкі. Гаспадарка захоўвала пераважна аграрны характар, прытым многія тавары прызначаліся для экспарту. У гэты час склаўся трывалы падзел еўрапейскага кантынента на дзве вялікія зоны: на захадзе вольныя рамеснікі і прадпрымальнікі выраблялі высокатэхналагічныя рэчы, а цэнтр і ўсход спецыялізаваліся на пастаўках сыравіны і прадуктаў харчавання. З гэтым звязана і пашырэнне прыгоннага права: землеўласнікі Усходняй Еўропы разглядалі сялян як танную працоўную сілу, якую кантралявалі пазаэканамічнымі мерамі. За кошт сялянскай працы яны забяспечвалі сабе ўзровень жыцця не горшы, чым у заходнееўрапейскіх арыстакратаў. Розніца, аднак, была ў тым, што на ўсходзе прадметы раскошы доўгі час былі амаль выключна прывазнымі. Апошняе тычылася і Беларусі.

Карта „Эканамічнае развіццё на беларускіх землях у другой палове XVI — першай палове XVII ст." створана на падставе апублікаваных даследаванняў і адлюстроўвае характар гандлю з суседнімі рэгіёнамі, наяўнасць прамысловых прадпрыемстваў, зоны перавагі розных форм эксплуатацыі ў сельскай гаспадарцы. Апошні сюжэт больш дэталёва раскрываецца на карце „Формы рэнты і сельская абшчына на Беларусі ў другой палове XVI — XVII ст.". Крыніцамі для яе паслужылі архіўныя матэрыялы — інвентары маёнткаў, у якіх пералічаны асноўныя сялянскія павіннасці. Зразумела, гэтыя інвентары захаваліся вельмі фрагментарна, але яны даюць уяўленне аб агульных тэндэнцыях. На захадзе і ў цэнтры Беларусі землеўладальнікі патрабавалі ад сваіх падданых феадальную рэнту пераважна ў форме прыгоннай працы, што дазваляла ім рэалізоўваць вырашчаную ў фальварках сельскагаспадарчую прадукцыю на ўнутраным і знешнім рынках. На ўсходзе Беларусі ўладальнікі маёнткаў былі больш зацікаўлены ў тым, каб браць з падданых адразу гатовыя грошы (чынш) альбо частку прадукцыі, якую сяляне вырошчвалі на ўласных надзелах (даніну). Для сялян такія формы эксплуатацыі былі больш зручнымі, бо пакідалі ім больш часу на апрацоўку сваіх надзелаў і дазвалялі гнутка планаваць сваю працу. У абодвух выпадках землеўладальнікі скарыстоўвалі для кантролю за падданымі сялянскую абшчыну. Выбраныя самімі сялянамі альбо прызначаныя старасты, войты, цівуны былі адказнымі за своечасовы збор падаткаў, выхад на паншчыну, размеркаванне апусцелых надзелаў і інш. На карце паказаны месцы, для якіх крыніцы паведамляюць пра існаванне абшчыннай арганізацыі.

Да сярэдзіны XVII ст. магчымасці экстэнсіўнага развіцця эканомікі, разлічанай на вываз сыравіны і збожжа, былі амаль вычарпаны. Сялянская праца за гэты час не зведала амаль ніякіх тэхналагічных інавацый: ні новых, больш ураджайных гатункаў раслін, ні больш эфектыўных прылад працы, ні травапольных севазваротаў, якія ўжо былі пашыраны ў Заходняй Еўропе. Усе прыдатныя землі былі ператвораны ў ворыва і пашу. Іх урадлівасць патроху пачала зніжацца, бо скарыстоўваліся толькі натуральныя ўгнаенні. Узровень жыцця сялянства і паноў адрозніваўся ўсё больш, расло сацыяльнае напружанне, якое накладалася на міжканфесійныя супярэчнасці. Урэшце ўсё скончылася сацыяльным канфліктам, які суседнія дзяржавы скарысталі для інтэрвенцыі. Рэч Паспалітая апынулася ў паласе жорсткіх крызісаў.

Карта „Дэмаграфічныя страты паветаў ВКЛ паміж 1650 і 1667 гг." паказвае наступствы ваенных дзеянняў, якія адбываліся ў той час на Беларусі. Асноўнай крыніцай выступаюць тарыфы падымнага падаткаабкладання, у якіх пазначалася колькасць „дымоў" — сялянскіх і мяшчанскіх двары гаспадарак у кожным маёнтку. Першая серыя такіх тарыфаў для ўсіх паветаў ВКЛ была складзена ў 1650 г. Першасныя дадзеныя гэтых тарыфаў не захаваліся, але ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы маюцца зводныя падлікі па ўсёй дзяржаве. У гэты час паўднёвы ўсход Беларусі ўжо пацярпеў ад казацкай вайны, якая пачалася ў 1648 г. і ў 1654 г. перарасла ў вялікую вайну паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай. Наступныя тарыфы, складзеныя адразу пасля заканчэння вайны ў 1667 г., фіксуюць рэзкае памяншэнне колькасці дымоў у большасці паветаў. Упершыню гэтыя дадзеныя былі апублікаваны польскім даследчыкам Ю. Можы ў працы „Дэмаграфічны крызіс на Літве і Беларусі ў другой палове XVII стагоддзя" (Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwe i Białorusi w drugiej połowie XVII wieku. — Poznań, 1965). З таго часу яны неаднаразова правяраліся, пры гэтым агульная высноўа пра вялізныя дэмаграфічныя страты засталася непахіснутай. Больш за тое, сучасныя даследчыкі схільныя называць тую падзею не проста дэмаграфічным крызісам, а хутчэй дэмаграфічнай катастрофай. Прычынамі драматычнага памяншэння колькасці сялянскіх гаспадарак былі не толькі непасрэдныя страты ў выніку ваенных дзеянняў і вывазу палонных у Расію, але і наступствы жорсткай эпідэміі, голаду і масавых уцёкаў сялян, частка з якіх прымкнула да казакоў, частка ператварылася ў бадзяг, якія не ўлічваліся тарыфам падымнага падаткаабкладання 1667 г. Варта ўлічваць і тое, што ў першай палове XVII ст. у ВКЛ назіраліся ўсё больш выразныя прыкметы аграрнага перанасялення: колькасць насельніцтва дасягнула ўзроўню, які ледзь магла выграмаць тагачасная эканоміка. Такія сітуацыі завяршаліся дэмаграфічнымі крызісамі вельмі часта і вайна ў дадзеным выпадку паслужыла толькі рашаючым штуршком.

Карта адлюстроўвае памяншэнне колькасці дымоў у працэнтах, абапіраючыся пераважна на лічбы, прыведзеныя ў працы Ю. Можы. Ён выкарыстоўваў звесткі не механічна, а спрабаваў па магчымасці іх выправіць, параўнаць і ўдакладніць. Неабходнасць такой карэкціроўкі выклікана тым, што ў розных дакументах лічбы як за 1650, так і за 1667 г. адрозніваюцца, часам непрынцыпова, але ў некаторых выпадках даволі істотна. Так, мінімальная з выяўленых лічбаў для Пінскага павета ў 1667 г. складае 13426 дымоў (Tyla A. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės iždas per dvidešimtmetį karą (1648–1667). — Vilnius, 2010. P. 334), максімальная — 17036 (Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo brzeskie litewskie 1667–1690 г. / Opracował A. Rachuba — Warszawa, 2000. S. 9). Пры гэтым усе звесткі, напэўна, заніжаныя, бо тарыфы складаліся са слоў землеўладальнікаў, якія былі зацікаўлены змяншаць колькасць дымоў, з якіх мусілі выплачваць падаткі. Ю. Можы лічыў, што недаўлік дымоў дасягаў 15–20 %. Аднак для ацэнкі памераў страт гэта не мае прынцыповага значэння, бо лічбы заніжаліся як напярэдадні вайны, так і пасля яе. Звесткі Ю. Можы карэкціраваліся звесткамі пазнейшых аўтараў толькі ў тых выпадках, калі яны на падставе крыніц, не ўлічаных Ю. Можы, прыводзілі больш высокія лічбы.

Гаспадарчы і дэмаграфічны крызіс толькі пачаў пераадольвацца, як на мяжы XVIII ст. Беларусь зведала новае спусташэнне, выкліканае барацьбой магнацкіх груповак і Паўночнай вайной. Паводле аднаўленне эканомікі набыло ўстойлівы характар толькі з 1720-х — 1730-х гадоў. Стан гаспадаркі і эвалюцыю ў фомах эксплуатацыі сялянства пасля крызісу адлюстроўваюць дзве наступныя карты, якія па сваім змесце аналагічныя дзвюм першым картам раздзела і таксама шчыльна звязаны паміж сабой. На карце „Эканамічнае развіццё на беларускіх землях у XVIII ст." можна ўбачыць, што характар гандлёвых сувязяў істотна не змяніўся: па-ранейшаму пераважалі вываз сыравіны і ўвоз гатовых рэчаў. Нормы эксплуатацыі сялян у паслякрызісныя дзесяцігоддзі крыху памякчэлі (у многіх маёнтках паншчына была заменена грашовым чыншам), але паступова ў заходніх і цэнтральных раёнах дамінаванне паншчыны аднавілася. Гэта можна ўбачыць на карце „Формы рэнты і сельская абшчына на Беларусі ў другой палове XVIII ст.". Крыніцы для абедзвюх карт аналагічныя тым, што выкарыстаны пры стварэнні першых карт раздзела.

Колькасць насельніцтва ў выніку Паўночнай вайны і выкліканых ёй эпідэмій была зноў адкінута да ўзроўню, які назіраўся пасля вайны 1654–1667 гг. З 1720-х гг. насельніцтва зноў пачало расці. Да 1750 г. яго колькасць дасягнула прыкладна таго ж узроўню, які назіраўся стагоддзе раней. Размеркаванне насельніцтва па паветах адлюстроўвае карта „Шчыльнасць насельніцтва ВКЛ у трэцяй чвэрці XVIII ст.". Крыніцай для яе таксама паслужылі тарыфы падымнага падаткаабкладання па паветах, якія часткова захаваліся ў архівах Вільні і Мінска, і зводкі іх звестак па ўсім ВКЛ, зробленыя ў той жа час для дзяржаўнага скарбу. У свой час іх апрацавалі беларускія даследчыкі А. Карпачоў і П. Казлоўскі (Карпачев А. М., Козловский П. Г. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII — XVIII в. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1968 год. — Л., 1972.). Трэба ўлічваць, што складальнікі тарыфаў XVIII ст. разумелі пад паняццем „дым" не столькі рэальную двары гаспадарку, колькі ўмоўную адзінку падаткаабкладання, якая некалі сапраўды магла быць асобнай гаспадаркай, але потым разрасталася і драбнілася. Таму ў тарыфах сустракаюцца лічбы ў 1/2, 1/3 і 1/4 „дыма". Вызначэнне рэальнай колькасці насельніцтва на падставе такіх крыніц патрабуе адмысловых методык. Аўтар карты пры вызначэнні абсалютных лічбаў карыстаўся методыкамі, распрацаванымі ім у працы па гісторыі беларускай вёскі (Носевич В. Л. Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе. — Минск, 2004). Частка звестак пра колькасць насельніцтва паходзіць з крыніц пазнейшага часу — апошняй чвэрці XVIII ст. (у тым ліку з крыніц, створаных ужо пры расійскім панаванні). Яны таксама выкарыстаны пры стварэнні карты шляхам „адваротнай праекцыі" — колькасць па стане на 1750-я–1760-я гады разлічана з улікам дынамікі росту насельніцтва ў азначаны час.

Карта „Формы рэнты і сельская абшчына на Беларусі ў другой палове XVIII ст." дазваляе ўбачыць, што падзел яе тэрыторыі на дзве эканамічныя зоны захаваўся да канца існавання Рэчы Паспалітай. На ўсходзе, пераважна ў дзяржаўных стараствах і магнацкіх латыфундыях, пераважала арыентацыя на чынш, у цэнтры і на захадзе існавала паншчына. Архаічная форма эксплуатацыі ў выглядзе натуральнай даніны амаль знікла, яе рэлікты зафіксаваны толькі дзе-нідзе на Палессі. Пры гэтым сялянская абшчына заставалася асноўнай формай арганізацыі прыгоннага сялянства ў абедзвюх эканамічных зонах.

Важным фактарам эканамічнага развіцця быў рост гарадоў і мястэчак, якія былі цэнтрамі рамеснай вытворчасці і гандлю для навакольных тэрыторый. Крытэрыі адрознення паміж гарадамі і мястэчкамі абмяркоўваюцца ва ўступным тэксце да Генеральнай карты „Беларускія землі ў канцы XVIII стагоддзя". Тут адзначым толькі, што крытэрый мае быць комплексным. Мелі значэнне і колькасць жыхароў (на жаль, яе не заўжды можна вызначыць дакладна), і наяўнасць гарадскога самакіравання, і адміністрацыйнае, эканамічнае, абарончае і культурнае значэнне паселішча. Прыблізная градацыя гарадоў і мястэчак па памерах (па стане на 1760-я — пачатак 1770-х гадоў) прыведзена на карце „Шчыльнасць насельніцтва ВКЛ у трэцяй чвэрці XVIII ст." Паселішчы, якія мелі самакіраванне (у асноўным паводле магдэбургскага права) пазначаны на карце „Гарадское самакіраванне ў ВКЛ у другой палове XVII — першай палове XVIII ст." Для большасці з іх прыведзены даты прывілеяў на самакіраванне. Але не заўжды такія прывілеі захаваліся альбо згадкі пра іх трапілі ў поле зроку даследчыкаў. Таму для некаторых паселішчаў у літаратуры можна сустрэць супярэчлівыя звесткі пра даты атрымання самакіравання. На карце прыведзены ў асноўным даты з артыкула А. Доўнара „Магдэбургскае права" ў 2-м томе энцыклапедыі „Вялікае Княства Літоўскае" (Мінск, 2006, с. 242–243). Для некаторых паселішчаў наяўнасць самакіравання высвятляецца толькі з так званых „рэнавацыйных" прывілеяў 1792 г., калі адпаведна рашэнню Чатырохгадовага сойма ад 18 красавіка 1791 г. было вернута права на самакіраванне малым гарадам і мястэчкам, пазбаўленым яго на Варшаўскім сойме 1776 г. Пры гэтым застаецца невядомым, ці ўсе гарады, што атрымалі рэнавацыйныя прывілеі, мелі самакіраванне да 1776 г., ці некаторыя з іх атрымалі яго ўпершыню. На карце паселішчы, якія атрымалі прывілей у 1792 г., але пра больш раннія прывілеі нічога не вядома, пазначаны адмысловым значком.

Завяршае раздзел серыя планаў найважнейшых гарадоў, на якіх пазначаны культавыя ўстановы розных канфесій, іншыя значныя будынкі, абарончыя ўмацаванні альбо іх рэшткі. Планы дазваляюць уявіць таксама агульныя памеры паселішчаў і іх вулічную планіроўку. Звесткі прыведзены на час, які папярэднічаў першаму падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. Арыгінальныя архіўныя планы адпаведнага часу маюцца толькі для Вільні, для астатніх гарадоў прапанаваныя планы створаны як рэканструкцыі на падставе архіўных планаў расійскага часу (1770-х–1790-х гадоў), большасць з якіх неаднаразова публікавалася.

В. Насевіч

# ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ ў другой палове XVI—першай палове XVII ст.






**ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў

**ПОЛАЦК** Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай

РЭЧЫЦА Цэнтры паветаў ВКЛ

НЯСВІЖ Іншыя гарады

Абольцы Мястэчкі

Канюхова Сёлы, іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у канцы XVI ст.
- Рэчы Паспалітай у канцы XVI ст. (з яе васаламі)
- залежных дзяржаў і тэрыторый; паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ВКЛ у канцы XVI ст.
- ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- паветаў ВКЛ
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ МАЁНТКАЎ ПА ФОРМЕ ЎЛАСНАСЦІ**

- дзяржаўныя
- прыватныя
- царкоўныя

Цэнтры маёнткаў і асобных уладанняў, у якіх існавала сельская абшчына (паводле пісьмовых крыніц)

4 Колькасць населеных пунктаў, якія належалі да маёнтка з наяўнасцю сельскай абшчыны

**ФОРМА РЭНТЫ СЯЛЯН, ЯКАЯ ПЕРАВАЖАЛА Ў МАЁНТКАХ**

- даніна
- паншчына (цяглае)
- чынш (грашовая рэнта)

3 Колькасць населеных пунктаў, якія належалі да маёнтка (колер лічбы адпавядае форме рэнты)

Лічбамі на карце абазначаны:

1 Курляндскае біскупства (у 1560—1583 гг. — да Даніі)

2 Уладанні г. Рыга



Сепакос
Заходнееўрапейскі медзярыт






**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у другой палове XVII ст.
- Рэчы Паспалітай у другой палове XVII ст.
- залежных дзяржаў і тэрыторый; паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ВКЛ у другой палове XVII ст.
- ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- паветаў Рэчы Паспалітай
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў

**ПОЛАЦК** Цэнтры ваяводстваў і земель ВКЛ

СЛОНІМ Цэнтры паветаў ВКЛ

НЯСВІЖ Іншыя гарады

Астрына Мястэчкі

*Ятвесь* Сёлы, іншыя населеныя пункты

Тэрыторыі са змяншэннем колькасці „дымоў“ паводле тарыфаў 1650 і 1667 гг. (у працэнтах)

- больш за 60
- 50—60
- 40—50
- 30—40
- 20—30
- менш за 20

46,3 Змяншэнне колькасці „дымоў“ на тэрыторыях паветаў у працэнтах

Лічбай 1 на карце абазначана Пільтэнская акруга



Альфрэд Рэтэль „Смерць — пераможца“
Гравюра на дрэве з цыкла „Яшчэ адна пляска смерці“. 1849 г.




**● ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў

**◎ ПОЛАЦК** Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай

◎ ОРША Цэнтры паветаў ВКЛ

○ НЯСВІЖ Іншыя гарады

○ *Абольцы* Мястэчкі

○ *Сляпянка* Сёлы, іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у канцы XVII ст.
- Рэчы Паспалітай у канцы XVII ст.
- залежных дзяржаў і тэрыторый; паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ВКЛ у канцы XVII ст.
- ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- паветаў ВКЛ
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ МАЁНТКАЎ ПА ФОРМЕ ЎЛАСНАСЦІ**

- дзяржаўныя
- прыватныя
- царкоўныя

□ Цэнтры маёнткаў і асобных уладанняў, у якіх існавала сельская абшчына (паводле пісьмовых крыніц)

4 Колькасць населеных пунктаў, якія належалі да маёнтка з наяўнасцю сельскай абшчыны

**ФОРМА РЭНТЫ СЯЛЯН, ЯКАЯ ПЕРАВАЖАЛА Ў МАЁНТКАХ**

- даніна
- паншчына (цяглае)
- чынш (грашовая рэнта)

3 Колькасць населеных пунктаў, якія належалі да маёнтка (колер лічбы адпавядае форме рэнты)

Лічбай 1 на карце абазначаны Пільтэнскі павет (уладанне Рэчы Паспалітай)



Тытульны ліст вопісу замка 1719 г.

1:3 000 000




**ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў
**ПОЛАЦК** Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай
ОРША Цэнтры паветаў Рэчы Паспалітай і ўездаў Расіі
Нясвіж Іншыя гарады і мястэчкі

**ГРАНІЦЫ**

дзяржаў у другой палове XVII ст.
Рэчы Паспалітай з 1667 г.
залежных дзяржаў і тэрыторый; паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
ВКЛ у другой палове XVII ст.
далучаных тэрыторый
сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ**

ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
Каралеўства Польскага ў складзе Рэчы Паспалітай
сумесных літоўска-польскіх уладанняў
далучаныя да Расіі па ўмовах Андрусаўскага перамір'я 1667 г. і „Вечнага міру" 1686 г.
вернутыя ў склад ВКЛ у 1678 г.

1569 Гарады і мястэчкі ВКЛ, якія мелі няпоўнае права на самакіраванне (немагдэбургскае)
Гарады і мястэчкі ВКЛ, якія атрымалі права на самакіраванне (магдэбургскае)
да 1569 г. 1590 пасля 1569 г.
1623 Гарады ВКЛ, якія былі пазбаўлены магдэбургскага права (з пазначэннем гадоў)
Гарады ВКЛ, у якіх паводле рашэння Варшаўскага сойма 1776 г. было пакінута магдэбургскае права (без уліку прыватных гарадоў, дзе лёс існавання магдэбургскага права вызначалі ўласнікі)
Гарады і мястэчкі ВКЛ, якія атрымалі рэнавацыйныя прывілеі 1792 г. (1791—1792 гг.)
ПІНСК Цэнтры гарадскіх судовых акруг паводле "Закону аб вольных гарадах" 1791 г.



Прывілей Мазыру на магдэбурскае права

1:3 700 000

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ ў XVIII ст.



# ФОРМЫ РЭНТЫ І СЕЛЬСКАЯ АБШЧЫНА ў другой палове XVIII ст.




| | |
|---|---|
| **ВІЛЬНЯ** | Сталіцы дзяржаў |
| ПОЛАЦК | Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай і губерняў Расійскай імперыі |
| ОРША | Цэнтры паветаў ВКЛ |
| НЯСВІЖ | Іншыя гарады |
| Тураў | Мястэчкі |
| Бакшты | Сёлы, іншыя населеныя пункты |

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у сярэдзіне XVIII ст.
- Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVIII ст.
- залежных дзяржаў і тэрыторый; паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ВКЛ у сярэдзіне XVIII ст.
- ваяводстваў і паветаў ВКЛ
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ МАЁНТКАЎ ПА ФОРМЕ ЎЛАСНАСЦІ**

- дзяржаўныя
- прыватныя
- царкоўныя

Цэнтры маёнткаў і асобных уладанняў, у якіх існавала сельская абшчына (паводле пісьмовых крыніц)

4 — Колькасць населеных пунктаў, якія належалі да маёнтка з наяўнасцю сельскай абшчыны

**ФОРМА РЭНТЫ СЯЛЯН, ЯКАЯ ПЕРАВАЖАЛА Ў МАЁНТКАХ**

- даніна
- паншчына (цяглас)
- чынш (грашовая рэнта)

3 — Колькасць населеных пунктаў, якія належалі да маёнтка (колер лічбы адпавядае форме рэнты)

*Лічбай 1 на карце абазначаны Пільтэнскі павет* (уладанне Рэчы Паспалітай)



На паншчыне
Заходнееўрапейскі медзярыт

1:3 000 000

# ШЧЫЛЬНАСЦЬ НАСЕЛЬНІЦТВА ПАВЕТАЎ ВКЛ у трэцяй чвэрці XVIII ст.




**● ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў

◎ ПОЛАЦК Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай і губерняў Расійскай імперыі

⊙ СЛОНІМ Цэнтры паветаў ВКЛ

○ НЯСВІЖ Іншыя гарады

○ Тураў Мястэчкі

○ *Бакшты* Сёлы, іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у сярэдзіне XVIII ст.
- Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVIII ст.
- залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ВКЛ у сярэдзіне XVIII ст.
- ваяводстваў і паветаў ВКЛ
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Шчыльнасць насельніцтва па паветах (чал. на км$^2$)

- 15–20
- 10–15
- 5–10
- менш за 5

Гарады і мястэчкі з колькасцю насельніцтва больш за 1 000 чал.

- больш за 10 000
- 6 000–10 000
- 4 000–6 000
- 2 500–4 000
- 2 000–2 500
- 1 500–2 000
- 1 000–1 500

○ Гарады (цэнтры паветаў) з насельніцтвам менш за 1 тыс. чал.

Лічбай 1 на карце абазначана Пільтэнская акруга

1:3 000 000




Менск. Гравюра 1770-х гадоў




Цэрквы, манастыры
1 Уніяцкая царква і двор мітрапаліта
2 Уніяцкая царква
3 Царква Святога Духа і праваслаўны манастыр
4 Царква Святой Тройцы і манастыр базыльянак

Касцёлы, кляштары
1 Касцёл Ісуса Хрыста і кляштар трынітарыяў
2 Касцёл Святых Пятра і Паўла, кляштар каноніхаў латэранскіх
3 Касцёл Архангела Рафала і былы кляштар езуітаў
4 Касцёл Святых Якуба і Піліпа і кляштар дамініканцаў
5 Касцёл Святога Юрыя і кляштар кармелітаў
6 Кафедральны касцёл Святых Станіслава і Уладзіслава
7 Касцёл Марыі Магдалены
8 Кляштар баніфратраў
9 Касцёл Святога Ігнація і былы езуіцкі кляштар
10 Касцёл Святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста
11 Касцёл Святой Ганны
12 Касцёл Святога Міхаіла Архангела і кляштар бернардзінак
13 Кляштар бернардзінцаў
14 Касцёл Святой Кацярыны і кляштар бенедыкцінак
15 Касцёл Святога Духа і кляштар дамініканцаў
16 Калегіум піяраў
17 Касцёл Святога Барталамея
18 Касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі і кляштар францысканцаў
19 Касцёл Святога Мікалая
20 Касцёл Маці Божай Суцяшэння і кляштар аўгусцінцаў
21 Касцёл Святога Казіміра і кляштар езуітаў
22 Касцёл Унебаўзяцця Гасподняга і кляштар місіянераў
23 Касцёл і кляштар кармелітаў абутых
24 Кляштар кармелітак басых
25 Касцёл Святой Тэрэзы і кляштар кармелітаў босых
26 Касцёл Сэрца Ісуса і кляштар візітак
27 Касцёл Святога Іосіфа і Святога Нікадзіма
28 Касцёл Святога Стэфана і кляштар марыявітак

Іншыя пабудовы
1 Палац Сапегаў і парк
2 Палац Бжастоўскіх
3 Былы палац Служкаў
4 Палац Радзівілаў
5 Палац Хамінскіх
6 Галоўны арсенал
7 Рэшткі Верхняга замка
8 Былы вялікакняжацкі палац
9 Будынак трыбунала
10 Стары палац Радзівілаў
11 Палац Агінскіх
12 Былая акадэмія езуітаў
13 Млын
14 Барбакан (артылерыйскі арсенал)
15 Рэшткі ўмацаванняў XVII ст.

Мячэць
Сінагога
Ратуша
Брамы гарадскія
Гарадскія ўмацаванні і рэшткі замкавых мураў

1:15 000




Цэрквы, манастыры
1 Свята-Троіцкі манастыр базыльянак
2 Уніяцкія цэрквы
3 Петрапаўлаўская царква і праваслаўны манастыр
4 Свята Духаўская царква і манастыр базыльян
5 Манастыр базыльянак

Касцёлы, кляштары, калегіум
1 Фарны касцёл
2 Касцёл Святога Яна і кляштар баніфратраў
3 Касцёл Святой Марыі Магдалены і кляштар кармелітаў
4 Касцёл і кляштар бернардзінак
5 Касцёл і кляштар бернардзінцаў
6 Касцёл і калегіум езуітаў
7 Касцёл Святога Томаша Аквінскага і кляштар дамініканцаў
8 Касцёл і кляштар бенедыкцінцаў
9 Касцёл і кляштар рахітаў
10 Касцёл Святога Войцеха і кляштар бенедыкцінак
11 Касцёл Святога Антонія і кляштар францысканцаў

Мячэць
Сінагога
Ратуша

Іншыя пабудовы
1 Каменныя дамы з лаўкамі
2 Фальварак і млын базыльян
3 Пошта
4 Грамадскія будынкі
5 Земляны абарончы вал

Каменныя будынкі
Драўляная забудова
Гарадскія ўмацаванні

1:10 000




*Цэрквы, манастыры*

1. Васкрасенская царква (дальняя)
2. Васкрасенская царква (бліжняя)
3. Барысаглебская царква
4. Богаяўленскі брацкі манастыр
5. Спаскі манастыр
6. Мікольская царква
7. Успенская царква
8. Пакроўская царква
9. Ільінская царква
10. Троіцкая царква
11. Петрапаўлаўская царква

*Касцёлы, кляштары*

1. Кармеліцкі кляштар
2. Касцёл Святога Францішка Ксаверыя і калегіум езуітаў
3. Фарны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі (Святога Казіміра)
4. Бернардзінскі касцёл і кляштар

Сінагога

Ратуша

Кругавы (Бліжні) вал

Палявы (Дальні) вал

Брамы гарадскія

1:20 000




*Цэрквы, манастыры*

1. Барысаглебская царква і манастыр базыльян
2. Царква Раства Прасвятой Багародзіцы і манастыр базыльянак

*Касцёлы, кляштары*

1. Касцёл Святога Духа
2. Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканцаў
3. Фарны Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі
4. Касцёл Святога Францішка Ксаверыя і калегіум езуітаў
5. Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі і кляштар брыгітак
6. Касцёл і кляштар бернардзінак
7. Касцёл Адшукання Святога Крыжа і кляштар бернардзінцаў
8. Кляштар баніфратраў
9. Касцёл Узвышэння Святога Крыжа і кляштар кармелітаў
10. Касцёл Маці Божай Анёльскай і кляштар францысканцаў

Сінагога

Ратуша

*Палацы*

1. Тызенгаўзаў
2. Сангушкаў
3. Масальскіх
4. Тызенгаўзаў (пасля — Хлявінскіх, Юндзілаў)
5. Радзівілаў
6. Бжастоўскіх („Батораўка", у першай палове XVIII ст. месца пасяджэнняў Пасольскай Ізбы соймаў)
7. Сапегаў (у першай палове XVIII ст. месца пасяджэння Сената)
8. Агінскіх
9. Вольмераў (раней Агінскіх)
10. Пшаздзецкіх

1:18 500




*Цэрквы, манастыры*

1. Сафійскі сабор
2. Базыльянскі мужчынскі манастыр
3. Базыльянскі жаночы манастыр
4. Базыльянская царква
5. Богаяўленскі мужчынскі манастыр
6. Богаяўленская царква

*Касцёлы, калегіум, кляштары*

1. Езуіцкі касцёл Падняcення Святога Крыжа
2. Езуіцкі касцёл Святых Пятра і Паўла
3. Касцёл Святога Стэфана і калегіум езуітаў
4. Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканцаў
5. Касцёл Святога Антонія і кляштар францысканцаў
6. Касцёл Святой Ганны і кляштар бернардзінцаў

Сінагога

*Іншыя пабудовы*

1. Правіянцкі склад
2. Пошта
3. Адміністрацыйныя будынкі
4. Дом Пятра I
5. Мытня

1:10 000


БЕРАСЦЕ
Цэрквы, манастыры
1 Троіцкая
2 Міхайлаўская
3 Базыльянскі манастыр і царква
4 Мікалаеўская
5 Праабражэнская
6 Манастыр
Касцёлы, кляштары, капліцы
1 Касцёл Святой Барбары і кляштар трынітарыяў
2 Касцёл і кляштар брыгітак
3 Касцёл Святой Сафіі і кляштар дамініканцаў
4 Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар аўгусцінцаў
5 Касцёл Ісуса і Святога Казіміра і калегіум езуітаў
6 Парафіяльны касцёл
7 Капліца парафіяльнага касцёла
8 Касцёл Яна Хрысціцеля і кляштар бернардзінцаў
9 Касцёл Ненарочнага зачацця Дзевы Марыі і кляштар бернардзінак
Ратуша
Сінагога
Дом Чартарыйскага
Іншыя пабудовы
1 Склад
2 Палкавы лазарэт
3 Гаўптвахта
4 Крамы
Жылая забудова
Агароды
Рэшткі гарадскіх умацаванняў
1:18 000
Кобрынскае прадмесце
на Кобрын
прадмесце Пяскі
Буг
Мухавец
Замкавая гара
Валынскае прадмесце
на Луцк
на Варшаву


СТАРЫ БЫХАЎ
Царква Успення Прасвятой Багародзіцы
Касцёл і кляштар канонікаў рэгулярных
Сінагога
Крамы
Брамы гарадскія
Гарадскія ўмацаванні
1:12 000
Замкавая гара
на Магілёў
Магілёўская
Гандлёвая плошча
Замак
Рагачоўская
на Рагачоў
Сапежынка
Дняпро


БАБРУЙСК
Парафіяльныя уніяцкія цэрквы
Уніяцкая капліца
Касцёлы, кляштары
1 Былы кляштар езуітаў
2 Парафіяльны касцёл
Рэшткі замка і гарадскіх умацаванняў
Крамы
Дом старасты
Жылая забудова
Агароды
Вадзяны млын
Перавоз
1:10 000
Бярэзіна
Бабруйка


НАВАГАРОДАК
Цэрквы, манастыры
1 Базыльянская царква (закінутая)
2 Барысаглебская царква і манастыр базыльян
3 Мікалаеўская царква
4 Васкрасенская царква
Касцёлы, кляштары
1 Фарны касцёл
2 Былы езуіцкі касцёл і кляштар
3 Францысканскі касцёл і кляштар
4 Дамініканскі касцёл і кляштар
Сінагога
Мячэць
Ратуша
Іншыя пабудовы
1 Гарадская цагельня
2 Мураваныя вежы замка
3 Земская канцылярыя
4 Аптэка
5 Купецкі дом
6 Крамы
7 Дом Радзівілаў
8 Кавярня
9 Шляхецкія дамы
10 Корчмы
1:15 000
хрысціянскія могілкі
яўрэйскія могілкі


ПІНСК
Пн.
Могілкі
Цэрквы, манастыры
1 Богаяўленскі мужчынскі манастыр
2 Праваслаўная царква
3 Свята-Варварынскі жаночы манастыр і царква (базыльянскі)
4 Прачысцінская царква
Касцёлы, кляштары
1 Касцёл Святога Карла Барамея
2 Бернардзінскі касцёл і кляштар
3 Дамініканскі касцёл і кляштар
4 Езуіцкі касцёл і калегіум
5 Францысканскі касцёл і кляштар
6 Кармеліцкі касцёл і кляштар
7 Марыявіцкі касцёл і кляштар
Сінагога
Гарадскія ўмацаванні
1:15 000
крамы
Гандлёвая плошча
Стары замак
прадмесце Каралін
замак Вішнявецкіх
Піна
Прыпяць




Цэрквы, манастыры, капліцы

1. Ільінская
2. Спаса-Праабражэнская
3. Святога Іаана Багаслова
4. Святога Цудатворца Мікалая (гарнізонная)
5. Сімяонаўская
6. Святога Аляксандра Неўскага
7. Саборная Прасвятой Багародзіцы
8. Васкрасенская на рынку
9. Святых Пятра і Паўла
10. Благавешчанская
11. Пакроўская на Заручаўі
12. Раства Хрыстова
13. Васкрасенская на Заручаўі
14. Святой Тройцы (прыходская)
15. Святой Тройцы (капліца на могілках)
16. Святога Мікалая Цудатворца
17. Сашэсця Святога Духу з жаночым манастыром базыльянак
18. Святога Архістраціга Міхаіла (капліца на могілках)

Касцёлы, кляштары

1. Святога Язафата (капліца)
2. Касцёл Святой Варвары (прыходскі)
3. Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар піяраў
4. Касцёл Святога Антонія і кляштар бернардзінцаў
5. Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар марыявітак
6. Касцёл і калегіум езуітаў
7. Касцёл і кляштар дамініканцаў
8. Касцёл і кляштар трынітарыяў

Ратуша

Іншыя пабудовы

1. Яўрэйская школа
2. Паштовая кантора
3. Аптэка
4. Крамы (каменныя і драўляныя)
5. Капліца на месцы старажытнай царквы
6. Езуіцкае вучылішча

Каменныя будынкі

Драўляная забудова

1:18 000



Васкрасенская царква, ратуша, бернардзінскі кляштар з касцёлам св. Антонія. Віцебск.




Касцёлы, кляштары

1. Касцёл Святой Кацярыны і кляштар бернардзінцаў
2. Касцёл Божага Цела, парафіяльны (былы езуіцкі)
3. Касцёл Святога Яна Хрысціцеля і кляштар дамініканцаў
4. Касцёл Святой Эўфеміі і кляштар бенедыкцінак

Царква Праабражэння Гасподняга (уніяцкая)

Сінагога

Палац (гарадская рэзідэнцыя Радзівілаў)

Ратуша з гандлёвымі радамі

Іншыя пабудовы

1. Аптэка
2. Плябанія
3. Заезны двор
4. Паштовы двор
5. Будынак былога езуіцкага калегіума

Гарадскія умацаванні

Брамы гарадскія

Выпускныя шлюзы замкавага рова

Каменныя будынкі

Драўляная забудова

1:22 000




Сінагога

Іншыя пабудовы

1. Паштовы дом
2. Дом гараднічага
3. Ніжні (Дольны) замак
4. Крамы
5. Гаўптвахта
6. Прыватная аптэка
7. Гандлёвая плошча
8. Верхні (Горны) замак
9. Адміністрацыйны будынак
10. Паштовая кантора
11. Магістрат
12. Фабрыка слуцкіх паясоў Радзівілаў
13. Рэгулярны сад Радзівілаў
14. Хлебны магазін
15. Новы замак (Цытадэль)
16. Парахавы пограб
17. Земляны вал і роў

Цэрквы, манастыры

1. Саборная Святога Мікалая Цудатворца
2. Раства Хрыстова
3. Уваскрэсення Хрыстова
4. Святой Вялікапакутніцы Варвары
5. Святога цара Канстанціна і яго маці Алены
6. Праабражэння Гасподняга з прыдзелам Успення Прасвятой Багародзіцы
7. Ільінская з жаночым манастыром
8. Святога Вялікапакутніка Георгія
9. Святога Іаана Прадцечы
10. Святога архідыякана Стэфана

Касцёлы, кляштары

1. Фарны касцёл
2. Касцёл Святога Антонія Падуанскага
3. Новазакладзены кляштар бернардзінцаў
4. Лютэранская кірха
5. Кальвінскі збор і вучылішча
6. Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар езуітаў

Брамы з пад'ёмным мостам мураваныя

Брама з пад'ёмным мостам драўляная

Каменныя будынкі

Драўляная забудова

Гарадскія ўмацаванні

1:18 000

## ДУХОЎНА-КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ ГРАМАДСТВА

Грамадска-палітычныя, культурныя і ідэалагічныя працэсы, што адбываліся ў краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, спрыялі пазбаўленню ад рэлігійнага ўціску ў сферы культуры і асветы. У другой палове XVI ст. у Італіі ўзнік новы мастацкі стыль — барока. Развіццё гарадоў, пашырэнне палітычных, эканамічных і культурных кантактаў з Захадам, падарожжы за мяжу, навучанне ў еўрапейскіх універсітэтах садзейнічалі таму, што развіццё стылю барока ў Рэчы Паспалітай ішло амаль адначасова з краінамі Заходняй Еўропы.

У стылі барока былі ўзведзены многія мураваныя збудаванні ВКЛ. Культавая архітэктура першай паловы XVII ст., хаця і захоўвала некаторыя абарончыя рысы, неакрэсленыя стылявыя формы, з'явілася асноўнай базай для развіцця беларускага барока. Езуіцкі касцёл Божага цела, пабудаваны ў Нясвіжы ў 1584—1593 гг. (архітэктар Я. М. Бернардоні), быў першым помнікам барока ў Рэчы Паспалітай.

У выяўленчым мастацтве рысы барока назіраюцца пазней — з сярэдзіны XVII ст. Найбольш яскрава і самабытна тэндэнцыі стылю праявіліся ў скульптуры (інтэр'ер касцёла аўгусцінцаў у в. Міхалішкі Астравецкага раёна, касцёла францысканцаў у Пінску) і роспісах культавых збудаванняў.

З XVII ст. пашыраецца тэматыка свецкага выяўленчага мастацтва: партрэтны, гістарычны, батальны жывапіс, нацюрморты і інш. Вядучым жанрам свецкага жывапісу барока стаў партрэт.

У літаратуры асобныя рысы барока сустракаюцца ў палемічных і панегірычных творах XVII ст., вершах Сімяона Полацкага. Народнае барока было прадстаўлена інтэрмедыямі, батлеечнымі драмамі і інш.

Росквіт сарматызму супаў па часе з панаваннем стылю барока, а ў мастацтве і літаратуры рысы гэтых дзвюх з'яў перасякаліся. Для яго было характэрна шырокае выкарыстанне арыентальных матываў, чаму нямала садзейнічалі кантакты з Усходам. Арыентальныя матывы бачны ў палацавай і сядзібнай архітэктуры, партрэтным жывапісе, аздабленні розных відаў зброі, афармленні музычных і тэатральных пастановак і інш. Сармацкія ідэі знайшлі адлюстраванне ў творах пісьменнікаў і паэтаў Яна Белабоцкага, Збігнева Морштына, Мацея Сарбеўскага, Вацлава Патоцкага, мемуарах Самуіла і Багуслава Маскевічаў.

Ідэалогія Асветніцтва, якая таксама нарадзілася ў Заходняй Еўропе, ахапіла літаральна ўсю еўрапейскую культурную прастору, не стала выключэннем і Рэч Паспалітая. У сярэдзіне XVIII ст. на тэрыторыі Беларусі працавала каля 25 сярэдніх навучальных устаноў, дзе шляхецкая моладзь набывала веды пад кіраўніцтвам каталіцкіх ордэнаў (езуіты, піяры, дамініканцы, францысканцы і інш.), а таксама і базыльянскага ордэна ўніяцкай царквы.

Галоўнай мэтай дзейнасці Адукацыйнай камісіі, якую вызначыў сойм Рэчы Паспалітай 1773—1775 гг., было стварэнне зусім новай сістэмы асветы — дзяржаўнай і свецкай. Усе былыя езуіцкія калегіумы, а таксама кляштарныя школы каталіцкіх і базыльянскага ордэнаў былі падзелены на правінцыі: Каронную (Польскую) і Літоўскую, галоўнымі адукацыйнымі цэнтрамі якіх сталі вышэйшыя навучальныя ўстановы — Кракаўская і Віленская акадэміі (апошняя з 1781 г. — Галоўная школа ВКЛ).

Абуджэнне ўвагі да прафесійнага навучання — характэрная рыса развіцця асветы ў Рэчы Паспалітай. У магнацкіх рэзідэнцыях краю — Нясвіжы, Слуцку, Слоніме — пачалі працаваць тэатральныя, музычныя, балетныя школы, якія рыхтавалі кадры для тэатраў. У Горадне, дзякуючы намаганням А. Тызенгаўза, у сярэдзіне 1770-х гадоў на каралеўскія сродкі былі заснаваны кадэцкая, землямерная, бухгалтарская, медыцынская школы. Мовай навучання ў школах усіх узроўняў, а таксама мовай новых падручнікаў, літаратуры была польская.

Развівалася друкарска-выдавецкая справа. У другой палове XVIII ст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі дзейнічалі 12 друкарняў — па тры ў Горадне і Магілёве, па адной у Менску, Нясвіжы, Пінску, Полацку, Слоніме і Шклове. З 1776 г. пачала выходзіць "Gazeta Grodzieńska".

Мастацкае жыццё краю таго часу канцэнтравалася ў магнацкіх рэзідэнцыях — Нясвіжы, Ружанах і Дзярэчыне, Свіслачы, Горадне і інш. У гэтых цэнтрах захоўваліся каштоўныя мастацкія калекцыі і кнігазборы, працавалі друкарні і тэатры, музычныя капэлы, тэатральныя і музычныя школы, развівалася сядзібная і палацава-паркавая архітэктура. Тэатральныя будынкі Нясвіжа, Ружан, Слоніма і інш. узводзіліся з улікам апошніх дасягненняў архітэктуры.

Метрыка Вялікага Княства Літоўскага стала асновай велікакняжацкага, а пазней галоўнага дзяржаўнага архіва ВКЛ. Сярод судовых архіваў вылучаўся архіў Трыбунала ВКЛ. Фамільныя архіўныя зборы былі ў магнатаў і шляхты. Найважнейшыя з іх — архівы Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў, Хадкевічаў, Глябовічаў і інш.

Утварэнне Рэчы Паспалітай, іншыя палітычныя падзеі, што адбываліся ў Еўропе і ў суседняй Расійскай дзяржаве, паступова вялі да зменаў канфесійнага становішча на тэрыторыі ВКЛ. Перш за ўсё гэта адбілася на структуры ўжо існаваўшых тут канфесій. Дзейнасць каталіцкай царквы і яе манаскіх ордэнаў прыводзіла да таго, што ўжо ў апошніх гадах XVI ст. расла колькасць каталіцкіх парафій і храмаў на тэрыторыі Беларусі, дзе раней пераважала праваслаўнае насельніцтва. Віленская рымска-каталіцкая дыяцэзія, якая ахоплівала значную частку тэрыторыі ВКЛ, стала адной з найбуйнейшых на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. На пачатку XVII ст. у яе склад уваходзілі: 2 архідэканаты, 26 дэканатаў, 354 парафіі, 93 кляштары (у тым ліку 81 мужчынскі і 12 жаночых). Напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай у склад 26 дэканатаў Віленскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі ўваходзіла 421 парафія, 3 парафіі з цэнтрам у Веліжы, Невелі і Себежы ўваходзілі ў склад Смаленскай дыяцэзіі (абедзве дыяцэзіі падпарадкоўваліся Гнезненскай правінцыі). На тэрыторыі ВКЛ дзейнічалі 234 кляштары (з іх 193 — мужчынскія, 41 — жаночыя). Найбольш распаўсюджанымі мужчынскімі ордэнамі былі: дамініканцы, францысканцы, бернардзінцы, езуіты. Сярод жаночых кляштараў пераважалі марыявіткі, бернардзінкі, шарыткі і бенедыкцінкі.

Канец XVI ст. кардынальна змяніў рэлігійную структуру ВКЛ. Кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III дазволіў мітрапаліту Міхаілу Рагозу 12 мая 1596 г. склікаць у Берасці сабор, які і адбыўся ў кастрычніку. Царкоўная унія, прынятая на гэтым саборы, захавала царкоўна-славянскую літургію і абраднасць, але перадавала ўніяцкую царкву пад духоўную ўладу Папы Рымскага. На працягу XVII ст. ішоў складаны працэс фарміравання ўніяцкіх структур. У XVII—XVIII стст. у Рэчы Паспалітай існавалі наступныя ўніяцкія епархіі: Кіеўска-Віленская мітрапаліцкая з епіскапскай кафедрай у Вільні, Полацкая архіепархія (Полацк), Смаленская архіепархія (з 1625 г., Смаленск), Уладзіміра-Берасцейская (Уладзімір), Пінска-Тураўская (Пінск), Холмская (Холм), Луцкая (Луцк, з 1630-х гг. да 1702 г. — праваслаўная), Львоўская (Львоў, з 1630-х гг. да 1700 г. — праваслаўная), Перамышльская (Перамышль, да 1692 г. — праваслаўная). Беларускія землі ў сярэдзіне XVIII ст. уваходзілі ў Полацкую, Уладзіміра-Берасцейскую, Пінска-Тураўскую і Кіеўска-Віленскую епархіі — усяго 75 дэканатаў з 1727 цэрквамі. У склад Літоўскай базыльянскай правінцыі ўваходзілі: 71 базыльянскі мужчынскі (4 з якіх з'яўляліся рэзідэнцыяй Супрасльскай архімандрыі) і 8 жаночых манастыроў. У 1780 г. шэраг манастыроў (Ануфрыева, Бязводзічы, Віцебск, Вярбілава, Дабрыгорава, Любавічы, Малашкавічы, Муравіль, Махірова, Орша, Полацк (2), Пустынкі, Рагачоў, Сіроціна, Тадуліна, Талачын, Чарэя (Белая Царква), Ушачы) склалі Беларускую правінцыю базыльянскага ордэна Св. Мікалая. Манастыры з'яўляліся цэнтрамі духоўнага жыцця ўніятаў. Пры ўсіх жаночых і 35 мужчынскіх манастырах дзейнічалі школы. Пры манастырах Вільні і Свержаня — духоўныя семінарыі, у Вільні  і Супраслі — друкарні.

Для праваслаўнай царквы ВКЛ перыяд з другой паловы XVI да канца XVIII ст. стаў перыядам цяжкіх выпрабаванняў. Аднак, у першыя дзесяцігоддзі пасля заключэння Люблінскай уніі палітыка манархаў Рэчы Паспалітай дазваляла праваслаўным іерархам спакойна займацца духоўнымі і арганізацыйнымі справамі. Так, 2 студзеня 1592 г. па просьбе праваслаўнага мітрапаліта Міхаіла Рагозы быў прыняты прывілей, згодна з якім свецкія ўлады, чыны і ўладальнікі ВКЛ не павінны былі ўмешвацца ў духоўныя справы праваслаўнага мітрапаліта і епіскапаў, судзіць святароў, скасоўваць шлюбы і г.д. Каралеўскімі граматамі былі зацверджаны праваслаўныя царкоўныя брацтвы ў Менску (11 верасня 1592 г.) і ў Берасці (11 кастрычніка 1592 г.). Але, нягледзячы на асобныя ўказы, якія працягвалі выдавацца і надалей, заключэнне Берасцейскай царкоўнай уніі ў 1596 г. аўтаматычна скасоўвала структуру праваслаўнай царквы на тэрыторыі ВКЛ. Толькі ў 30-я гады XVII ст. пачынаецца аднаўленне яе структур. У 1633 г. Уладзіслаў IV даў дазвол на адкрыццё праваслаўных епархій з цэнтрамі ў Луцку, Львове, Перамышлі і Магілёве. Мітрапалітам быў прызначаны архімандрыт Кіева-Пячорскай лаўры Пётр Магіла, магілёўскім праваслаўным епіскапам — Іосіф Бабрыковіч. Спецыяльна створаная камісія павінна была падзяліць паміж праваслаўнымі і ўніятамі цэрквы і манастыры. Згодна з „вечным мірам" 1686 г., які быў заключаны паміж Рэччу Паспалітай і Расійскай дзяржавай, праваслаўная царква Рэчы Паспалітай была падпарадкавана маскоўскай патрыярхіі. На пачатку XVIII ст. у Рэчы Паспалітай заставалася толькі адна Беларуская праваслаўная епархія з месцазнаходжаннем кафедры ў Магілёве. Дзейнічалі 42 праваслаўныя манастыры (34 — мужчынскія і 8 — жаночыя). Аднак, трэба мець на ўвазе, што час ад часу манастыры пераходзілі або іх пераводзілі ў базыльянскія. Больш рэдка назіраўся зваротны працэс. Такі стан захоўваўся да канца XVIII ст. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) і адыходу цэнтра Беларускай праваслаўнай епархіі да Расійскай імперыі кароль Станіслаў Аўгуст зацвердзіў 27 чэрвеня 1785 г. новую праваслаўную епархію Рэчы Паспалітай з цэнтрам у Слуцку. Яе кіраўніком стаў епіскап Віктар (Садкоўскі).

З канца XVII ст. на тэрыторыю ВКЛ пачалі пераходзіць з Расіі стараверы. З Левабярэжнай Украіны, праз Старадуб'е, на Гомельшчыну і Магілёўшчыну пераходзілі папоўцы; з поўначы, праз Рыгу, на Віцебшчыну і Віленшчыну — беспапоўцы. У пачатку XVIII ст. мястэчка Ветка стала буйным цэнтрам старавερства, але так званыя „выгонкі", якія былі праведзены расійскімі войскамі ў 1735 і 1764 гг., прымусілі перанесці цэнтр стараверства ў Старадуб'е.

Арганізацыйна-тэрытарыяльная структура пратэстанцкай царквы Рэчы Паспалітай склалася да канца XVI ст. Яна ўключала тры правінцыі — Велікапольскую, Малапольскую і Літоўскую. У Літоўскую правінцыю ўваходзілі тэрыторыі сучаснай Літвы, Беларусі і Падляшша. Яна складалася з шасці дыстрыктаў: Віленскага, Завілейскага, Навагародскага, Беларускага (ці Рускага), Берасцейскага (ці Падляшскага) і Жамойцкага. Дыстрыкты ўзначальваліся суперінтэндантамі. Такая структура праіснавала да канца XVIII ст.

Агульны сінод трох правінцый называўся Генеральным. Кіруючым цэнтрам Літоўскай правінцыі быў Віленскі правінцыяльны сінод, на якім разглядаліся найбольш важныя царкоўна-рэлігійныя і прыватна-прававыя справы. Пытанні ўнутранага жыцця дыстрыктаў вырашаліся на партыкулярных сінодах. У дзейнасці сінодаў прымалі ўдзел духоўныя і свецкія асобы. Правінцыяльныя сіноды адбываліся штогод у Вільні. Аднак пасля пагрому Віленскага збора ў 1682 г., сіноды ў мэтах бяспекі праводзіліся пераважна ў радзівілаўскіх уладаннях — Беліцы, Жупранах, Кейданах, Слуцку, Койданаве.

На працягу другой паловы XVI — XVII стст. у ВКЛ дзейнічала каля 200 збораў, з іх каля 100 размяшчаліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Некаторыя з іх існавалі кароткачасова. Пераважная большасць збораў былі кальвініскімі, пры зборах былі шпіталі, пачатковыя школы. У Вільні, Слуцку, Кейданах і Заблудаве існавалі гімназіі. Амаль адначасова з распаўсюджваннем Рэфармацыі было арганізавана рэфармацыйнае кнігадрукаванне. Друкарні дзейнічалі ў Вільні, Берасці, Нясвіжы, Лоску, Любчы.

У 60-я гг. XVI ст. у выніку расколу рэфармацыйнага руху ў ВКЛ сфарміравалася радыкальная плынь Рэфармацыі — антытрынітарызм (арыянства). На тэрыторыі Беларусі арыянскія абшчыны існавалі ў Навагародку, Лоску, Клецку, Іўі, Любчы, Нясвіжы. У другой палове XVI ст. у Іўі дзейнічала арыянская школа з высокім узроўнем выкладання.

Лютэранскія абшчыны ВКЛ былі нешматлікімі. Вышэйшым органам лютэранскай царквы былі сіноды. На сінодзе ў Біржах (1784 г.) былі ўтвораны тры акругі: Біржанская, Слуцкая і Віленская, якія падпарадкоўваліся Віленскай лютэранскай кансісторыі.

Уплыў пратэстанцкай эліты ў пэўнай ступені садзейнічаў прыняццю акта Варшаўскай канфедэрацыі 1573 г., які гарантаваў рэлігійную свабоду шляхецкаму саслоўю. Контррэфармацыя і рэалізацыя планаў царкоўнай уніі прывялі ў 1599 г. да палітычнага саюзу паміж пратэстантамі і праваслаўнымі. З сумеснымі патрабаваннямі вяртання сваіх правоў і вольнасцей яны выступалі таксама ў 30-я гады XVII ст.

Тэндэнцыі рэлігійнай нецярпімасці асабліва ўзмацніліся пасля польска-шведскай вайны 1655—1660 гг., калі іншаверцаў абвінавацілі ў здрадзе, супрацоўніцтве са шведамі (так званая Кейданская унія 1655 г.). У 1658 г. сойм прыняў рашэнне аб выгнанні арыян з Рэчы Паспалітай. Яны маглі застацца ў краіне толькі пры ўмове пераходу ў каталіцтва. У 1668 г. было забаронена адступніцтва ад каталіцкай царквы. У выніку спусташальных войнаў сярэдзіны XVII ст. большая частка збораў прыйшла ў заняпад. У сярэдзіне XVIII ст. у ВКЛ існавала каля 45 збораў.

Мусульмане ВКЛ зберагалі культурныя і канфесійныя сувязі з Крымам і Турцыяй, прызнаючы да канца XVIII ст. духоўную ўладу турэцкага султана як халіфа ўсіх мусульман. Мусульманскае насельніцтва таксама ў гэты час адчувала ўціск з боку каталіцкага духавенства і насельніцтва. Ужо ў пачатку XVII ст. віленскі рымска-каталіцкі біскуп Бенедыкт не дазваляў татарам-мусульманам будаваць і рамантаваць мячэці. Толькі ў 1766 г. татарам дазволілі рамантаваць старыя мячэці. А ў 1775 г. былі ліквідаваны ўсе іншыя абмежаванні. Па гістарыяграфіі і крыніцах можна ўстанавіць наяўнасць 24 мячэцяў на тэрыторыі ВКЛ у XVII—XVIII стст. Найбольш распаўсюджаныя яны былі ў Трокскім павеце (13 мячэцяў), 3 зафіксаваны ў Гарадзенскім павеце, 4 — у Навагародскім ваяводстве, 1 — у Менску, 1 — у Ковенскім павеце.

Даволі значным у колькасных адносінах на тэрыторыі ВКЛ было яўрэйскае (іўдзейскае) насельніцтва. Пасля выгнання, якое адбылося ў канцы XV ст., яўрэям зноў дазволілі вярнуцца на пачатку XVI ст. Іх маёмасць, сінагогі і могілкі падлягалі вяртанню. У гарадах і мястэчках пачалося будаўніцтва каменных і драўляных сінагог. На тэрыторыі ВКЛ у XVII—XVIII стст. дзейнічала каля 57 сінагог і малітоўных дамоў, выключна ў гарадах і мястэчках. У 1623 г. адбыўся першы з'езд яўрэйскіх абшчын ВКЛ, на якім былі прадстаўлены абшчыны, што ў далейшым склалі пяць галоўных абшчын ВКЛ — Берасце, Горадна, Пінск, Вільня, Слуцк.

Такім чынам, канфесіянальная структура насельніцтва ВКЛ да канца XVIII ст. значна змянілася: адбыўся рэзкі пераход ад праваслаўя да ўніяцтва і каталіцтва. У канцы XVIII ст. пры агульнай колькасці насельніцтва 3 млн 850 тыс. чал. тут пражывала: уніятаў — 1 млн 500 тыс. (амаль 39%), католікаў — 1 млн 470 тыс. (38,2%), іўдзеяў — 385 тыс. (10%), праваслаўных — 250 тыс. (6,5 %), старавераў — 140 тыс. (3,6%), пратэстантаў (кальвіністаў і лютэран) — 60 тыс. (1,5%), мусульман — 40 тыс. (1%), караімаў — 5 тыс. чал. (0,1%).

А. М. Філатава, В. В. Яноўская




**●ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў
**ПОЛАЦК** Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай
РЭЧЫЦА Цэнтры паветаў ВКЛ
НЯСВІЖ Іншыя гарады
Быцень Мястэчкі
*Гнезна* Сёлы, іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у канцы XVI ст.
- паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай у 1618—1632 гг.
- залежных дзяржаў і тэрыторый; паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ВКЛ у канцы XVI ст.
- ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- паветаў ВКЛ
- далучаных тэрыторый
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
- Тэрыторыі, далучаныя да Рэчы Паспалітай па ўмовах Дэўлінскага перамір'я 1618 г.

**АСВЕТА, КУЛЬТУРА**

- Друкарні
- Езуіцкія навучальныя ўстановы
- школы пры рэзідэнцыях
- калегіумы; акадэмія
- Кармеліцкія школы
- Бернардзінская школа
- Францысканская школа
- Каталіцкая кафедральная школа
- Школы праваслаўных брацтваў
- Сярэднія школы пры праваслаўных манастырах і цэрквах
- Школы ўніяцкіх брацтваў
- Сярэднія школы пры ўніяцкіх манастырах і цэрквах
- Пратэстанцкія школы
- ніжнія; сярэднія
- Каталіцкія семінарыі
- Уніяцкія семінарыі
- Езуіцкія музычныя бурсы
- Царкоўныя капэлы
- Прыватныя капэлы
- Манументальныя роспісы
- Арганы
- Царкоўныя бібліятэкі
- Прыватныя бібліятэкі
- Архівы
- Царкоўныя (школьныя) тэатры
- Галерэі
- Аптэкі

**ПОМНІКІ МУРАВАНАЙ АРХІТЭКТУРЫ**

Гатычныя (у тым ліку з элементамі рэнесансу) / Барочныя

- касцёлы
- уніяцкія цэрквы
- праваслаўныя цэрквы
- Пратэстанцкія зборы
- Сінагогі
- Замкі і палацы
- Ратушы

Лічбамі на карце абазначаны:
1 Курляндскае біскупства (у 1560—1583 гг. да Даніі)
2 Уладанні г. Рыга

1:3 000 000



**ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў
**ПОЛАЦК** Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай і губерняў Расійскай імперыі
ОРША Цэнтры паветаў ВКЛ
НЯСВІЖ Іншыя гарады
Быцень Мястэчкі
Гезгална Сёлы, іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

дзяржаў у сярэдзіне XVIII ст.
залежных дзяржаў і тэрыторый; паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
ваяводстваў і паветаў ВКЛ
Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**АСВЕТА, КУЛЬТУРА**

Друкарні
Акадэмічныя школы Адукацыйнай камісіі
3-класныя
6-класныя
Галоўная школа ВКЛ
Кадэцкія корпусы
Жаночыя пансіёны
Тэатральна-мастацкія школы
Рамесныя і іншыя прафесійныя школы
Вайсковыя капэлы
Езуіцкія музычныя бурсы
Царкоўныя капэлы
Прыватныя капэлы
Манументальныя роспісы
Арганы
Царкоўныя бібліятэкі
Прыватныя бібліятэкі
Архівы
Царкоўныя (школьныя) тэатры
Прыватныя тэатры
Музейныя зборы
Карцінныя галерэі
Палацава-паркавыя комплексы

**ПОМНІКІ МУРАВАНАЙ АРХІТЭКТУРЫ**

Барочныя — У стылі віленскага барока
касцёлы
уніяцкія цэрквы
праваслаўныя цэрквы
Ратушы

Лічбай 1 на карце абазначана Вармінскае княства (у складзе Каралеўства Польскага)

1:2 000 000



Тэатр Уршулі Радзівіл




●ВІЛЬНЯ Сталіцы дзяржаў

◎ПОЛАЦК Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай

○ОРША Цэнтры паветаў ВКЛ

○НЯСВІЖ Іншыя гарады

○Быцень Мястэчкі

○Сяляц Сёлы, іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

дзяржаў у сярэдзіне XVIII ст.

залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім

Рэчы Паспалітай у пачатку XVIII ст.

ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVIII ст.

ваяводстваў і паветаў ВКЛ

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ЦЭНТРЫ ПРАВАСЛАЎНЫХ ЕПАРХІЙ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ**

напярэдадні 1596 г.

адноўленыя ў 1630-я гг.

**ПРАВАСЛАЎНЫЯ МАНАСТЫРЫ ў XVII–XVIII стст.**

мужчынскія

жаночыя

з 1743 Гады прыналежнасці да базыльян

Праваслаўныя духоўныя семінарыі

Праваслаўныя школы

Лічбай 1 на карце абазначана Пільтэнская акруга (уладанне Рэчы Паспалітай)

1:3 000 000






| | |
|---|---|
| **ВІЛЬНЯ** | Сталіцы дзяржаў |
| ПОЛАЦК | Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай |
| ОРША | Цэнтры паветаў ВКЛ |
| НЯСВІЖ | Іншыя гарады |
| Быцень | Мястэчкі |
| *Сяцук* | Сёлы, іншыя населеныя пункты |

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у сярэдзіне XVIII ст.
- залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- Рэчы Паспалітай у пачатку XVIII ст.
- ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVIII ст.
- ваяводстваў і паветаў ВКЛ
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

| | |
|---|---|
| ❋ | Месца прыняцця Берасцейскай уніі 1596 г. |
| 1609 | Месцы і гады выступлення супраць уніі |
| ПІНСК | Цэнтры епархій |

**ЦЭНТРЫ ДЭКАНАТАЎ ЕПАРХІЙ**

- Полацкай
- Холмскай
- Уладзімірска-Берасцейскай
- Пінска-Тураўскай
- Кіеўска-Віленскай

19 — Колькасць парафій дадзенага дэканата (да 1772 г.)

**МАНАСТЫРЫ ЛІТОЎСКАЙ ПРАВІНЦЫІ БАЗЫЛЬЯНСКАГА ОРДЭНА СВЯТОЙ ТРОЙЦЫ**

- мужчынскія
- жаночыя
- Статус архімандрыі

Манастыры, якія ў 1780 г. склалі Беларускую правінцыю базыльянскага ордэна Святога Мікалая

◇ Уніяцкія семінарыі

Школы пры базыльянскіх манастырах

Лічбай 1 на карце абазначана Пільтэнская акруга (уладанне Рэчы Паспалітай)

1:3 000 000

## КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА ў XVII–XVIII стст.



# ПРАТЭСТАНЦКІЯ ЦЭРКВЫ ў другой палове XVI—XVIII ст.




1:3 000 000

| | |
|---|---|
| **ВІЛЬНЯ** | Сталіцы дзяржаў |
| **ПОЛАЦК** | Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай |
| ОРША | Цэнтры паветаў ВКЛ |
| НЯСВІЖ | Іншыя гарады |
| Капыль | Мястэчкі |
| *Гнезна* | Сёлы, іншыя населеныя пункты |

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у сярэдзіне XVIII ст.
- Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVIII ст.
- залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
- ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
- ваяводстваў і паветаў ВКЛ
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ЗБОРЫ І КІРХІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА**

| | 1569 г.—XVII ст. | XVIII ст. (захаваліся з XVII ст.) | XVIII ст. (утварыліся ў XVIII ст.) |
|---|---|---|---|
| кальвінісцкія | ✓ | ✓ | ✓ |
| лютэранскія | ✓ | ✓ | ✓ |
| арыянскія | ✓ | | |

Гімназіі рэфармацыйнай царквы на працягу XVII—XVIII стст.

Лічбамі на карце пазначаны рэфармацыйныя зборы Вялікага Княства Літоўскага

кальвінісцкія

1569 г.—XVII ст.

1 *Несуты*
2 *Падубісь*
3 *Пашушве*
4 *Солы*
5 *Цітавяны*
6 *Чабішкі*
7 *Шаты*
8 *Шаўкяны*

XVIII ст. (захаваліся з XVII ст.)

9 *Швабішкі*
10 *Шыдлоў*
11 *Шыляны*

Лічбай 1 на карце абазначана Пільтэнская акруга (уладанне Рэчы Паспалітай)


ІСЛАМ
ВІЛЬНЯ Сталіцы дзяржаў
ПОЛАЦК Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай
ОРША Цэнтры паветаў ВКЛ
НЯСВІЖ Іншыя гарады
Сянно Мястэчкі
Студзенка Сёлы, іншыя населеныя пункты
ГРАНІЦЫ
дзяржаў у сярэдзіне XVIII ст.
Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVIII ст.
залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
ваяводстваў і паветаў ВКЛ
Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
Мячэці ВКЛ у XVII–XVIII ст.
Месцы пражывання перапісчыкаў, арабаграфічных рукапісаў татараў у XVII–XVIII ст.
Лічбай 1 на карце абазначана Пільтэнская акруга (уладанне Рэчы Паспалітай)
1:4 150 000
ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ
ІНФЛЯНЦКАЕ КНЯСТВА
КУРЛЯНДСКАЕ ГЕРЦАГСТВА
РАСІЙСКАЯ ІМПЕРЫЯ
КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАЕ
КАРАЛЕЎСТВА ПРУСІЯ


ІУДАІЗМ
ВІЛЬНЯ Сталіцы дзяржаў
ПОЛАЦК Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай
ОРША Цэнтры паветаў ВКЛ
НЯСВІЖ Іншыя гарады
Сянно Мястэчкі
Студзенка Сёлы, іншыя населеныя пункты
ГРАНІЦЫ
дзяржаў у сярэдзіне XVIII ст.
Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVIII ст.
залежных дзяржаў і тэрыторый, паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім
ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай
ваяводстваў і паветаў ВКЛ
Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
Сінагогі і яўрэйскія малітоўныя дамы. XVII–XVIII ст.
1628 Месцы пасяджэнняў Літоўскага Вааду (з пазначэннем года)
Ешывы (яўрэйскія навучальныя ўстановы)
Лічбай 1 на карце абазначана Пільтэнская акруга (уладанне Рэчы Паспалітай)
1:4 150 000
ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ
ІНФЛЯНЦКАЕ КНЯСТВА
КУРЛЯНДСКАЕ ГЕРЦАГСТВА
РАСІЙСКАЯ ІМПЕРЫЯ
КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАЕ
КАРАЛЕЎСТВА ПРУСІЯ

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў КАНЦЫ XVIII СТАГОДДЗЯ

Генеральная карта адлюстроўвае сённяшні стан ведаў па гісторыі населеных пунктаў у азначаны час. У адрозненне ад аналагічнай карты з першага тома тут прадстаўлена значна больш паселішчаў: звыш 22 тысяч, з іх 17 348 — на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь. Гэта крыху менш за палову ад іх тагачаснай колькасці. Пры гэтым больш-менш значныя паселішчы нанесены ўсе, а ўзровень адлюстравання дробных тлумачыцца розніцай у структуры рассялення. У паўднёвай частцы беларускіх зямель (ніжэй за ўмоўную лінію Ваўкавыск-Навагародак-Менск-Орша) населеныя пункты былі больш буйнымі і размяшчаліся не вельмі шчыльна. Гэта дазволіла нанесці і большасць невялікіх паселішчаў. На поўначы, асабліва ў Падзвінні, здаўна пераважалі вельмі дробныя паселішчы, часта — усяго некалькі двароў, а то і ўвогуле аднадворныя. Нанесці іх усе на карту масштабу 1:300 000 — задача невырашальная, таму ў такіх раёнах прадстаўлены ўсе мястэчкі і сёлы, у якіх меліся культавыя пабудовы, і пераважная большасць цэнтраў маёнткаў. З шэрагу паселішчаў у першую чаргу на карце пазначаліся тыя, што захаваліся да нашых дзён і якія адлюстраваны на сучасных картах маштабу 1:200 000. Пры адсутнасці пэўных вёсак на сучаснай карце праводзілася лакалізацыя іх на падставе шырокапрызнанай, дзякуючы сваёй дакладнасці, „трохвёрсткі“, або „Ваенна-тапаграфічнай карты Еўрапейскай Расіі“ маштабу 1:126 000 сярэдзіны XIX стагоддзя. Калі адно ці некалькі тагачасных паселішчаў знаходзіліся на тэрыторыі буйнога сучаснага населенага пункта, гэта адлюстроўваецца ў геаграфічным паказальніку.

Назвы населеных пунктаў прыведзены ў тагачаснай форме, але з транслітарацыяй польскамоўнага напісання і ўлікам правіл сучаснай беларускай арфаграфіі, а ў паказальніку падаюцца сучасныя формы і адміністрацыйная прыналежнасць на сённяшні дзень (для пунктаў за межамі сучаснай Беларусі — толькі дзяржаўная прыналежнасць). Пры наяўнасці розных варыянтаў напісання яны адлюстроўваюцца ў паказальніку. Асноўным пры гэтым лічыцца, як правіла, той варыянт, які супадае з сучасным напісаннем ці найбольш блізкі да яго.

Асноўны змест Генеральнай карты адпавядае стану рэчаў напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе. На гэтую дату прыведзены знешнія і ўнутраныя межы, а таксама прыналежнасць маёнткаў. Але значная колькасць крыніц, прытым найбольш каштоўных, датуецца больш познім часам — другой паловай 1770-х–1790-мі гадамі. Іх звесткі па магчымасці былі адкарэкціраваны з улікам змен, якія адбыліся пасля 1772 г. Зразумела, не ўсе такія змены ўдалося прасачыць. Таму частка адлюстраванай інфармацыі адпавядае апошняй чвэрці XVIII стагоддзя.

На карце ўпершыню самым падрабязным чынам прыводзіцца размяшчэнне святынь: касцёлаў, цэркваў, кляштараў і манастыроў з пазначэннем іх колькасці ў пэўным населеным пункце. Па магчымасці рэлігійная сітуацыя таксама прывязана да 1772 г., без уліку змен веравызнальнай прыналежнасці ў выніку неадназовай рэлігійнай канверсіі. Таму звесткі пра прыналежнасць цэркваў і манастыроў да уніяцкай і праваслаўнай канфесій могуць не супадаць з тым, што сцвярджаецца ў іншых крыніцах.

Пры стварэнні карты выкарыстоўваліся разнастайныя архіўныя дакументы. Большасць з іх дагэтуль не была прадметам грунтоўнага навуковага вывучэння і адпаведнага буйнамаштабнага картаграфавання, нягледзячы на шэраг спецыяльных напрацовак, у тым ліку і польскіх даследчыкаў.

Сярод выкарыстаных крыніц — матэрыялы рэвізіі (люстрацыі) дзяржаўных уладанняў (старостваў, каралеўскіх эканомій) 1765–1766 гг., праведзенай па ўсёй тэрыторыі ВКЛ з азначэннем як іх межаў, так і складу паселішчаў. Гэта дазволіла практычна поўнасцю адлюстраваць на карце структуру дзяржаўнай маёмасці, з улікам той акалічнасці, што некаторыя старасты складаліся з адной вёскі і іх дробныя тэрыторыі з-за прынятага маштабу немагчыма паказаць дакладна.

Каштоўнай крыніцай з'яўляюцца вопісы зямельных уладанняў ВКЛ 1775 г. (тарыфы падымнага падаткаабкладання). Вопісы гэтыя праводзіліся паводле пастановы сейма Рэчы Паспалітай 1773–1775 гг. для падліку даходаў дзяржавы пасля скарачэння яе межаў. Такія тарыфы маюцца па большасці паветаў, за выключэннем часткі, страчанай ВКЛ у выніку падзелу 1772 г. Захоўваюцца яны, як і рэвізіі старостваў, у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы, а часткова (у выглядзе копій, унесеных у паветовыя актавыя кнігі) — у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску. Не ўсе наяўныя тарыфы аднастайныя. Асноўная частка іх паведамляе толькі пра ўладальніка і падае назву ўладання, не раскрываючы, якія іншыя паселішчы ўваходзілі ў яго склад. Самыя змястоўныя, накшталт тарыфаў Берасцейскага, Менскага, Ашмянскага і Лідскага паветаў, маюць падрабязныя звесткі пра склад уладанняў, размешчаныя ў іх цэрквы, манастыры, кляштары, корчмы. Пэўныя складанасці ўзнікаюць пры лакалізацыі звестак гэтых крыніц, паколькі часта тарыфы паведамляюць некалькі разоў пра адно і тое ж паселішча, якое было ў сумесным валоданні розных асоб. Гэта выяўляецца пры вывучэнні іншых крыніц, якія паслужылі дадатковымі падставамі для рэканструкцыі сітуацыі 1770-х гг.

Найперш — гэта апісанні парафій ВКЛ 1784–1785 гг. Яны істотна дапаўняюць падымныя тарыфы, часта дазваляюць удакладніць іх сціплыя запісы. У іх апісаны абшары касцельных (каталіцкіх) прыходаў з дэталёвым пералікам складаючых іх паселішчаў, іх тыпу, уласніцкай прыналежнасці і прыблізным (часта недакладным) пазначэннем іх месцазнаходжання адносна цэнтра парафіі. Прыгадваюцца таксама паветовыя межы і дарогі, якія разыходзіліся з кожнага парафіяльнага цэнтра ва ўсіх напрамках. Апублікаваныя на сённяшні дзень вопісы ахопліваюць абшары Полацкага ваяводства, Ашменскага, Браслаўскага, Гарадзенскага, Лідскага, Пінскага, Слонімскага і Мазырскага паветаў (Przyszłość kultury polak w na kresach//Prace Białystokskiego towarzystwa naukowego. — Białystok — Drohyczyn. 2000. № 50). Іншыя захоўваюцца ў рукапісным выглядзе ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы і аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У. І. Вярнадскага.

Прынцыповай крыніцай удакладненняў паслужылі матэрыялы Генеральнага межавання ўсходнебеларускай тэрыторыі, на якой пасля першага падзелу былі ўтвораны Полацкае і Магілёўскае намесніцтвы (губерні) і якая была інструментальна абмежавана ў 1783–1785 гг. Захоўваюцца гэтыя матэрыялы ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве і Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў. Яны былі прадметам падрабязнага навуковага аналізу аднаго з аўтараў (Я. Анішчанка. Генеральнае межаванне на Беларусі. — Мн., 1996; Я. Анішчанка. Генеральнае межаванне ў Беларусі. — Горкі — Магілёў, 2002), вызначэння іх годнасці і каштоўнасці. Высветлена, што межавая здымка вялася з высокай для таго часу дакладнасцю (пагрэшнасць не перавышае 3%). Таму на дадзенай Генеральнай карце шырока выкарыстоўваліся звесткі межавых атласаў, генеральных планаў і эканамічных заўваг да іх, што дазволіла кампенсаваць непаўнату тэрытарыяльнага ахопу ў тарыфах і вопісах парафій ВКЛ. Вельмі істотна, што згодна з афіцыйнай мэтай, межаванне павінна было адлюстраваць у буйным маштабе (у памеры 1:42 000 для генеральных планаў на кожны павет) межы ўсіх наяўных уладанняў па стане на 1767 год. Гэта значна спрыяла паказу існаваўшых на момант першага падзелу паселішчаў, якія ў далейшым былі перайменаваны або зніклі ўвогуле.

Наступнай першакрыніцай служылі тарыфы чарговага падымнага ўліку, арганізаваныя Чатырохгадовым соймам 1788–1792 гг. на ўсёй тагачаснай тэрыторыі ВКЛ, але якія, на жаль, захаваліся не ўсе. Для нас істотна, што дастаткова падрабязнымі з іх з'яўляюцца скарыстаныя тарыфы па Лідскаму, Ашменскаму паветах, Навагародскім ваяводстве і інш.

Выкарыстаны картаграфічныя матэрыялы і тэкставыя тлумачэнні да іх (т. зв. эканамічныя заўвагі) Атласа Мінскай губерні 1797–1800 гг., якія таксама былі прадметам навуковага аналізу (Я. Анішчанка. Крыніцы і аўтары Атласа Мінскай губерні 1800 года // Тэзісы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі „Архівазнаўства, крыніцазнаўства, гістарыяграфія Беларусі. Мн., 1993. Ч. 1. С. 127–132“). Пры стварэнні карты выкарыстоўваліся і адпаведныя Атласы Гродзенскай і Віленскай губерняў пачатку XIX ст., а таксама буйнамаштабныя здымкі Беласточчыны, якія адлюстроўваюць вынікі дэмаркацыі мяжы паміж Расіяй і Прусіяй, што была распачата ў 1797 г. (Я. Анішчанка. Інкарпарацыя. Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мн., 2003), і так званая „Падрабязная мілітэрная карта па граніцы Расіі з Прусіяй“ 1799 г., на якой пазначана заходняя частка Беларусі.

Пэўныя ўдакладненні рабіліся на падставе рознагасовых інвентароў асобных маёнткаў, геаграфічнага паказальніка І. Спрогіса да актавых кніг Віленскага архіва старажытных актаў, які маецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, а таксама друкаваных крыніц (Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 1-15. Warszawa, 1880–1914; Litak S., Kościół łaciński w Rzeczypospolitej około 1772 roku. Struktury administracyjne, Lublin, 1996; W. Kołbuk, Kościoły wschodnie w Rzeczypospolitej około 1772 roku. Struktury administracyjne, Lublin, 1998; Litak S., Atlas Kościoła łacińskiego w Rzeczypospolitej Obojga Narod w XVIII wieku, Lublin, 2007).

Пры карыстанні вынікамі гэтай працы трэба ўлічваць, што інструментальныя здымкі межаў уладанняў маюцца толькі для правабярэжжа Дзвіны і левабярэжжа Дняпра. На ўсю астатнюю тэрыторыю Беларусі выкарыстаныя крыніцы дазваляюць рэканструяваць межы маёнткаў умоўна, прыблізна, на падставе складу ўваходзячых у іх паселішчаў. Да таго ж землеўласніцкая структура пастаянна мянялася з-за продажу, закладаў („заставы“), шлюбаў, дарэнняў і г. д. На тэрыторыі, далучанай у 1772 г. да Расіі, значная частка дзяржаўных і царкоўных маёнткаў была канфіскавана і перайшла да прыватных уласнікаў, таму адлюстраванне іх прыналежнасці ў часы ВКЛ патрабуе адмысловай рэканструкцыі, для якой не заўжды хапае звестак.

Пры стварэнні Генеральнай карты быў прыняты шэраг дапушчэнняў. Першае з іх тычыцца таго, што ўвогуле трэба разумець пад беларускімі землямі ў азначаны час. Як вядома, само ўяўленне пра існаванне асобнага беларускага этнасу (народа, нацыі) аформілася пазней. У другой палове XVIII стагоддзя саманазвы, уласцівай выключна гэтаму этнасу, яшчэ не было. Для адрознення ад суседзяў выкарыстоўваліся розныя тэрміны, якія ў канкрэтных абставінах маглі мець розны сэнс. Так, у зоне кантакту з этнічнымі літоўцамі альбо палякамі апазнавальным маркёрам магла стаць прыналежнасць да „рускай“ веры і валоданне „рускай“ мовай. Для адрознення ад жыхароў Украіны і Масковіі ўжывалася „ліцвінская“ ідэнтыфікацыя.

Навуковае вызначэнне межаў рассялення беларусаў адбывалася ў канцы XIX — пачатку XX ст., пры гэтым розныя аўтары часам прыходзілі да істотна розных высноў. Асабліва гэта тычыцца межаў з украінцамі на Берасцейшчыне і Піншчыне, з велікарусамі — на Смаленшчыне і Браншчыне.

Улічваючы, што агульнапрынятага падыходу на гэты конт так і не склалася, пры вызначэнні абшару беларускіх зямель на 1772 год улічвалася фармальная прыналежнасць да адміністрацыйных адзінак — тагачасных і сённяшніх. Усе тэрыторыі, якія ўваходзяць у склад сучаснай Рэспублікі Беларусь, лічацца беларускімі незалежна ад таго, у склад якой адміністрацыйнай адзінкі яны некалі ўваходзілі. Па-за гэтымі межамі ў разлік бярэцца тагачасная прыналежнасць. На поўначы і ўсходзе вырашальным крытэрыем стала знешняя граніца ВКЛ напярэдадні першага падзелу, што дазволіла далучыць да беларускіх зямель Невель, Себеж, Веліж і паўночна-ўсходнюю частку Мсціслаўскага ваяводства. На паўночным захадзе да беларускіх зямель залічаны цалкам Браслаўскі, Ашменскі, Лідскі і Гарадзенскі паветы, а для Віленскага павета падрабязна разглядаецца толькі тая частка, што прыходзіцца на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь. На поўдні Берасцейскі і Пінскі паветы, што далёка выдаваліся ў межы сучаснай Украіны, таксама разглядаюцца цалкам.

Гэты фармальны крытэрый горш за ўсё спрацоўвае на захадзе. Ён дазваляе лічыць беларускімі землямі тыя часткі Берасцейскага і Гарадзенскага паветаў, што знаходзіліся ў сучаснай Польшчы, але не падляшскія паветы, якія з 1569 г. уваходзілі ў склад Польскай Кароны: Бельскі, Дарагічынскі і Мельніцкі. Між тым частка насельніцтва гэтых паветаў, паводле моўных і канфесіянальных крытэрыяў, не можа быць адназначна аднесена да палякаў. Некаторыя з жыхароў гэтых раёнаў да сённяшняга дня адчуваюць сябе беларусамі. Але наяўнасць на гэтых землях несумненна польскага насельніцтва не дазваляе гэтак жа адназначна залічыць іх у склад беларускіх. У такой сітуацыі мы вырашылі ўсё ж не адыходзіць ад фармальнага крытэрыю, але палічылі мэтазгодным пазначыць на той частцы Падляшша, што трапляе ў рамку Генеральнай карты, найважнейшыя цэнтры каталіцкіх і уніяцкіх парафій, якія дазваляюць уявіць зоны пераважання адпаведна польскага або беларускага („рускага“ ў тагачасным разуменні) этнасаў.

Такіх жа фармальных крытэрыяў патрабавала аднясенне населеных пунктаў да катэгорый гарадоў („местаў“ паводле тагачаснай тэрміналогіі) і мястэчак. Увогуле паняцце „мястэчка“ набыло адмысловы сэнс у больш позні час: у адміністрацыйнай практыцы Расійскай імперыі яно вызначала гандлёва-рамесніцкія паселішчы, якія не з'яўляліся, у адрозненне ад гарадоў, адміністрацыйнымі цэнтрамі. У часы ВКЛ такі прынцып не ўжываўся. Словам „мястэчка“ называлі паселішча, проста меншае па памерах чым „места“. Дакладных крытэрыяў для такога падзелу не было, і таму адно паселішча можа ў розных крыніцах выступаць і як „места“, і як „мястэчка“.

Залічыць іх усе ў лік гарадоў не дазваляе тое, што некаторыя паселішчы, якія мелі прывілеі на гандлёва-рамесніцкую дзейнасць, былі зусім невялікімі — памерам у два-тры дзясяткі двароў.

У такой сітуацыі быў ужыты камбінаваны падыход, згодна з якім гарадамі на Генеральнай карце пазначаны тыя паселішчы, якія, апрача прывілею на статус „места“, адпавядалі не менш чым тром з шасці наступных крытэрыяў: былі цэнтрамі адміністрацыйных адзінак (ваяводстваў і паветаў), цэнтрамі буйных гаспадарчых адзінак (дзяржаўных эканомій, прыватных латыфундый), мелі самакіраванне паводле магдэбургскага права, гарадскія ўмацаванні бастыённага тыпу (што пацвярджае іх важнае абарончае значэнне), з'яўляліся цэнтрамі трох ці больш прыходаў розных хрысціянскіх канфесій (што пры адсутнасці дакладных звестак пра колькасць насельніцтва выступае даволі надзейным індыкатарам буйных памераў паселішча) і мелі больш за адзін манастыр (кляштар) розных канфесій (што характэрна для значнага культурнага цэнтра).

Трэцяе дапушчэнне тычыцца адрознення магнацкіх і шляхецкіх маёнткаў. Вядома, што ў палітычна-гаспадарчым жыцці Рэчы Паспалітай вялікае значэнне мела дыферэнцыяцыя фармальна роўнай шляхты на дзве катэгорыі: шараговую шляхту дробных маёнткаў, засценкаў і аколіц з аднаго боку і саноўнікаў, уладароў вялізных латыфундый — з другога. Магнатамі ў літаратуры прапаноўвалася лічыць уладальнікаў больш за 1 тыс. двароў ці больш за 3500 мужчынскіх або рэвізскіх душ (Козловский П. Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII в. Мн., 1982). Выкарыстаць гэты фармальны крытэрый не дазваляе тое, што вызначыць дакладную колькасць двароў ва ўладанні той ці іншай асобы на пэўны момант вельмі праблематычна. Крыніцы такога кшталту (вышэйзгаданыя тарыфы і эканамічныя заўвагі да межавых атласаў) не супадаюць па часе і ахопліваюць розныя тэрыторыі, прытым што неабходна ведаць менавіта поўную колькасць падданых у розных паветах. Да таго ж гэты крытэрый не ўлічвае грамадскую важнасць той ці іншай шляхецкай сям'і, якая не заўсёды дакладна адпавядала памерам яе маёмасці.

У такіх умовах мы зноў скарысталі камбінаваны крытэрый: магнацкімі на карце пазначаны ўладанні тых сем'яў (родаў), якія адначасова адпавядаюць двум крытэрыям: хаця б адзін з прадстаўнікоў такой сям'і на працягу другой паловы XVIII стагоддзя займаў пасаду ваяводы, кашталяна, альбо адну з прыдворных сенатарскіх пасад: вялікага ці надворнага маршалка, канцлера, падканцлера, падскарбія, гетмана, сакратара, рэфендара харунжага, мечніка, канюшага, кухмістра, падчашага, крайчага, стольніка, падстолія, чашніка, лоўчага, а ва ўладанні сям'і знаходзілася не менш за 100 паселішчаў, пазначаных на карце і ў паказальніку. Пры ўсёй адноснасці гэтага апошняга крытэрыя ён можа быць лёгка падлічаны, а ў цэлым больш-менш адпавядае крытэрыю, прапанаванаму П. Г. Казлоўскім: валоданне абшарамі, на якіх умяшчалася такая колькасць паселішчаў, з улікам не нанесеных на карту, азначала многія тысячы падданых.

Да ўладароў такіх зямельных комплексаў у адпаведнасці з выкарыстанымі крытэрыямі аднесены на тэрыторыі ВКЛ роды Агінскіх, Бжастоўскіх, Гільзенаў, Масальскіх, Пацаў, Пацеяў, Радзівілаў, Салагубаў, Сангушкаў, Сапегаў, Тызенгаўзаў, Тышкевічаў, Храптовічаў, Чартарыйскіх, Юдыцкіх, а таксама Мнішакаў, Патоцкіх, Плятэраў і Хадкевічаў, большасць маёнткаў якіх знаходзілася ў Літве, Інфлянтах, Польшчы і на Украіне, па-за рамкамі Генеральнай карты. Апрача таго, у геаграфічным паказальніку пазначана ўласнасць родаў, якія не могуць лічыцца магнацкімі, але вызначаюцца на фоне астатняй шляхты параўнальна буйнымі вотчынамі, у тым ліку купленымі ў папярэднія дзесяцігоддзі ў кагосьці з магнатаў (гэта тычыцца, напрыклад, Лапацінскіх і Сулістроўскіх, якія набылі шэраг латыфундый Сапегаў).

Перавага аддаецца больш трывалым формам уладання: пазначаецца, хто быў уласнікам маёнтка, а не яго фактычным карыстальнікам (старастам, арандатарам, закладатрымальнікам). У адпаведнасці з тагачаснай практыкай паказаны дзяржаўныя ўладанні двух тыпаў — каралеўскія эканоміі, даходы з якіх ішлі на ўтрыманне манарха, і старастаы, якія раздаваліся каралямі ў часовае (часта пажыццёвае) карыстанне прыватным асобам. Пры наяўнасці звестак асобна пазначаны таксама ленныя маёнткі, якія фармальна лічыліся дзяржаўнымі, але маглі знаходзіцца ў карыстанні шляхецкіх сем'яў на працягу некалькіх пакаленняў (забаранялася толькі без каралеўскага дазволу прадаваць і абменьваць іх). Але трэба ўлічваць, што пры фрагментарнай вывучанасці крыніц ленныя маёнткі часам могуць быць зблытаны з прыватнымі. Дыферэнцыяцыя ўладанняў царквы адпаведна іх прыналежнасці праваслаўнаму, уніяцкаму або каталіцкаму духавенству пазначана ў паказальніку. Пры гэтым у якасці духоўных пазначаны ўладанні каталіцкага ордэна езуітаў. Але трэба памятаць, што ў 1773 г. ордэн быў скасаваны, а большасць яго маёнткаў у межах Рэчы Паспалітай на працягу некалькіх наступных гадоў перайшлі ў прыватныя рукі. У памяць аб гэтым у крыніцах такія маёнткі звычайна вызначалі як „паезуіцкія“. На тэрыторыі, далучанай да Расіі, езуіты працягвалі дзейнічаць і захоўвалі сваю ўласнасць да афіцыйнага аднаўлення ордэна ў 1814 г.

Найважнейшыя дарогі нанесены даволі ўмоўна, з улікам таго, што існавалі альтэрнатыўныя варыянты праезду праз пэўныя мясціны. Сама розніца паміж галоўнымі і другаснымі шляхамі тагачасных зносін таксама ўмоўная. Да галоўных аднесены тыя дарогі, якія ў крыніцах называюцца не проста гасцінцамі альбо трактамі (публічнымі, паштовымі), але падкрэсліваецца іх магістральны характар, накіраванасць да значных цэнтраў: Віленскі тракт, Варшаўскі тракт і пад. Асноўнымі крыніцамі паслужылі вопісы скарбовай камісіі ВКЛ за 1767 год, апісанні парафій ВКЛ 1784–1785 гг., расійскія межавыя планы і атласы, „Падрабязная мілітэрная карта па граніцы Расіі з Прусіяй“.

Тыпы населеных пунктаў у крыніцах вызначаюцца па-рознаму: сёлы, сельцы, засценкі, аколіцы, абрубы, пустыні, вёскі, пагосты, мястэчкі, гарады. На карце яны часткова абагульнены, паказаны толькі асноўныя тыпы паселішчаў: гарады (паводле вышэйазначаных крытэрыяў), мястэчкі, вясковыя паселішчы (у гэтую групу залічаны, апрача ўласна вёсак і сёл, таксама панскія фальваркі і двары, у якіх большасць жыхароў таксама складалася з паднявольнага сялянства — дваровых людзей) і засценкі-аколіцы (насельнікамі якіх былі асабіста вольныя шляхціцы).

Генеральная карта з'яўляецца вынікам працы двух аўтараў. Першапачатковы варыянт быў распрацаваны Я. Анішчанкам на падставе яго шматгадовай дзейнасці па зборы, сістэматызацыі і лакалізацыі звестак па гісторыі населеных пунктаў беларускіх зямель другой паловы XVIII ст. Папярэднія вынікі гэтай працы ўвасобіліся ў карце „Беларусь у другой палове XVIII ст.“ маштабу 1:1 500 000, выдадзенай у Нацыянальным атласе Беларусі, а таксама карце „Вялікае Княства Літоўскае (сярэдзіна XVIII ст.)“ маштабу 1:2 000 000, што выйшла ў першым томе „Гістарычнага атласа Беларусі“ ў 2008 г. Аднак прапанаваны варыянт патрабаваў істотнай дапрацоўкі, якая тычылася рэканструкцыі павятовых межаў і ўласніцкай прыналежнасці (асабліва на тэрыторыі, страчанай ВКЛ у 1772 г.), удакладненняў значнай часткі межаў маёнткаў, дарожнай сеткі, лакалізацыі паселішчаў, наяўнасці культавых пабудоў, статусу гарадоў і мястэчак. Гэтая дапрацоўка была праведзена В. Насевічам, які бярэ на сябе адказнасць за канчатковы вынік і за тыя разыходжанні, якія маюцца з раней апублікаванымі картамі Я. Анішчанкі. Ідэнтыфікацыю паселішчаў XVIII ст. з сучаснымі і складанне геаграфічнага паказальніка цалкам выканаў В. Насевіч.

Я. Анішчанка, В. Насевіч

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ ДА ГЕНЕРАЛЬНАЙ КАРТЫ

### НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

| Абазначэнне | Тлумачэнне |
|---|---|
| **ВІЛЬНЯ** | Сталіца Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (ВКЛ) |
| **МЕНСК** | Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай і губерняў Расійскай Імперыі |
| **ГОРАДНА** | Цэнтры паветаў ВКЛ |
| НЯСВІЖ | Цэнтры буйных уладанняў (валасцей) і іншыя гарады |
| Грэск | Мястэчкі |
| *Пагост* | Вёскі (сёлы), фальваркі |
| *Пагост* | Вёскі (сёлы), фальваркі і аколіцы (засценкі) |
| *Пагост* | Аколіцы, засценкі |
| Герваты | Цэнтры ўладанняў |
| (сімвал) | Касцёлы |
| (сімвал) | Уніяцкія цэрквы |
| (сімвал) | Праваслаўныя цэрквы |
| (сімвал) | Кляштары |
| (сімвал) | Уніяцкія манастыры |
| (сімвал) | Праваслаўныя манастыры |

### УЛАДАННІ ПАВОДЛЕ ТЫПУ ЎЛАСНАСЦІ

| Абазначэнне | Тлумачэнне |
|---|---|
| (кропка) | Дзяржаўныя (велікакняжацкія, гаспадарскія або каралеўскія) |
| (кропка) | Ленныя |
| (кропка) | Царкоўныя (духоўныя) |
| (кропка) | Магнацкія |
| (кропка) | Шляхецкія |
| (кропка) | Прыналежнасць не вызначана |

### МЕЖЫ

| Абазначэнне | Тлумачэнне |
|---|---|
| (лінія) | дзяржаў у другой палове XVIII ст. |
| (лінія) | ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай |
| (лінія) | ваяводстваў і паветаў Рэчы Паспалітай |
| (лінія) | уладанняў |
| (лінія) | Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь |
| (лінія) | Рэкі |
| (сімвал) | Азёры |
| (лінія) | Найважнейшыя дарогі (публічныя тракты, гасцінцы) |

Заўвага. У геаграфічным паказальніку да Генеральнай карты для тыпаў паселішчаў ужыты наступныя скарачэнні: ак. — аколіца; в. — вёска, фальварак; г. — горад; з. — засценак; м. — мястэчка; мн. — манастыр, кляштар; пг. — пагост. Пры вызначэнні тыпаў уладання ўжыты скарачэнні: дзярж. — дзяржаўная маёмасць; шл. — уладанне прадстаўнікоў дробнай шляхты, без пазначэння прозвішча.

# ЗБОРНЫ АРКУШ ГЕНЕРАЛЬНАЙ КАРТЫ „БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ ў канцы XVIII ст.“

На Генеральнай карце прадстаўлены беларускія землі ў канцы XVIII ст. на 51 асобным аркушы ў маштабе 1:300 000 (у 1 см 3 км). Аркушы пазначаны адпаведнымі нумарамі старонак і назвамі найбольш вядомых у той гістарычны час населеных пунктаў.






МЕЖЫ

дзяржаў у сярэдзіне XVIII ст.

залежных дзяржаў і тэрыторый; паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім

ваяводстваў і паветаў ВКЛ

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

ТРОЦКІ — Назвы паветаў


КУРЛЯНДСКАЕ ГЕРЦАГСТВА
(васал Рэчы Паспалітай да 1763 г.)
ІНФЛЯНЦКАЕ КНЯСТВА
ДЫНАБУРГ
ДРЫСВЯЦКАЕ СТАРАСТВА
воз. Дрысвяты
воз. Дзісна
воз. Авіліс
воз. Сартай
воз. Алаўшас
Рокішкі
Хбель
Дусяты
Таўрогыні
Дрысвяты
Відзы
Дукшты
Салакі
Дзісна
ВІЛЬКАМІРСКІ ПАВЕТ
АШМЕНСКІ ПАВЕТ






ІНФЛЯНЦКАЕ КНЯСТВА
(сумеснае ўладанне ВКЛ і Каралеўства Польскага)
БРАСЛАЎ
БРАСЛАЎСКАЕ СТАРАСТВА
АПЕСКАЕ СТАРАСТВА
ІКАЗНЯНСКАЕ СТАРАСТВА
воз. Дрывяты
воз. Снуды
воз. Сіверс
воз. Богінскае
Друя
Іказнь
Мёры
Пагост
Шаркаўшчына
Опса
Відзы
Краслава
Дзісна
ПОЛАЦКАЕ ВАЯВОДСТВА
БРАСЛАЎСКІ ПАВЕТ
АШМЕНСКІ ПАВЕТ


ВІЛЬКАМІРСКІ ПАВЕТ
АШМЕНСКІ ПАВЕТ
ВІЛЕНСКІ ПАВЕТ
ВІЛЬНЯ
Свянцяны
Лынтупы
Быстрыца
Астравец
Няменчын
Кальціняны
Лабанары
Малаты
Інтуркі
Дубінкі
Гедройцы
Шуты
Жэлядзь
Міхалішкі
Гервяты
Рудаміна
Меднікі
Солы
СТАРАСТВА
ДАУГЕЛІШКІ




БРАСЛАЎСКІ ПАВЕТ
АШМЕНСКІ ПАВЕТ
МЕНСКІ ПАВЕТ
Паставы
Дунілавічы
Стары Мядзел
Новы Мядзел
МЯДЗЕЛЬСКАЕ
СТАРАСТВА
Свір
Жодзішкі
Кабыльнік
Казьяны
воз. Нарач
воз. Мястра
воз. Баторына
воз. Свір
воз. Мядзел
МАРКАЎСКАЕ
СТАРАСТВА
Вішнева
Куранец


ТРОЦКІ ПАВЕТ
КАРАЛЕЎСТВА ПРУСІЯ
КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАЕ (КАРОНА)
ВІЖАНСКАЕ СТАРАСТВА
ФІЛІПАЎСКАЕ СТАРАСТВА
ГАРАДЗЕНСКАЯ ЭКАНОМІЯ
Віжаны
Пераросль
Філіпава
Сувалкі
Пуньск
Віграй
Даўспуда
Шчэбра
Аўгустаў
Райгорад
Барглаў
Лік
Алецка
Граева
Штабін
Краснапольле
воз. Сельмент-Вялікі
воз. Лясмяды
воз. Райгродзке
воз. Сайна
воз. Нецка
воз. Белае
воз. Сервы
ГАРАДЗЕНСКІ ПАВЕТ
22°30'
23°00'






КОЎЕНСКІ ПАВЕТ
ТРОЦКІ ПАВЕТ
ГАРАДЗЕНСКІ ПАВЕТ
ПРЫВАЛЬСКАЕ СТАРАСТВА
ГАРАДЗЕНСКАЯ ЭКАНОМІЯ
Сімна
Аліта
Лаздзея
Мерач
Нёман
Сейны
Бэрзнікі
Лішкаў
Друскенікі
Ратнічы
Перавалка
Гожа
ГОРАДНА
Азёры
Сапоцкін
воз. Дуся
воз. Сімнас
воз. Мятяліс
воз. Белае
23°30'
24°00'


МЕНСКІ ПАВЕТ
АШМЕНСКІ ПАВЕТ
МАРКАЎСКАЕ СТАРАСТВА
Вілейка
Маладзечна
Валожын
Івянец
Радашковічы
Ракаў
КРАСНАСЕЛЬСКАЕ СТАРАСТВА
РАДАШКОВІЦКАЕ СТАРАСТВА
КОЙДАНАЎСКАЕ ГРАФСТВА






БАРЫСАЎСКАЕ СТАРАСТВА
ГАЙНЕНСКАЕ СТАРАСТВА
ЛАГОЙСКАЕ ГРАФСТВА
БАРЫСАЎСКАЕ СТАРАСТВА
РАВАНІЦКАЕ СТАРАСТВА
ІГУМЕНСКАЯ ВОЛАСЦЬ
АРШАНСКІ ПАВЕТ
МЕНСКІ ПАВЕТ
МЕНСК
Барысаў
Гайна
Лагойск
Плешчаніцы
Смалявічы


ХАЛАПЕНІЦКАЕ ГРАФСТВА
ЧАРЭЙСКАЕ ГРАФСТВА
БАРЫСАЎСКАЕ СТАРАСТВА
ВЕЛЯЦІЦКАЕ СТАРАСТВА
БАРЫСАЎСКАЕ СТАРАСТВА
КРУГЛЯНСКАЕ
ПЫШАЦКАЕ СТАРАСТВА
ГІБАЙЛАЎСКАЕ СТАРАСТВА
ЯСМОНСКАЕ СТАРАСТВА
КЛЕЎСКАЕ СТАРАСТВА
БЯЛЫНІЦКАЕ
ЛЮБАШАНСКАЕ СТАРАСТВА
ІГУМЕНСКАЯ ВОЛАСЦЬ
БЯЛЫНІЦКАЕ ГРАФСТВА
Крупкі
Бобр
Талачын
Беразіно
Лошніца
Нача
Крушы
МЕНСКІ ПАВЕТ
АРШАНСКІ ПАВЕТ
Беразіна
29°00'
29°30'
54°30'
54°00'




СТАРАСЕЛЬСКАЕ ГРАФСТВА
КОПЫСКАЕ ГРАФСТВА
ШКЛОЎСКАЕ ГРАФСТВА
ЦЯЦЕРЫНСКАЕ ГРАФСТВА
ГАЛОЎЧЫНСКАЕ ГРАФСТВА
МАГІЛЁЎСКАЯ ЭКАНОМІЯ
БЫХАЎСКАЕ ГРАФСТВА
Магілёў
Шклоў
Копысь
Галоўчын
Цяцерын
Друцк
Дняпро
АРШАНСКІ ПАВЕТ
30°00'
30°30'
54°00'


МЕНСКІ ПАВЕТ
НОВАГАРОДСКІ ПАВЕТ
КОЙДАНАЎСКАЕ
ГРАФСТВА
НЯСВІЖСКАЕ КНЯСТВА
СЛУЦКАЕ
КНЯСТВА
КЛЕЦКАЕ
КНЯСТВА
Койданаў
Стоўбцы
Свержань
Мікалаеўшчына
Магільна
Пясочна
Нясвіж
Капыль
Клецк
Цімкавічы
Раманаў
Слуцк
Грэск






МЕНСКІ ПАВЕТ
НОВАГАРОДСКІ ПАВЕТ
ЦЭЛЬСКАЕ
СТАРАСТВА
СЛУЦКАЕ
КНЯСТВА
Ігумен
Дукора
Паляны
Дудзічы
Варонічы
Пухавічы
Шацк
Лапічы
Арэшкавічы
Серафін
Жыліна
Новыя Дарогі
Урэчча


АРШАНСКІ ПАВЕТ
МСЦІСЛАЎСКАЕ ВАЯВОДСТВА
МАГІЛЁЎСКАЯ ЭКАНОМІЯ
АЗЁРСКАЕ СТАРАСТВА
КРЫЧАЎСКАЕ
ЧУДЗЯНСКАЕ СТАРАСТВА
СТАРАСТВА
ПРАПОЙСКАЕ СТАРАСТВА
БЫХАЎСКАЕ ГРАФСТВА
БЫЧАНСКАЕ СТАРАСТВА
ПРАПОЙСКАЕ СТАРАСТВА
ГРЫБАЎСКАЕ СТАРАСТВА
КРЫЧАЎСКАЕ СТАРАСТВА
ЧАЧЭРСКАЕ СТАРАСТВА
РАСОХСКАЕ СТАРАСТВА
НЯМКОВІЦКАЕ СТАРАСТВА
РЭЧЫЦКІ ПАВЕТ
ПАПОВА ГАРА
Р А С
Чэрыкаў
Прапойск
Краснаполле
Карма
ЧАЧЭРСК
Сож
Гейшын






МСЦІСЛАЎСКАЕ ВАЯВОДСТВА
КРЫЧАЎСКАЕ СТАРАСТВА
КЛІМАВІЦКАЕ СТАРАСТВА
КРЫЧАЎСКАЕ СТАРАСТВА
КРЫЧАЎСКАЕ
СТАРАСТВА
ЧУДЗЯНСКАЕ СТАРАСТВА
Клімавічы
Касцюковічы
Бялынкавічы
Хоцімск
СУРАЖ
І Й С К А Я
І М П Е Р Ы Я
Іпуць
Беседзь

## БЕРАСЦЕ, Белая, Бельск, Каменец, Мельнік






## КОБРЫН, Гарадзец, Лыскаў, Пружана, Шарашова




РАЖАНСКАЕ ГРАФСТВА
ЗДЗІТАЎСКАЕ СТАРАСТВА
СЛОНІМСКАЕ СТАРАСТВА
ПІНСКАЯ ЭКАНОМІЯ
ДРУЖЫЛАЎСКАЕ СТАРАСТВА
ЮРКАВІЦКАЕ СТАРАСТВА
БЛУДЗЕНСКАЕ СТАРАСТВА
ЗЕЛАЎСКАЕ СТАРАСТВА
СЛОНІМСКІ ПАВЕТ
БЕРАСЦЕЙСКІ ПАВЕТ
ПІНСКІ
Ражана
Альшэў
Бездзеж
Драгічын
Моталь
Хомск
Здзітава
воз. Чорнае
воз. Белае
воз. Спораўскае
Ясельда






ЛІПСКАЯ ВОЛАСЦЬ
КЛЕЦКАЕ КНЯСТВА
ЛАГІШЫНСКАЕ СТАРАСТВА
НАВАГАРОДСКІ ПАВЕТ
ПАВЕТ
Пінск
Крывошын
Лагішын
Ліпск
Лунін
воз. Выганашчанскае
воз. Пагосцкае
Прыпяць
Ясельда


РЭЧЫЦКІ ПАВЕТ
НЯМКОВІЦКАЕ СТАРАСТВА
НАВІЛАЎСКАЕ СТАРАСТВА
РЭЧКАЎСКАЕ СТАРАСТВА
ЧАЧЭРСКАЕ СТАРАСТВА
ГОМЕЛЬСКАЕ СТАРАСТВА
ГАРДУНОЎСКАЕ СТАРАСТВА
ЛОЕЎСКАЕ ГРАФСТВА
РАСІЙСКАЯ ІМПЕРЫЯ
Хальч
Ветка
Карма
Кузьмінічы
Азарычы
Лоеў
Дняпро
Сож
Іпуць
Беседзь
Уза
Цата
Сноў
Любеч
Гомельская Гародня
Кузьмініцкая Гародня
Раскольніцкая Пустыня
Тырлава Пустыня
Яловa
Нехлюбка
Вышкаў
Злынка
Камень
Дзяніскавічы
Клюсы
Сенькаўка
Глыбоцкая
Мельнікаў Двор
Макаўе
Будзішча
Чараціанка
Новыя Юркавічы
Жывіца
Іванаўка
Старыя Юркавічы
Рудня Цата
Рудня Баранаўка
Кажанаўка
Папоўка
Круглавец
Усохі
Усохская Буда
Мікалаеўка
Дубраўка
Дарафееўка
Барычоўка
Серадка
Плутоўка
Быкі
Пярэрост
Харошаўка
Добруш
Харапуть
Галавінец
Лукаўе
Рамановічы
Чыстыя Лужы
Мар'іна Слабада
Лявонцева
Вылева
Дзям'янкі
Тонеч
Старое
Тарасаўка
Купрэйка
Папсуеўка
Косіцкая
Сівінкі
Бярэзкі
Ачэса
Бабовічы
Закружа
Цераблоўка
Пабуж
Барталамееўка
Вараб'ёўка
Галодна
Беседзь
Юркавічы
Радуга
Навапселкі
Стаўбун
Коўбаўка
Рудня
Жалезнікі
Святлілавічы
Акцынка
Навілаўка
Пяжкі
Нямкі
Глухаўка
Янова
Хлусы
Глыбаўка
Старыя Грамыкі
Новыя Грамыкі
Хізы
Несцераўка
Рэчкі
Рудня Шлягіна
Казімірава
Гарадзішча
Пакоўка
Хамінка
Карпаўка
Суткова
Мохаў
Абакумы
Казяроґі
Каўпені
Крупейкі
Каменка
Сінск
Шытцы
Бывалкі
Пятрушы
Лагуноўская Буда
Жгунь
Новы Крупец
Стары Крупец
Зябраўка
Старыя Лагуны
Перарост
Клімаўка
Прыбыткі
Прыбыткаўская Рудня
Дуянаўка
Насовічы
Запрудоўка
Старыя Івакі
Новыя Івакі
Тарлуны
Антонаўка
Нясочная Буда
Хутаранка
Вуць
Цераховіца
Грабаўка
Займішча
Ніўкі
Пракопаўка
Дзікалаўка
Краўцоўка
Міркавічы
Кусей
Дзеравіны
Весялоўка
Завідаўка
31°30'
32°00'
52°30'




МЕЛЬНІЦКІ ПАВЕТ
БЕРАСЦЕЙСКІ ПАВЕТ
БЯЛЬСКАЕ ГРАФСТВА
БРЭСЦКАЯ ЭКАНОМІЯ
МЕЛЬНІЦКІ ПАВЕТ
ОПАЛЬСКАЕ ГРАФСТВА
КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАЕ (КАРОНА)
ЛЮБЛІН
Вішніца
Вогін
Дакудаў
Ламазы
Міжрэчча
Пішчац
Радзінь
Парчаў
Любартаў
Палюбічы
Гарадзішча
Яблань
Гэнсь
Калена
Рудзянец
Радча
Рудная
Забалоцце
Бяэволь
Лісавольска
Асова
Камароўка
Віскі
Вялікае Прагаліна
Малое Прагаліна
Калаброд
Каменка
Россаш
Казлы
Карчоўка
Красоўка
Вітараж
Стрыжоўка
Даноўка
Дольга
Яноўка
Лячынка
Бурвін
Квасоўка
Дрэлеў
Лозкі
Шустка
Ворсы
Дубаў
Студзенка
Лубянка
Перкавічы
Агароднікі
Клоды
Орцель
Косюмевічы
Вечалкі
Палоскі
Траянаў
Вулька
Вычулкі
Вялікая Дубавіца
Харашчанка
Бокінка
Тучна
Качолы
Гушча
Стасеўка
Казаноўка
Бокінка
Капытнік
Равіны
Межылессе
Жукі
Зесчынка
Перахоd
Дубіца
Ліпінкі
Разводоўка
Сасноўка
Вынанка
Яноўка
Лыцева
Дайлалессе
Мутвіца
Чапулька
Даныы
Ганна
Рамацаў
Русілы
Опаль
Грабоўка
Пагарэлае
Галешаў
Баяры
Нехі
Дубаў
Масты
Залессе
Галоўна
Маранька
Хмелеў
Паколі
Любічын
Кадзянец
Вылалеў
Канюхі
Загайкі
Красоўка
Канстанцін
Жукаў
Капляносы
Каралеўка
Няцкі
Мастоцы
Крывая Верба
Харостыт
Замалядзічы
Ліпоўка
Любінка
Голя
Маранка
Вярэйкі
Саснавіца
Сухова
Залучча
Быстшыца
Вяпш
Тысьменіца
Сьвінка
Цемена
Уладаўка
Кшна
Вялка
Бяўка
Рудка
Зеленка
22°30'
23°00'
23°30'
52°00'
51°30'



БЕРАСЦЕЙСКІ ПАВЕТ
23°30'
24°00'
24°30'
52° 00'
51° 30'
КОДЗЕНСКАЕ
ГРАФСТВА
БЕРАСЦЕЙСКАЯ
ЭКАНОМІЯ
КАРАЛЕЎСТВА
(КАРОНА)
Каусьняя
Віскупская Камяніца
Радовічы
Хабовічы
Лебедзева
Дабратычы
Казаноўка
Прылукі
Падлессе
Навасёлкі
Бельск
Капытаў
Кастамлоты
Чарняны
Ліпава
Окшын
Дарапеевічы
Конты
Загораў
Скрадзеж
Фаўстынаў
Масевічы
Пажэжын
Вялікая Рыта
Кляшчыча
КОДЗЕНЬ
Дабрамысль
Дурычы
Рамятова
Забалацце
воз. Лукаўскае
Лукава
Барысаўка
Воса
Ляншкі
Вулька
Медна
Забалоцце
Разбітоўка
Бродзятын
Збунін
Гвозніца
Яблочнае
Макраны
Картэлесы
Лешна
Славятычы
Маларыты
Ляхаўцы
Збураж
Ляплёўка
Кабелька
Дамачаў
Кузоўка
Падлужжа
Чэрэск
Радзеж
воз. Олтушскае
Хаціслаў
Олтуш
Даўгабады
Харсы
Дубок
Тур
воз. Арэхаўскае
Прыбарава
Хрыпск
Арэхава
воз. Турскае
Ратна
Рачанка
Селяхі
Пішча
Забалацце
Сошна
Камароўка
Уладава
воз. Пулемецкае
Пулемец
Шацк
воз. Свіцязскае
Свіцязь
воз. Люцамер
Прыпяць
Віжва
Забужжа
Буг
Рыта
Прыпяць
Выжаўка








25°00'
25°30'
52° 00'
51° 00'
ПІНСКІ ПАВЕТ
РАТНЕНСКАЕ
СТАРАСТВА
ЭКАНОМІЯ
ПОЛЬСКАЕ
ЛЮБЯШОЎСКАЕ
ГРАФСТВА
Восады
Ляхавічы
Кублікі
Беліна
Беліно
Оўзічы
Жораўка
Ралазаніч
Гнейчыцы
Гліная
воз. Любань
Дзівін
Павіцце
Радастаў
Сварынь
Страмеч
воз. Пясчанае
Баландзічы
Адрыжын
Лелікаў
воз. Белае
воз. Скоринь
воз. Валянскае
Веглы
Прыпяць
Горкі
Дольск
Шлапаны
Хоцін
Цыр
Ляхавічы
Любяж
воз. Любяж
Рэчыца
Заручайе
Быхаў
Дзераволь
Любяшоў
Любяшоўская Воля
Рудка
Бярэзеч
Ўгрынічы
Пнеўна
Волька
Броніца
Камень
Таболы
Старое Чэрвішча
Новае Чэрвішча
Аленіна
Несухаеж
Градзіск
Гарадок
Тур'я
Стаход


ПІНСКАЯ ЭКАНОМІЯ
ПІНСКАЯ ЭКАНОМІЯ
КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАЕ
(КАРОНА)
Нобель
Востраў
Гарадная
Пагост
Рэчыца
Прыпяць
Стыр
Піна
Стаход
Вясляха
Стубла
Гарынь
Руцк
Зарулле
Пінікова
Канятоп
Людзінавічы
Патапавічы
Перагуб
Кужалічын
Волька-Беражная
Махры
Ячкавічы
Будашы
Бяслебічы
Стахавічы
Кончыцы
Жытнавічы
Завідчыцы
Статычава
Сачкавічы
Іванікі
Мясткавічы
Масквічы
Красава
Віляцічы
Новыя Дзікавічы
Вялікі Дварац
Малы Дварац
Старыя Дзікавічы
Волька
Хойна
Жыдча
Семяховічы
Гарынічы
Невель
Омыт
Прыкладнікі
Камары
Дубчыцы
Сенчыцы
Свалавічы
Бучын
Задзужжа
Кушн
Храпін
Лахніца
Кухча
Судча
Жалезніца
Кухоцкая Воля
Марочна
Мутвіца
Нянькавічы
Старыя Коні
Губін
Мурович
Прыветаўка
Вольчыцы
Цялковічы
Дубровск
Перакалле
Белас
Баравос
Вялікія Цялковічы
Бышлякі
Мульчыцы
Азяры
Андрусі
Пара
Лазаражжа
Іванчыцы
Сернікі
Бронніца
Сварынчавічы
Вычайка
Азерск
Востраў
Весня
Ласіцк
Жоўкіна
Нячатава
Фядоры
Калонск
Дзераўня
Горын
Плешчыцы
Сярнічкі
Крывое
Хлябы
Лосічы
Мароэавічы
Лапаціна
Кайбы
Канюхі
Грыцкавічы
Ясямічы
Булгары
Лемяшэвічы
Чорнава
Мясачыцы
Польскава
Тупчыцы
Хрыстовалатавічы
Шаломічы
Барышчавічы
Біжаравічы
Паросцы
Асовавічы
Гальцы
Караулавічы
Вульвічы
Цірвовічы
Кастраў
Залатая
Мачулішчы
Старая Дубровіца
Лутвінка
Крывіца
Крупа
Яцукі
Заляшаны
Грані
Грыцькаў
Бяроза
Дамброўская Ніва
Урванец
Пацукі
Саламярач
Беражное
Куражэ
Рэмчыцы
Цепцавічы
26°00'
26°30'
52°00'
51°30'
ПІНСКІ ПАВЕТ






ДАВЫД-ГАРАДОЦКАЕ КНЯСТВА
ТУРАЎСКАЕ ГРАФСТВА
КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАЕ (КОРОНА)
Давыд-Гарадок
Асавец
Дубровіца
Плотніца
Столін
Гарынь
Стыр
Льва
Маства
Случ
Сцвіга
Пліцца
Стахава
Ястрамбля
Зарэчча
Лядцо
Хорск
Альшаны
Сямігосічы
Малешава
Бродча
Сінюк
Цярабічча
Вітязеўцы
Дубай
Магільна
Вялікія Арлы
Малыя Арлы
Дубенец
Гарадзец
Туры
Старое Сяльцо
Лісовічы
Рамель
Альгомя
Турок
Велямічы
Мачуль
Цераблічы
Адамічы
Кароцічы
Харомск
Вуталец
Альпень
Рухча
Відзібор
Цмень
Бяражное
Рубль
Рачык
Юнішча
Белавуша
Хотамля
Глінка
Атверджыцы
Лукі
Манькавічы
Вікаравічы
Рэчыца
Церабяжоў
Стругва
Воран
Гарадзішча
Бухлічы
Смарадк
Тумень
Востраў
Альманы
Брадзец
Удрыцк
Перабродзы
Высоцк
Жадунь
Рудня
Лукаўна
Міляч
Бялзімля
Вялунь
Белая
Дроздын
Сухі
Пераходзічы
Старое Сяло
Колкі
Вяжыца
Бярозава
Азёры
Заслужжа
Вербічы
Глінна
Харапунь
Радзілавічы
Калкі
Красева
Лубікавічы
Віляцічы
Ельна
Строльск
Карпілаўка
Глушыцы
Рудня
Бляжова
Белавеж
Люхча
Сохі
Сабечын
27°00'
27°30'
52°00'
51°30'
ПІНСКІ ПАВЕТ


РЭЧЫЦКІ ПАВЕТ
МАЗЫРСКІ ПАВЕТ
ЗАГАЛЬСКАЕ СТАРАСТВА
КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАЕ (КАРОНА)
ЛОЕЎСКАЕ ГРАФСТВА
ЁЛЧАНСКАЕ СТАРАСТВА
30°00'
30°30'
52° 00'
51° 30'
Ізбынь
Хобнае
Дзеравішчы
Муціжары
Вялікі Бор
Дубровіцы
Амелькаўшчына
Старчава
Вужынец
Макліщчы
Рашава Слабада
Удалёўка
Ястрабкі
Міхалёўка
Гарошкава
Баршчоўка
Агароднікі
Хвойня
Кураво
Нябытава
Рудня
Алексічы
Глінішча
Багуслаўцы
Княжыцы
Кляцы
Тунеўшчына
Загалле
Казялужжа
Хойнікі
Запашны
Гноева
Суцькоў
Валокі
Петрыцкая
Ручаёўка
Карчомка
Песачанка
Барысаўшчына
Храпкаў
Вялеўін
Лісцвін
Мікулічы
Пажаркі
Дамамірка
Дворышча
Шкураты
Лутава
Высокае
Стралічаў
Звяняцкая
Губаровічы
Бакуны
Кавакі
Сялец
Навасёлкі
Рудакоў
Кавалі
Буркі
Макрыцы
Цясная
Чахі
Рады
Сабалі
БРАГІН
Бабчын
Вязок
Астраглады
Дзяражычы
Сяўкі
Тульгавічы
Бераснёўка
Глухавічы
Варатыц
Алешкаўка
Багушы
Дублін
Крыўча
Малежын
Глушэц
Хатучы
Юркавічы
Нудзічы
Карпавічы
Чамярысы
Жылічы
Кажушкі
Дняпро
Брагінка
Цешкава
Пясочная Слабада
Хракавічы
Прыпяць
Проскіны
Вяжышча
Цалуйкі
Савічы
Грушна
Асяровічы
Нежыхава
Дзёрнавічы
Аравічы
Жалонь
Радзін
Сувіды
Галкі
Вялле
Пірк
Малочкі
Краснаселле
Калужына
Баршчоўка
Уласы
Крукі
Ёлча
Масаны
Каперанкі
Беласарокі
Баравікі
Калыбань
Камарын
Шапелічы
Чыкалавічы
Гдзена
Жары
Іллы

## БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ НА КАРТАХ XVII – **другой паловы XVIII ст.**

XVII–XVIII стст. — перыяд далейшага развіцця ў картаграфаванні той часткі Усходняй Еўропы, дзе знаходзіліся беларускія землі. Тады яны ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай (Люблінская унія 1569) у якасці ваяводстваў і паветаў. Старажытная картаграфія Беларусі гэтага часу ў другім томе прадстаўлена ў большасці рэпрынтамі ці адрэстаўраванымі фрагментамі твораў заходнееўрапейскіх майстроў. Спачатку яны выкарыстоўвалі інфармацыю, што чэрпалася са знакамітых карт і атласаў вядомых картографаў і выдаўцоў: Г. Меркатара, А. Артэлія, Г. дэ Ёдэ, сямейства Хондыюсаў, Я. Янсана, сямейства Блау ды інш. Безумоўна, іх дзейнасць годна прадстаўляла „залаты век" старажытнай картаграфіі. Але распаўсюджванне ідэй Рэнесансу і Асветніцтва ў спалучэнні з навукова-тэхнічнымі дасягненнямі вялі да новых, больш дакладных і падрабязных поглядаў на картаграфічнае адлюстраванне асобных рэгіёнаў Зямлі. Гэта таксама супадала і з гандлёва-эканамічнымі памкненнямі еўрапейскага грамадства, і са знешняй палітыкай дзяржаў. Да таго ж трэба было ўлічваць працэс асваення зямель, з'яўленне новых населеных пунктаў, шляхоў зносін, мясцовай гаспадарчай дзейнасці і г. д. Паступова галоўнымі крыніцамі становяцца карты, што ствараліся непасрэдна на месцы. Яскравым прыкладам стала з'яўленне ў пачатку XVII ст. „Радзівілаўскай карты" — **Magni Ducatus Lithvaniae (Вялікае Княства Літоўскае) (1)**. Такія выдатныя творы займалі адпаведнае месца ў заходнееўрапейскіх атласах, пры гэтым нямала карт ва ўсходняй частцы Еўропы змяшчалі пачэрпнутую адтуль інфармацыю. Іх змест у прывабным выглядзе зноў вяртаўся на месца свайго ўзнікнення. Традыцыйна ўсе надпісы друкаваліся на латыні, якая з'яўлялася тады агульнапрынятай мовай навукі. Але праз лацінізаваныя назвы можна разгледзець тагачасную беларускую тапанімію, наогул, уявіць адказы на гісторыка-геаграфічныя пытанні, што тычацца беларускай мінуўшчыны разглядаемага часу. Асаблівае значэнне для гісторыі Беларусі атрымалі карты, якія былі апублікаваныя ці рыхтаваліся да друку ў т. зв. „станіслаўскую эпоху" (60–80-я гг. XVIII ст.). Яны шырока і падрабязна прадставілі значную частку тагачаснай польска-літоўскай дзяржавы напярэдадні яе падзелаў.

Памянёная карта **„Вялікае Княства Літоўскае"** стала першым картаграфічным помнікам, створаным на тэрыторыі Беларусі — у Нясвіжы, пад непасрэдным кіраўніцтвам князя **Мікалая Хрыштафа Радзівіла „Сіроткі"** (1549–1616). Былі выкарыстаны розныя геаграфічныя крыніцы і мясцовыя апісанні, якія князь-мецэнат сабраў у сваёй нясвіжскай рэзідэнцыі. Праца над гэтым манументальным творам пачалася, відаць, хутка пасля вяртання Радзівіла з падарожжа на Бліжні Усход і Егіпет (прыкладна з канца 90-х гг. XVI ст.). Выканаўцам арыгінала (т. зв. „брульёна", з намаляванай „ад рукі" выявай, подпісамі, картушамі і т. п.) лічыцца **Тамаш Макоўскі** (1575–1630), які адвёз яго ў Амстэрдам. Тут у афіцыне **Вілема Блау** (1571–1638) у **1613** г. карта была надрукавана з медзярытаў, штыхаваных **Гэселем Гэрытсам** (1581–1632). Звычайна яе факсімільная копія і выкарыстоўваецца сучаснымі даследчыкамі. Так еўрапейская картаграфія ў пачатку XVII ст. атрымала зусім новы твор, насычаны рэальнай інфармацыяй. Апрача паясняльных тэкстаў у картушах, дакладным азначэннем фізіка-геаграфічных аб'ектаў, дзяржаўных і іншых межаў, асабліва выдзялялася шматлікасць населеных пунктаў (у беларускіх паветах — больш за трыста). „Радзівілаўка" ў выглядзе асобных ці атласных карт карысталася шырокім попытам амаль усё XVII ст. Але пры выдатным для свайго часу прадстаўленні тэрыторыі, назва „Беларусь" пакуль адсутнічала, бо яе паветы, як вядома, адміністрацыйна ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Падчас т. зв. „патопу" (шведскай акупацыі часткі Рэчы Паспалітай у 1655–1660) адзін з экзэмпляраў „Вялікага Княства Літоўскага" трапіў да шведаў і зараз захоўваецца ў бібліятэцы Упсальскага ўніверсітэта.

Першым, хто адважыўся ўвесці ва ўжытак назву "Russia Alba" — „Белая Русь" і ў загалоўку, і на самім картаграфічным полі, прывязаўшы яго да паўночна-ўсходняй часткі беларускіх зямель (Полацкае і Віцебскае ваяводствы, частка Мінскага), стаў **Гіём дэ Баплан** (каля 1600–1675), француз-гугенот на службе ў караля Рэчы Паспалітай. Асноўнай яго прафесіяй было будаўніцтва ўмацаванняў. Пратэстантызм інжынера-фартыфікатара не спадабаўся каталікам Рэчы Паспалітай, таму ён вымушаны быў пакінуць гэтую краіну, а ў далейшым заняцца картаграфіяй. Выкарыстаўшы матэрыялы сваёй папярэдняй працы — здымкі на мясцовасці і ўласныя разлікі, ён значна ўдакладніў абрыс нашых зямель. Яго невялікі па памерах твор, змешчаны ў „Атласе" (Гданьск, **1651**), насіў назву **Magnus Ducat: Lithuaniae et Russia Alba (Вялікае Княства Літоўскае і Белая Русь) (2)**. Менавіта яна і лічыцца першым сур'ёзным доказам паступовага замацавання назвы „Беларусь" да канкрэтнай тэрыторыі. У гэтым жа „Атласе" побач з генеральнай картай Рэчы Паспалітай можна ўбачыць і выяву самога картографа.

Распаўсюджванню картаграфічных твораў вельмі садзейнічала развіццё друкавання. Як выглядаў такі працэс, можна ўбачыць на выяве тагачаснай друкарні, якая змешчана ў канцы нарыса. Гэта была даволі цяжкая праца: з чарнавых брульёнаў на медных дошках штыхаваўся арыгінал, з якога потым рабіліся адбіткі на паперы. Наклад іх быў не надта вялікі — ад адной да некалькіх соцень, пры гэтым якасць паступова зніжалася. Каб надаць такім адбіткам належны і прывабны выгляд, іх „ілюмінавалі" — размалёўвалі акварэллю ад рукі. Таму нярэдка адны і тыя ж карты разглядаемага часу маюць значныя адрозненні па каларыстыцы, хаця іх „чорны" змест аднолькавы.

Другая палова XVII ст. пачыналася з драматычных падзей у гісторыі польска-літоўскай дзяржавы. Нацыянальна-вызваленчая барацьба беларускага і ўкраінскага сялянства і казацтва (у польскай гістарыяграфіі — „грамадзянская вайна") дапоўнілася памянёным „патопам" — гадамі нашэсця шведаў, а таксама вайной з Расіяй. Адным з эпізодаў тых падзей, непасрэдна звязаных з гісторыяй Беларусі, з'яўляецца вядомы штых **Эрыка Дальбэрга** (1625–1703) **Vrbs et Castellum Brestzie Litewski (Горад і замак Брэст-Літоўскі)** — аблога Берасця шведамі ў **1657** г. Факсімільная копія з гэтага арыгінала была прыслана шведскімі калегамі для экспазіцыі музея „Брэсцкая крэпасць". У другім томе „Гістарычнага атласа" змешчаны адрэстаўраваны рэпрынт гэтай выявы **(3)**.

Сярод заходнееўрапейскіх дзяржаў, якія ў XVII–XVIII стст. выходзілі на новыя пазіцыі ў картаграфічных справах, асаблівае месца належыць Францыі і яе знакамітаму прадстаўніку **Нікаля Сансону д' Абэвілю** (1600–1667). У яго шматлікіх творах (атласах і асобных картах) знайшлося месца і для прэзентацыі беларускіх зямель, нават асобных частак (партыкуляраў) — ваяводстваў у дастаткова буйным маштабе **(4–7)**. Гэтыя карты выйшлі ў **1665–1666** гг. Іх арыгінальныя адбіткі захоўваюцца ў фондах замка-музея Радзівілаў у Нясвіжы. Пазней работы Н. Сансона перадрукоўваліся яго нашчадкамі і паслядоўнікамі. Прыкладам можа служыць карта **Estats de Pologne (Генеральная карта Польшчы)**, **1685 (8)**, аўтарам якой з'яўляецца **Алексіс Жубер Жалiё** (1632–1712). Адзін з арыгіналаў знаходзіцца ў калекцыі **Тамаша Неваднічанскага** (1933–2010) "Imago Poloniae", якая размешчана ў Каралеўскім замку (Варшава). *(Далей пры падобнай спасылцы—„Калекцыя Т. Неваднічанскага". Аўт.)*

Апошняя чвэрць XVII ст. прадстаўлена даволі значнай колькасцю карт, на якіх адлюстравана тэрыторыя Беларусі. Яны адрозніваліся ад папярэдніх твораў толькі ўзрослай якасцю дэкора (картушы-віньеткі, аздобныя рамкі, алегорыі, малюнкі гарадоў, гербы, розныя гістарычныя падзеі, партрэты каралёў, прынцаў, военачальнікаў і г. д.), але інфармацыя не стала больш дакладнай. Нярэдка пад чарговай назвай крыўся папярэдні твор, рабілася кампіляцыя. Такой, напрыклад, з'яўляецца **Nova totius Regni Poloniae, Magnig Ducatus Lithuaniae (Новая выява Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага)**, **1675 (9)** з партрэтам караля Яна Сабескага. Праўда, большасць выдаўцоў усё ж такі выконвала прывілейныя патрабаванні і змяшчала імёны сапраўдных творцаў. Падобныя карты, якія атрымалі назву „бапланаўскай серыі", захоўваюцца ў шэрагу бібліятэк і архіваў Польшчы.

Тым не менш, некаторыя творы падобнай серыі выклікаюць немалую зацікаўленасць. Сярод іх — **Lituania (Вялікае Княства Літоўскае)** венецыянскага вучонага **Вінчэнца Каранэлі** (1650–1718) **(10)**, якая была прысвечана заснавальніку бельканта П'етра Кавалі. Пазней яна была змешчана ў знакамітым атласе гэтага аўтара "Atlante Veneto" (1691–1696). Па-ранейшаму шырокі попыт мела прадукцыя галандскай сям'і **Данкертсаў**: **Юстус Данкертс (1635–1701) — Regni Poloniae et Ducatus Lithuaniae...(Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае...)**, каля **1695 (11)**. Спробы пашырэння дадзеных і абнаўлення картаграфічнага поля назіраліся і ў іншых галандскіх аўтараў у канцы XVII — пачатку XVIII ст. Тут у лепшы бок выдзяляюцца творы **Караля Аларда** (1648 — каля 1706) — **Regni Poloniae Magni Ducatus Lithuaniae (Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае)**, **1696 (12)** і, асабліва, — **Пітара Шэнка** (1661–1711) — **Regni Poloniae, Magnigue Ducatus Lithuaniae...(Каралеўства Польскае, Вялікае Княства Літоўскае...)**, **1704 (13)**. Карта Пітара Шэнка не мае традыцыйнага загалоўка ў картушы, тут змешчана прысвячэнне Фрыдрыху Аўгусту, якога меркавалі абраць каралём. На прастол Рэчы Паспалітай ён не сеў, а карта засталася. Гэта адна з першых карт, на якой назва **"Russia Alba"** заняла па дыяганалі прастору ад Берасцейскага да Віцебскага ваяводстваў, што ў значнай ступені адпавядае сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Рэпрадукцыі гэтых карт з апісаннямі надрукаваны ў сучасным польскім выданні **"POLONIA"** (2005).

У пачатку XVIII ст. Галандыя яшчэ захоўвала лідарства ў картавыданні. Але паступова не горшыя па афармленні карты і атласы сталі множыцца і ў суседзяў. Так, у Нюрнбергу пачало дзейнічаць знакамітае выдавецтва **Гоманаў**. У **1707** г. тут была надрукавана даволі змястоўная карта **Regni Poloniae, Magnigue Ducatus Lithuaniae...(Каралеўства Польскае, Вялікае Княства Літоўскае...) (14)**, аўтарам якой стаў выдавец-заснавальнік **Іаган Гоман** (1664–1724). Гэты твор неаднаразова потым перавыдаваўся, а ў загалоўным картушы толькі адлюстроўвалася знешняя і ўнутраная палітычная сітуацыя Рэчы Паспалітай (панаванне саксонскіх Аўгустаў, караля Ляшчынскага, Станіслава Аўгуста Панятоўскага, пачатак падзелаў і т. п.). Дарэчы, у Галандыі, якая па інерцыі яшчэ спрабавала канкурыраваць з іншымі краінамі, нашчадкамі розных картаграфічных афіцын усё часцей становяцца іншаземцы. У Амстэрдаме, напрыклад, шырокую вядомасць атрымаў француз **Анры Шатэлен** (1684–1743). Ён лічыцца адным з галоўных распрацоўшчыкаў гісторыка-тэматычных карт, пачатак якім паклаў яшчэ Артэліус у XVI ст. Шатэлен — складальнік і аўтар сямітомнага „Гістарычнага атласа", які друкаваўся ў Амстэрдаме (1705–1720) з выкарыстаннем картаграфічных асноў І. Гомана і **Гіёма Дэліля** (1675–1726), французскага картографа. Для гісторыі Беларусі значэнне мае твор Шатэлена з гэтага атласа — **Carte de Pologne, avec la Chronologie des Rois et des Ducs de Lithuanie...(Карта Польшчы (Рэчы Паспалітай) з храналогіяй каралёў і вялікіх князёў літоўскіх...)**, **1714** з храналагічнымі табліцамі і геральдыкай, аўтарам якіх з'яўляецца **Нікаля Гудэвіль** (каля 1654–1721) **(15)**. А ў самой Францыі ў гэты час актыўна дзейнічала сямейства **Касіні**, астраномаў і геадэзістаў, выхадцаў з Італіі. Яны распрацавалі і ўвялі ў практыку прынцып градусных вымярэнняў і трыангуляцыйных здыманняў (1734), што рэзка падняло ўзровень дакладнасці картаграфічных твораў. Арыгіналы памянёных карт сабраны ў калекцыі Т. Неваднічанскага.

Бліжэй да сярэдзіны XVIII ст. большасць карт, якія прадстаўляюць Цэнтральную і Усходнюю Еўропу, друкавалася ў Нямеччыне. Працягвалі сваю дзейнасць нашчадкі Гомана, з'яўляліся новыя аўтары, якія аператыўна выкарыстоўвалі свежую інфармацыю. Усё часцей у помніках таго часу сустракаецца назва **"Russia Alba"**. Адным з пацвярджэнняў з'яўляецца творчасць нямецкага картографа і матэматыка **Табіяша Маера** (1723–1762). У шэрагу яго карт была выкарыстана праца польскага картографа беларускага паходжання **Яна Няпрэцкага** (1718–1750). Маер спачатку рэдагаваў яго карту **Magn. Ducatus Lithvania (Вялікае Княства Літоўскае) (16)** і надрукаваў яе ў Нюрнбергу ў **1749** г., а следам з'явілася маераўская **Mappa Geographica Regni Poloniae (Геаграфічная карта Каралеўства Польскага)**, **1750 (17)**. У частцы, дзе размяшчалася Вялікае Княства Літоўскае, зноў прысутнічае надпіс **"Russia Alba"**— ад Берасцейшчыны да Віцебшчыны. Картаграфічныя матэрыялы гэтага часу знаходзяцца ў шэрагу бібліятэк і архіваў Польшы і Нямеччыны.

Значны крок у картаграфаванні тэрыторыі Беларусі зроблены ў сямідзесятыя гады XVIII ст. Гэта быў час панавання апошняга караля Рэчы Паспалітай **Станіслава Аўгуста Панятоўскага** (кароль польскі і вялікі князь літоўскі 1764–1795, нарадзіўся ў беларускім Воўчыне, недалёка ад Берасця, у 1732 г.). Манарх, нягледзячы на катастрафічныя вынікі сваёй знешняй палітыкі, праславіўся як рэфарматар і мецэнат, у тым ліку — значнымі ініцыятывамі ў падрыхтоўцы і выданні новага тыпу карт. Сярод „каралеўскіх картографаў" першынство належыць **Каралю Пэртэсу** (1740–1815), які паходзіў з сям'і французскіх гугенотаў, што перасяліліся з-за рэлігійнага ганення ў Саксонію. Пэртэс, працуючы ў якасці вядучага картографа пры двары Станіслава Аўгуста амаль з першых дзён абрання таго каралём, стварыў вялікую колькасць карт польска-літоўскай дзяржавы, у тым ліку — даволі падрабязных.

